@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя



ISSN 2617-2305

№ 4 – 2018

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ: МЫ З ВОГНЕННАЙ ВЁСКІ



ПРАГУЛЯЛІ ДЗЯРЖАВУ: РАДЗІВІЛЫ І ФЕЕРВЕРКІ

ЯК СТАЛІН ПАСТАВІЎ СЯЛЯН НА КАЛЕНІ

ПЛАТОН ЛЯЧЫЦКІ: ЯК СТАЦЬ ГЕНЕРАЛАМ

АМЕРЫКАНСКІ ГАНГСТАР У НЯСВІЖЫ. КАРУПЦЫЯ, ПАДРОБКА ДАКУМЕНТАЎ І ПРАСТЫТУЦЫЯ

КОМІКСЫ: АЛМАЗЫ СЯРГЕЯ ПЯСЕЦКАГА ФРАНЦЫСК. МАРГАРЫТА

16+

## ЯК БЫКАЎ СТАЎ БЫКАВЫМ

**Наша Гісторыя**
4/2018
www.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар** Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснік галоўнага рэдактара** Аляксандр Пашкевіч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



На першай старонцы вокладкі — фота Анатоля Клешчука.

**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 12.11.2018.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова № 1016/18.
Наклад 7 000 асобнікаў.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014 да 9.03.2019.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

**Ад рэдакцыі**

Разглядаючы гісторыю, немагчыма пісаць толькі пра светлае і пазітыўнае. Бо колькі існуе чалавецтва — столькі яго шлях суправаджаецца войнамі, самадурствам дэспатычных уладароў, жахлівымі сацыяльнымі эксперыментамі.
XX стагоддзе пабіла тут усе рэкорды. Менавіта на яго прыпалі дзве сусветныя вайны, якія па маштабах і колькасці ахвяр не мелі прэцэдэнтаў. А таксама ўсталяванне дзвюх таталітарных сістэм, якія хацелі падпарадкаваць сабе ўвесь свет. Жыхарам Беларусі давялося на ўласнай скуры напоўніцу адчуць нялюдскасць абедзвюх.

У гэтым нумары «Нашай гісторыі» чытач знойдзе некалькі матэрыялаў, у якіх гаворка вядзецца пра страшныя трагедыі. Калектывізацыя і Галадамор, Халакост, карныя аперацыі нацыстаў... Гэта толькі вяршыня айсберга, толькі найбольш жахлівае і сімвалічнае з таго, што было сумнай рэальнасцю яшчэ адносна нядаўна. І што ўплывала, уплывае і будзе ўплываць і на сучаснасць, і на будучыню.

Сталінскі і гітлераўскі рэжымы мелі шмат супольных рысаў, але перадусім іх аб'ядноўвала стаўленне да людзей як да расходнага матэрыялу для сваіх «высокіх» задач. Лёсы адзінак не значылі анічога, бальшавікі і нацысты мыслілі выключна катэгорыямі цэлых сацыяльных груп. І калі глабальныя інтарэсы рэжымаў патрабавалі шматтысячных ці нават шматмільённых ахвяр — то іх без ваганняў прыносілі.

Сёння цяжка нават уявіць, што давялося перажыць нашым дзядам-прадзедам. Ад пачатку Першай сусветнай вайны ў 1914 годзе ад іх рэгулярна і безапеляцыйна патрабавалі складаць ахвяры то на алтар чарговай перамогі над ворагам, то дзеля ўтапічных ідэй пабудовы новага, нібыта больш справядлівага грамадства, а то і проста для рэалізацыі бягучых тактычных планаў кіраўнічай вярхушкі. У такой сітуацыі чалавеку было цяжка забяспечыць сабе годнае жыццё, а часам і проста фізічна выжыць. А жыць, натуральна, хацелася.

Магчымасць індывідуальнага выбару чалавека звужалася да самага мінімуму, а часам магчымасці такой не было зусім. Бо які можа быць выбар, калі нехта наверсе, хто валодае абсалютнай уладай, ужо прыняў рашэнне аб калектыўнай віне і, адпаведна, калектыўнай адказнасці цэлай супольнасці? А таму, нават калі ты толькі-толькі нарадзіўся на гэты свет і яшчэ трымаешся за матчыну спадніцу, ты ўсё адно ўжо асуджаны на смерць і мусіш разам з іншымі паміраць ад голаду ў абрабаванай вёсцы. Стаяць на краі свежавыкапанага рова-магілы. Задыхацца ад дыму і гарэць жыўцом у падпаленай адрыне. Віна ж твая толькі ў тым, што ты воляй сляпога лёсу прыналежыш да людзей, якім няма месца ў свеце, запланаваным бяздушнымі стваральнікамі ідэалагічных канцэпцый.

Гэта было не дзесьці, а тут, у нас і з нашымі продкамі. І было ў гістарычным вымярэнні нядаўна.

У спадчыну нам застаецца памяць. Належнае асэнсаванне гісторыі мусіла б стаць надзейнай прышчэпкай і для цяперашніх, і для наступных пакаленняў, каб тыя жахі больш ніколі не паўтараліся. Вось чаму мы пішам пра гэта ў «Нашай гісторыі».


4


22


36


50




46




42


54


85


66


59




Што,
зноўку?
92


78




**Графіці ў Віцебску.** Мастакі Глеб Каштанаў і Ян Кузьмін.

ФОТА ПАВЕЛ ВУР, SPUTNIK.BY

# Як БЫКАЎ стаў Быкавым

**Што зрабіла Быкава вялікім пісьменнікам? Безумоўна, вайна, смерць, якой ён глядзеў у вочы. Але з успамінаў Быкава і яго сучаснікаў вынікае, што вырашальнай была доўгая служба ў арміі ў пасляваенны час — чужая яго душы. А таксама кацёл вальнадумнага Гродна, піша Андрэй Скурко.**

Эрнест Хэмінгуэй казаў, што найлепшая школа для пісьменніка — нешчаслівае дзяцінства, маючы на ўвазе сябе. Цікава, якое азначэнне гэты сын доктара і опернай спявачкі з Оўк-Парка, штат Ілінойс, знайшоў бы для дзяцінства ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна ў 1930-я? Тут трэба быў бы, хутчэй, талент Гарыет Бічэр-Стоу.

Уявім, што маленькі Гары з «Хаціны дзядзькі Тома», сын бяспраўных рабоў, вырастае і робіцца Хэмінгуэем. Падобны да гэтага шлях прайшоў Васіль Быкаў — пісьменнік, які апісваў стан непазбежнасці і цяжкога выбару. Стану, у якім ён і яго краіна пражылі доўгія гады. Але сялянскіх дзяцей былі мільёны, а Быкаў такі адзін.

Я стаю на мяжы, я іду па нажы
Божа, дапамажы
Захаваць раўнавагу.

Быкаў і нарадзіўся на мяжы — беларуска-беларускай. Да 1939-га мяжа ішла за два кіламетры ад яго Бычкоў. А маці Ганна Рыгораўна нават паходзіла з вёскі Завулак, што пасля Рыжскага міру 1921-га засталася на польскай тэрыторыі. (Там дагэтуль існуюць побач Завулак-Літоўскі, дзе жылі каталікі, і Завулак-Рускі, дзе жылі праваслаўныя.)Там жыў яе брат, з якім дваццаць даваенных гадоў не было ніякай сувязі. І Ганна ўсё бедавала, наслухаўшыся агітатараў пра цяжкое жыццё ў Заходняй Беларусі. Толькі пасля «вызвольнага паходу», калі мяжа перасунулася за Беласток, маці наважылася адведаць брата. Вярнуўшыся, прынесла ад яго гасцінцы: торбачку мукі і баранову лапатку. Васіль Быкаў на ўсё жыццё запомніў гэта: удалося

**Раніцай, перад нямецкім наступам, вывелі расстрэльваць, а Васіль заплакаў. Канваір, гукнуўшы «пацан, бяжы!», стрэліў угару**

сытна паесці. Беларускія калгаснікі месяцамі не бачылі хлеба, з вясны, пакуль бульба не вырасце, елі мякіну з травой.

Негаваркога бацькі Васіль у дзяцінстве пабойваўся. Толькі пасталеўшы, змог вытлумачыць сабе прычыны надзвычайнай бацькавай



ХАТНІ АРХІЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА

**У Румыніі.** Восень 1944 года.

панурасці: гэта быў настрой селяніна, загнанага ў кут калектывізацыяй, які зарабляе за год паўторбы жыта.

Але менавіта Уладзімір Хведаравіч прачытаў малому Васілю апавяданне Лынькова «Гой» — і Лынькоў назаўсёды стаў для Быкава літаратурным аўтарытэтам. Гэта бацька адвёў Васіля раней часу ў школу, каб шасцігадовы малы не нудзіўся дома адзін.

Уладзімір быў суровы, упарты селянін, які пабачыў і свету, і гора на рабоце ў Латвіі, на франтах Першай сусветнай, у нямецкім палоне. І ён, і жонка былі жанатыя ▶



Рэканструяваная **хата Быкавых у Бычках,** Ушацкі раён.


ХАТНІ АРХІЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА

Камандзір узвода лейтэнант Васіль Быкаў.

другім шлюбам: у першым бацька рана аўдавеў, а мацерын муж прапаў без следу ў Пецярбургу. Яна прачакала колькі гадоў, схадзіла пешкі ў Полацк да мошчаў святой Еўфрасінні і выйшла за ўдаўца.

### 6 з 12

Васіль рос ненахабным кніжнікам, наколькі гэта было магчыма ў тых умовах. Драў кару і здаваў у нарыхткантору, каб купіць «Дрыгву» Коласа, асвойваў куфар з рускай класікай і дарэвалюцыйным маскультам, што застаўся аднакласніку ад дзеда, царскага настаўніка. «Душэўнае фармаванне», якое давалі кнігі, было важнейшае за «ўплывы рэальнага свету». Яны ўзмацнялі суперажыванне, чуласць да болю іншых, успадкаваныя ад мяккай характарам маці. Без суперажывання ж не бывае вялікага пісьменніка.

А болю вакол хапала: з дванаццаці бычкоўскіх сем'яў шэсць раскулачылі і выслалі на павольную смерць. Яго малы сябрук, калі іх рэчы пакавалі на падводу, яшчэ хваліўся: «А мы цягніком паедзем!» Васілю таксама хацелася пабачыць цягнік... Атмасферу таго часу Быкаў апісаў пасля ў «Знаку бяды».

Ужо змалку Быкаў без лішніх ілюзіяў ставіўся да савецкіх актывістаў, пазнаючы пасля гэтую пароду ў смершаўцах, партыйных і літаратурных начальніках. Успамінаў, як малы «дапамог» сельсавецкім актывістам. Тыя прыйшлі шукаць лён, які бацька схаваў ад здачы дзяржаве. Васіль і падказаў, каб зірнулі на істопцы. Актывіст палез і грымнуўся праз замаскіраваную дзірку ў столі...

**Усё жыццё Быкаў помніў, як сам несвядома адправіў на смерць салдата: загадаў ссекчы куст перад гарматай, што закрываў агляд. Пад тым кустом салдата і забіла.**

### «Пашанцавала» з эпохай

Быкаў пачаў усур'ёз пісаць позна — у 31 год. З войска дэмабілізавалі, грашовай працы не было — затое з'явіўся час задумацца пра ўласнае месца ў свеце і прызначэнне. Ён аддаў амаль дзесяць год жыцця вайсковай навуцы, непрыдатнай для мірнага жыцця і антаганістычнай яго натуры. Яго школамі маладога пісьменніка і творчымі стажыроўкамі былі фронт, шпіталь, вайсковыя часткі на Курылах і Сахаліне, дзе давялося паслужыць афіцэрам у першай палове 1950-х.

Вайна ж заспела яго ва Украіне. Выпускнік фабрычна-заводскага вучылішча, Быкаў ехаў на практыку ў горад Шостка Сумскай вобласці, маючы таемны план: там жыў яго дзядзька, які мог дапамагчы ўладкавацца ў індустрыяльны тэхнікум. Але нават знайсці дзядзьку не паспеў — мабілізавалі. Спачатку паставілі капаць процітанкавыя рвы, а пасля пагналі калонамі на ўсход.

Пісьменніку «пашанцавала» з эпохай. Мала якія сюжэты давялося прыдумляць: дастаткова было апрацаваць пабачанае, пачутае і перажытае на ўласнай скуры ў вялізным людскім віры на вайне.

Напрыклад, у познім апавяданні «Палкаводзец» з натуры «запячатлён» маршал Жукаў, які ездзіў па фронце з машынай аўтаматчыкаў і трыбуналам. Ледзь адступленне — адбываўся расстрэл «вінаватых», а трыбунал пасля афармляў прысуды, павымаўшы дакументы з кішэняў забітых.

Быкаў іранізаваў, што самы аўтабіяграфічны яго твор, «Мёртвым не баліць», дзе ўсё апісана даслоўна так, як было ў рэальнасці, выклікаў найбольшы гнеў апалагетаў «сацыялістычнага рэалізму».

### Выжыванне як латарэя

Чытаючы яго ўспаміны ваеннай пары, пераконваешся, якой латарэяй, ланцугом выпадковасцяў было тады выжыванне. Першы раз яшчэ не мабілізаванага Быкава ледзь не расстралялі ў Белгарадзе ўлетку 1941-га — адстаў ад калоны і заснуў у руінах, дзе і адшукаў яго каменданцкі патруль. Знайшлі ў кішэні крамзолі ў блакноце (дадумаўся пазначаць рух фронту) — і ў каталажку. Раніцай, перад нямецкім наступам, вывелі расстрэльваць, а Васіль заплакаў. Канваір, гукнуўшы «пацан, бяжы!», стрэліў угару.

Кожны іначай зроблены крок мог прывесці да пагібелі. Не выпаўз бы на дарогу, не падабрала б фурманка — і загінуў бы ў хаце з іншымі параненымі, якую ў наступныя хвіліны разнёс з гарматы нямецкі

танк; спыніўся б бензавоз, якому галасаваў на дарозе, — і згарэў бы ў ім за паваротам, падарваўшыся на міне; ляжаў паранены на танкавай брані пад бамбёжкай, не меўшы сілаў спаўзці ўніз, — суседнія танкі згарэлі, а ў яго не трапіла; заснуў, змучаны прыступам малярыі, — а калі прачнуўся, побач былі немцы... «У пяхоце такіх негераічных выпадкаў хапала, — адзначаў Быкаў. — Але напісана пра гэта мала». Бо амаль ніхто не прыйшоў у літаратуру з пакутніцы-пяхоты: 97% яе засталося ляжаць у брацкіх магілах ад Масквы да Эльбы.

Усё жыццё Быкаў помніў, як сам несвядома адправіў на смерць падначаленага: загадаў ссекчы куст перад гарматай, што закрываў агляд. Пад тым кустом салдата і забіла.

Адшукаўшы сваё падраздзяленне пасля шпіталя, Быкаў не пазнаў яго: там не было ніводнага знаёмага твару. За некалькі месяцаў склад цалкам змяніўся. Нездарма ў «Мёртвым не баліць» псіхаваны ротны штрафнікоў называе сябе камандзірам дывізіі — яго рота зазнала 12 папаўненняў, ён бачыў смерць 2400 чалавек.

Перажыўшы такое, чаго можна ў жыцці баяцца?



ХАТНІ АРХІЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА, МАЛОДШАГА СЫНА ПІСЬМЕННІКА

**Васіль Быкаў з жонкай Надзеяй і сынам Сярожам.** Далёкі Усход, 1954 год.

### Крыўда Сямічаснага

А страх на фронце быў не толькі перад немцам. Ад немца, можа, і выйдзеш жывым, а вось ад сваіх — не, кажа Быкаў вуснамі герояў. «Свае» — гэта карныя органы. НКВД, смерш.



ХАТНІ АРХІЎ ВАСІЛЯ БЫКАВА

**З бацькамі Ганнай Рыгораўнай і Уладзімірам Хведаравічам,** сястрой Валянцінай і яе мужам Аляксандрам Шамуком. Вёска Бычкі, 1966 год.

### Сахно

Быкаў успамінаў, як доўга выбіраў прозвішча смершаўцу ў «Мёртвым не баліць»: рускае не прапусціла б цэнзура, сярэднеазіяцкае было нерэалістычным — абраў нейтральна-славянскае. Пасля выявілася, што такое самае прозвішча меў адзін з паліцаяў, які паліў Хатынь. Ён пасля ваяваў на савецкім баку і меў узнагароды. «Яго б выкрылі раней, каб уважліва чыталі Быкава», — жартаваў Алесь Адамовіч.

Адной з прычын цэнзурных праблемаў Быкава, якога ў другой палове 1960-х не толькі спрабавалі прымусіць перапісваць аповесці, але і запалохвалі па тэлефоне ды збівалі на гродзенскай вуліцы, была асабістая крыўда кіраўніка КГБ СССР Уладзіміра Сямічаснага.

Генералы КГБ у той час чыталі сучасную літаратуру і не маглі прапусціць вобраз капітана Сахно — бязлітаснага, нялюдскага да сваіх, які перад немцамі ў фінале выявіўся халуём і здраднікам. Пра належнасць Сахно да спецслужбаў у падцэнзурнай версіі аповесці няма ні слова — яго пасаду параіў змяніць Пімен Панчанка, рэдактар часопіса «Маладосць», дзе твор друкаваўся. Сахно названы проста афіцэрам штаба, але ветэраны ўсё разумелі.

«Літаратура — не авангарднае мастацтва, якое звычайна ацэньваецца заўтра. Літаратура важная для сёння. Калі сёння яна не спатрэбілася, дык наўрад ці калі спатрэбіцца ў будучыні», — пісаў Быкаў. Яго проза нараджалася ў час. Апявалі «органы» — Быкаў пісаў ▶

### «Вася, пакайся»

Пасля публікацыі «Мёртвым не баліць» аўтара з падачы галоўнага ідэолага СССР Міхаіла Суслава і кіраўніка КГБ Уладзіміра Сямічаснага шальмавалі ў прэсе, агенты пабілі вокны ў яго кватэры, а раз Быкава і яго сябра, гісторыка Барыса Клейна, збілі ў цэнтры Гродна трое невядомых. Быкаву намякалі, каб ён публічна пакаяўся. Пра «пакаянне» прасіла і яго жонка Надзея, чаго ён ёй не дараваў. Але Быкаў не пакаяўся і не адступіўся.

**На Замкавай гары** ў Гродне. 1973 год.

ФОТА АРКАДЗЯ ПЕРАХОДА

**Падпаіўшы знаёмага ваенкама, атрымаў ад таго карысную параду: «Напішы ў анкеце, што маеш сваяка за мяжой, і перастануць забіраць»**

«Мёртвым не баліць», трубілі пра піянераў-герояў — Быкаў адказваў «Круглянскім мостам», лічылі інтэрнацыяналізацыю беларусаў завершанай — атрымлівалі «Знак бяды»...

Былі са смершам і асабістыя рахункі — адзін капітан, карыстаючыся службовым становішчам, спрабаваў адбіць у лейтэнанта Быкава дзяўчыну, радыстку Тосю, першае юнацкае каханне. Яе перавялі на іншы ўчастак фронту, яны перапісваліся, пасля след згубіўся.

А раз у Аўстрыі, у часе зацішша, Быкаў вучыўся ездзіць на ровары (у дзяцінстве не давялося — адкуль было ўзяцца ровару ў Бычках). Разагнаўшыся з горкі, ён на павароце збіў з ног упаўнаважанага контрразведкі — у таго аж штаны разадраліся. Смершавец зароў, але не помсціў. Так што не ўсё толькі дрэннае было звязана, як той казаў.

### Гродна як месца нараджэння

У сучасным кіно пра вайну часта паказваюць, як грымяць апошнія залпы — і салдаты ў той самы момант едуць расквечанымі эшалонамі дахаты. У рэальнасці так хутка не адпускалі, асабліва афіцэраў. Бо ім на змену краіна, якая зазнала страшэнныя людскія страты, проста не мела каго мабілізаваць. Пасляваенны год Быкаў адслужыў у Балгарыі, пасля — ва ўкраінскім Мікалаеве. Усё гэта давала веданне жыцця розных краёў і разуменне розных народаў, розных людзей.

Хто іншы, замацаваўшыся ў войску, і не жадаў бы сабе іншага жыцця. Але Быкава зоркі на пагонах не цікавілі: ён хацеў «у бедную сваю Беларусь», хацеў вучыцца. Бацька адгаворваў вяртацца: у войску хоць кормяць, а ў калгасе голад, як і да вайны.

Калі ўдалося нарэшце дэмабілізавацца, Быкаў прыехаў у разбомблены Мінск. З другога заходу паспрабаваў ажыццявіць мару стаць мастаком. (Перадваенная вучоба — Віцебск, Мекка беларускага мастацтва — скончылася ў 1940-м, калі зрабілі платнымі падручнікі і адмянілі стыпендыю. Быкаў не меў чым плаціць, вярнуўся тады ў школу.)

Іван Ахрэмчык, дырэктар вучэльні, якому дэмабілізаваны Быкаў дазваніўся, сказаў, што навучання пакуль няма, і параіў уладкоўвацца ў Гродне ці Брэсце, дзе былі моцныя мастакоўскія калектывы.

Быкаў выбраў Гродна. Спадабалася старая архітэктура, замкі, пакручастыя вулачкі. Грошай з афарміцельскага занятку хапала толькі на аплату найманага пакоя і халасцяцкую выпіўку ў вясёлай мастакоўскай кампаніі.

Хтосьці за кухлем раз падказаў: у газеце «Гродзенская праўда» з'явілася беларуская версія. Нібы мова беларуская Быкава паклікала: у газеце ён зрабіўся сабой. Тут пазнаёміўся з гродзенскімі і мінскімі пісьменнікамі, знайшоў сяброў, тут сустрэў будучую жонку — а пасля і другую.

Мова, дарэчы, была для Быкава аб'ектыўнай жыццёвай каштоўнасцю. Наведаўшы Мінск, ён абавязкова заходзіў да Ніла Гілевіча, з якім, піша Быкаў, можна было «нагаварыцца па-беларуску».

З марай пра кар'еру прафесійнага мастака ў «Гродзенскай праўдзе» давялося развітацца. Хоць Быкаў усё жыццё рабіў графічныя



**Васіль Быкаў і Аляксей Карпюк** зрабілі вялізны ўплыў адзін на аднаго. Можна сказаць, што яны разам мяняліся. Мінск, 1962 год.

ФОТА УЛАДЗІМІРА КРУКА

замалёўкі: прырода, архітэктура, коміксы з сямейнага жыцця. Кухню свайго лецішча ў Ждановічах ён упрыгожыў «фрэскамі» на садавінна-гароднінную тэму. А галоўнае, сама проза яго візуалістычная. Чытаючы, ясна ўяўляеш кожную сцэну: дзе стажок, дзе Цімошкін з Блішчынскім, дзе немцы капаюць умацаванні.

У «Гродзенскай праўдзе» Васіль пазнаёміўся з прыгажуняй Надзеяй Кулагінай, студэнткай педінстытута, якая падпрацоўвала ў рэдакцыі на карэктуры. Адносіны развіваліся хутка. Яны пажаніліся пад восень, знайшлі кватэру ў прыватным дамку ля Каложы. Праўда, прыходзілі туды толькі начаваць, працуючы з ранку да ночы — «жылі як на вакзале».



ФОТА ЮРКІ ГОЛУБА

Справа налева: **Васіль Быкаў, былая палітзняволеная Ларыса Геніюш, былы партызан Аляксей Карпюк і Данута Бічэль-Загнетава.**

### Салдат халоднай вайны

Неўзабаве Васіля загрэблі на чарговыя вайсковыя зборы. Экзамены па іх выніку старанны Быкаў здаў на выдатна. Гэта паспрыяла таму, што яго нечакана, не спытаўшы згоды, залічылі ў кадры Савецкай Арміі. Пачыналася супрацьстаянне з ЗША, халодная вайна, Савецкі Саюз ізноў нарошчваў войска.



**Быкаў застаецца культавым пісьменнікам і ўзорам сумленнасці.** Яго твар з'яўляецца на графіці і татуіроўках. На фота: гэты шаблон на замову дзяўчыны выканаў тату-майстар Зміцер Кавальскі.

Служыць паслалі аж на Курылы, жонка, вядома, паехала за ім. На востраве Кунашыр у іх нарадзіўся сын Сярожа — і здолеў выжыць у дашчаным бараку, каля жалезнай печкі. Жонка працавала ў школе, Быкаў прападаў на службе, а малы Сярожа бавіў час ды грэўся ў кампаніі вялізнага пухнатага ката.

На Курылах спецслужбы лютавалі горш як на вайне: афіцэр праспаў службу і мацюкнуўся, назваўшы свой няспраўны будзільнік «стаханаўскім праізводствам». Сусед за фанернай сценкай пачуў і данёс «куды трэба» — афіцэр назаўтра ж паехаў у лагер.

Адтрубіўшы пяць гадоў без водпуску на Курылах і Сахаліне, Быкаў нарэшце дамогся пераводу ў Беларусь, пад Асіповічы. А тут якраз Хрушчоў скараціў войска на 55 тысяч чалавек, і Быкава дэмабілізавалі.

Быў праз нейкі час і трэці раз, калі Быкава хацелі загрэбсці ў войска. Але ён, падпаіўшы знаёмага ваенкама, атрымаў ад таго карысную параду. І пасля напісаў у анкеце, што мае сваяка за мяжой: стрыечны брат Мікола жыве ў Заходняй Германіі. Насамрэч, Мікола знік без вестак на фронце. Але ніхто не правяраў, і больш да Быкава не чапляліся.

### Камсамол і партыя

«Хацеў быць камуністам і сумленным чалавекам. Толькі не ведаў, як такое магчыма», — пісаў Быкаў пра свайго сябра, шчырага, гарачага і няўрымслівага гарадзенца Аляксея Карпюка. Сам Быкаў так і застаўся беспартыйным, бо лічыў членства ў камуністычнай партыі рабствам душы.

Камсамольцам у войску быць давялося, і камсамол стамляў Быкава паказухай і фальшам, за падтрыманнем якіх сачылі палітрукі. Прызначылі Васіля камсоргам (камсамольскім арганізатарам) палка ў Сафіі ▶

### І ваўкі сытыя, і «Сотнікаў» цэлы

Перад друкам «Сотнікава» цэнзура прычапілася, каб увесці ў твор станоўчы вобраз камуніста. Такая ўстаўка апашліла б аповесць і сфальшавала. Рэдактар Барыс Сачанка вырашыў праблему віртуозна: у дарэчным эпізодзе ўпісаў, што камуністам быў сам галоўны станоўчы герой Сотнікаў. Аповесць надрукавалі. У расійскім выданні Сотнікаў застаўся беспартыйным.


Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч. 1984 год.

ФОТА ЯЎГЕНА КОКТЫША

пасля вайны, а гэтая пасада прадугледжвала партыйнасць. Але наваспечаны камсорг прагуляў з сябрамі ў рэстаране сабраныя напярэдадні камсамольскія ўнёскі. Разлічвалі атрымаць зарплату назаўтра і кампенсаваць, але зарплату якраз затрымалі...

Пра выпадак хтосьці (з пяці сяброў-аднапалчанаў, з якімі і кроў лілі, і ў рэстаране гулялі) данёс. Быкаў у знак пратэсту выпіў, не па-куляшоўску спаліў у грубцы камсамольскі білет — і з тае пары ўсё жыццё быў беспартыйны. І не ён адзін — беспартыйнымі, напрыклад, усё жыццё прынцыпова заставаліся народныя пісьменнікі Янка Брыль, Рыгор Барадулін, а яшчэ Алесь Адамовіч.

### Адамовіч

«Здаецца, і сяброў вакол многа, і знаёмых, а памёр Саша — і пагаварыць не стала з кім», — сумна казаў Быкаў пра Алеся Адамовіча.

### Экзістэнцыялізм

плынь у філасофіі і літаратуры XX стагоддзя. У яе аснове — чалавек і яго спасціжэнне самога сябе, найперш у «памежных сітуацыях» існавання. Прадстаўнікамі экзістэнцыялізму былі французскі філосаф Жан Поль Сартр, пісьменнік Камю, у беларускай літаратуры — Васіль Быкаў.

## «Здаецца, і сяброў вакол многа, а памёр Саша — і пагаварыць не стала з кім»

Яны сябравалі сем'ямі, але больш любілі мужчынскія гутаркі сам-насам, зачыніўшыся ў кабінеце Адамовіча.

Адамовіч, дзякуючы шырокім кантактам у маскоўскіх літаратурных колах, быў для беларускіх пісьменнікаў накшталт добраахвотнага літаратурнага агента: ён «прабіў» ім не адну публікацыю ў «Дружбе народов» ці «Новом мире». А калі цябе друкуюць у Маскве, то да цябе вымушана лагодней ставіцца і мінскае ідэалагічнае начальства.

Адамовічу трэба дзякаваць і за неацэнныя падрабязныя ўспаміны, якія пакінуў Васіль Быкаў. У 1985-м, запрасіўшы Быкава да сябе, Адамовіч пасадзіў яго перад сабой, уключыў магнітафон з мікрафонам і гукнуў: «Давай, расказвай». Тры дні яны запісвалі дыялогі — пра дзяцінства, вайну, Гродна. Жонка Адамовіча,

### Васіль Быкаў

19 чэрвеня 1924 – 22 чэрвеня 2003. Народны пісьменнік Беларусі, ветэран Другой сусветнай вайны.

Ваяваў на 2-м і 3-м Украінскіх франтах, пад Кіраваградам быў памылкова прызнаны забітым, родным адправілі пахаронку. Яго імя ёсць на абеліску на брацкай магіле. Удзельнічаў у вызваленні Румыніі, Балгарыі, Венгрыі, Югаславіі і Аўстрыі. Служыў у пяхоце і артылерыі, тройчы паранены.

Першыя творы напісаў у час службы на Далёкім Усходзе.

У 1947–1949, 1955–1977 жыў у Гродне, працаваў у газеце «Гродзенская праўда».

З канца 1977 жыў у Мінску.

У аповесцях «Жураўліны крык» (1959), «Трэцяя ракета» (1961), «Альпійская балада» (1963), «Мёртвым не баліць» (1965), «Праклятая вышыня» (1967), «Сотнікаў» (1969), «Абеліск» (1971), «Дажыць да світання» (1972), «Воўчая зграя» (1974), «Яго батальён» (1975), «Пайсці і не вярнуцца» (1978) паказаў вайну без прыхарошванняў.

У аповесці «Знак бяды» (1982) праўдзіва адлюстраваў калектывізацыю ў Беларусі. Выдаў некалькі кніг публіцыстыкі і мемуары «Доўгая дарога дадому» (2002).

Усё жыццё, вайна, служба выпрацавалі ў Быкаве цвёрдае перакананне: Беларусі патрэбныя незалежнасць і еўрапейскі шлях, толькі яны могуць даць страхоўку ад паўтору жахаў мінулага. Быкаў стаў заснавальнікам Беларускага Народнага Фронту.

У 1990-я Быкаў быў катэгарычна супраць аўтарытарнага кіравання. У знак пратэсту выехаў з краіны і пяць гадоў пражыў у Фінляндыі, Германіі, Чэхіі. Але ў 2003-м, смяротна хворы, не стаў чапляцца за еўрапейскую медыцыну, а прыехаў на радзіму.

«Васіль, ты надоўга?» — спытаў у яго тады сябар, былы кіраўнік тэлебачання і пасол Беларусі пры ААН, Генадзь Бураўкін. «Назаўсёды», — адказаў Быкаў.

Пахаванне Быкава ў 2003 годзе было адзіным такім у гісторыі Беларусі. Яно ператварылася ў велічнае шэсце праз увесь Мінск. У ім узялі ўдзел дзясяткі тысяч людзей розных палітычных поглядаў, пацвердзіўшы тым самым маштаб яго асобы.

Пахаваны на Усходніх могілках Мінска.

Вера Сямёнаўна, насіла ім у кабінет чай і часам віно. Яна ж пасля расшыфравала тыя запісаныя касеты. Дыялогі сталі асновай для кнігі ўспамінаў «Доўгая дарога дадому». Быкаў складаў яе ў пачатку 2000-х на чужыне, дзе не было як ні спраўдзіць факты, ні ўзнавіць прозвішчы — і як знайшоў тыя запісы 15-гадовай даўніны.

Быкаў і Адамовіч разыходзіліся ў стаўленні да кіно. Адамовіча кіно бясконца захапляла, ён проста жыў ім. Быкаў ставіўся да фільматворчасці прахалодна-скептычна. Хоць «Ідзі і глядзі» Элема Клімава, паводле сцэнара Адамовіча, уразіў Быкава. «Пасля гэтага можна кіно пра вайну не здымаць», — сказаў ён.

Адзіны фільм паводле сваіх твораў, які яму спадабаўся, — «Узыходжанне» паводле аповесці «Сотнікаў». Рэжысёр Ларыса Шапіцька нават хацела назваць яго «Узнясенне», але настолькі рэлігійную назву цэнзура б не прапусціла. ▶

## Аўтааварыі

«Позна ўзяўся за руль, затое вучыў машыну, як ніхто з тых, што іх мелі з дзяцінства», — з прыхаваным гонарам пісаў Быкаў. З тэхнікай ён «сябраваў» — нездарма быў добрым артылерыстам. Першым прыватным транспартам Быкава была маторная лодка на Нёмане. Што да аўто, дык машыны ў СССР набываліся з дзікімі праблемамі, нават калі грошы былі. Каб купіць свае першыя «Жыгулі», прыйшлося хадайнічаць перад аблвыканкамам і доўга чакаць чаргі. Пасля была «Волга», на якой яны з Рыгорам Барадуліным і жонкай Ірынай Міхайлаўнай ледзь не разбіліся пад Ашмянамі, па дарозе на літоўскі курорт Ніда на Балтыйскім моры: Быкаў у тумане не заўважыў машыну справа. Сутыкнення ўдалося пазбегнуць дзякуючы рэакцыі другога кіроўцы. А ў Мінску праз некалькі гадоў, ізноў не прапусціўшы, Быкаў сутыкнуўся з самазвалам, які «дужа ўлупіў у правы борт». Раз машыну, якую Быкаў не паставіў на ручнік, уратавала жонка: здагнала аўто, што ўжо кацілася з горкі ў рэчку, заскочыла ды націснула на тормаз.



Хоць у савецкі час пісьменнікі атрымлівалі вялізныя ганарары і маглі лёгка мець іншыя прывілегіі, **Быкаў быў гранічна сціплым у побыце і адзенні.** На фота зверху: кабінет пісьменніка. Знізу: дача ў Ждановічах.






**Быкаў быў вялікім аўтааматарам.**

ФОТА МІКАЛАЯ МАТУКОЎСКАГА




**Васіль Быкаў на Плошчы Перамогі** ў Мінску.

▶ Рэжысёр схапіла галоўнае: многія творы Быкава чытаюцца як духоўная літаратура. У кожным сваё ўзыходжанне, змаганне са злом ва ўсёй бясконцасці яго формаў. Канфлікт праўды і сілы. Бо тым, у каго праўда, казаў Быкаў, сіла без патрэбы.

# Быкаў так і не ўступіў у камуністычную партыю

### Новы жыццёвы этап

У 1977-м Быкаву было 54. У такім веку многія падбіваюць вынікі жыцця і заводзяць дачу, а ён паставіў сябе перад асабістым экзістэнцыйным выбарам. І вырашыў пачаць жыццё па-новаму. Без аніякіх тлумачэнняў ён з'ехаў жыць у Мінск, даслаўшы пасля жонцы ліст.

Пра абставіны сямейнага разладу ён піша ва ўспамінах скупа, паўнамёкам. Сыны выраслі ды абралі свае жыццёвыя шляхі — адзін служыў у Лейпцыгу, другі працаваў доктарам у Гродне. Першая жонка Быкава не разумела. Калі ў 60-х пісьменніка сталі цкаваць за праўдзівыя творы пра вайну, яна яго не падтрымала, а наадварот...

У Мінску з дапамогай драматурга Андрэя Макаёнка і сакратара ЦК па ідэалогіі Аляксандра Кузьміна — гэтага чалавека, былога ваеннага лётчыка, шмат хто ўспамінаў добрым словам, — Быкаў атрымлівае кватэру ў доўгім дзевяціпавярховым чырвоным доме на Танкавай. Праз год да яго пераязджае з Гродна Ірына Суворава.

Яны былі знаёмыя з канца 1940-х, разам працавалі ў «Гродзенскай праўдзе». Ірына Міхайлаўна, пісаў Быкаў, «адной з першых у рэдакцыі адзначыла мае літаратурныя спробы, выявіўшы адмысловыя веды і дасканалы літаратурны густ. ...Я быў ёй удзячны за ўсё, і тая ўдзячнасць пакрысе перарасла ў сталае пачуццё. Пачуццё тое набыло пэўны характар, калі я трапіў у чорную паласу літаратурна-палітычных здзекаў... Ірына стаяла на сваім, падтрымлівала і верыла ў мой шчаслівы літаратурны лёс».

### Гарбачоў і «Знак бяды»

Кіраўнік КГБ СССР Віктар Чэбрыкаў скардзіўся генеральнаму сакратару ЦК КПСС Міхаілу Гарбачову на «Знак бяды», у якім аўтар «ачарняў калектывізацыю». Калектывізацыя была спісаная з натуры, пабачанай дзіцячымі вачыма ў Бычках, дзе з 12-ці сем'яў 6 раскулачылі. За Быкава заступіўся «архітэктар» перабудовы сакратар ЦК КПСС Аляксандр Якаўлеў: «Можна не друкаваць, — казаў ён. — Але нельга не друкаваць». Гэта і вырашыла лёс аповесці: Гарбачоў быў настроены ліберальна, і «Знак бяды» быў не толькі апублікаваны — за яго Быкаву далі Ленінскую прэмію.

Першую жонку Надзею Андрэеўну праз чатыры гады пасля разводу забрала анкалогія. Быкаў на пахаванні не быў, паехаў на магілу праз тыдзень. І вось супадзенне: у Бараўлянах жонку лячыў той самы доктар Генадзь Мураўёў, які ў 2003-м паспрабуе ўратаваць жыццё Быкаву. Пісьменнік спытаецца ў доктара, ці мог яго сыход з сям'і стаць прычынай хваробы Надзеі Андрэеўны...

Тады ж, у канцы 1970-х, у Быкава наперадзе была яшчэ чвэрць стагоддзя. ◆



**Помнік Быкаву на Усходніх могілках:** граніт прывезлі з Фінляндыі, якая дала пісьменніку прытулак і стыпендыю ў цяжкія гады.

# Продкамі Шамякіна былі Шамкі



Прачытаў, што, згодна з фамільным паданнем, прозвішча «Шамякіны» ў сям'і пісьменніка Івана Пятровіча Шамякіна (1921–2004) выводзілі ад яго стрыечнага дзеда, што нібыта вярнуўся з войска, будучы пазначаным у «казённай паперы» як «Шамяка». Пры гэтым прадзеды нібыта «яшчэ зваліся Чарназёмамі».

**У «Гомельскай люстрацыі» 1738 года згадваюцца жыхары Кармы з прозвішчамі «Шамкін» і «Шамка»**

Народны пісьменнік памыляўся. У «Інвентары Гомельскага староства» 1771 года пералічваюцца чыншавыя сяляне Кармы. Усе з прозвішчамі. І ніводнага чалавека з прозвішчам, што нагадвала б «Чарназём», у спісе няма. Але ёсць тры чалавекі з прозвішчам, што нагадвае прозвішча «Шамякін» — «Шамкін» («Szamkin») – Сямён, Ілля і Юрка. У «Гомельскай люстрацыі» 1765 года сярод кармянцаў таксама згадваюцца тры Шамкіны — Ціт (?), Ілля і Кандрат, а таксама вясковец Ісак з прозвішчам «Шамка» («Szamko»). «Гомельская люстрацыя» 1738 года сведчыць пра трох жыхароў Кармы з прозвішчам «Шамкін» — Зенька, Кандрат, Ісак — і пра аднаго жыхара з прозвішчам «Шамка» («Szamka»). Чарназёмы сярод кармянцаў у гэтых люстрацыях зноў жа не згадваюцца. Чарназёмы — гэта, мусіць, была нядаўняя мянушка. А прозвішча «Шамякін» змянілася з даўнейшага «Шамка», «Шамкін».

**Сяргей Балахонаў, Гомель**

# «Літоўскі, а не літвінскі»

У №3 «Нашай гісторыі» быў апублікаваны тэкст Паўла Булатага «Імперскія тытулы для літвінскіх магнатаў». Звяртае на сябе ўвагу ўжыванне прыметніка «літвінскі» як вытворнага ад «літвін». У беларускай мове прыметнікам як да «Літвы» (у значэнні краіны, дзяржавы), так і да «літвы», «літвінаў» (у розных значэннях) заўсёды было слова «літоўскі». Працей кажучы, такога слова, як «літвінскі», няма. Ні ў слоўніках, ні ў гістарычных крыніцах, ні дзесьці яшчэ яго ўжыванне не зафіксавана. Слова з'яўляецца нейкім сумніўным неалагізмам, які сустракаецца хіба што на форумах і сайтах аматараў гісторыі, але не ў гістарычных крыніцах ці працах навукоўцаў.
Захапленне ВКЛ у сучаснай Беларусі цалкам апраўдана, паколькі гэта больш за 500 гадоў нашай гісторыі. Але гэта захапленне часам носіць рысы нейкага нездаровага фанатызму. Людзі пераносяцца ў нейкія мроі, некаторыя губляюць сувязь з рэчаіснасцю, прыдумляюць сабе новую ідэнтыфікацыю, пачынаюць «гуляцца» з гісторыяй і з мовай. Не сакрэт, што на гэтай глебе ўжо рабіліся спробы раскалоць беларускую свядомасць. Не думаю, што варта ў такіх пытаннях арыентавацца на аматараў і тым больш на стваральнікаў альтэрнатыўнай гісторыі.

**Дзмітрый Віцько, кандыдат гістарычных навук, Мінск**

**Ад рэдакцыі**
Мова развіваецца, і слоўнікі беларускай мовы апошняга дзесяцігоддзя ўжо ўтрымліваюць прыметнік «ліцвінскі», утвораны ад назоўніка «ліцвін» (напрыклад, гл. «Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы» Л. П. Баршчэўскага і А. Л. Баршчэўскай). Кандыдат філалагічных навук Алеся Літвіноўская мяркуе, што раўназначнымі ў сучаснай мове з'яўляюцца абодва варыянты — і «ліцвінскі», і «літвінскі» — як вытворныя ад назоўнікаў «ліцвін» і «літвін». Гэтае слова абазначае ўсіх жыхароў Вялікага Княства Літоўскага.
На нашу думку, прыметнік «літвінскі» таму і прыжыўся, што дазваляе адрозніць літвінаў шматэтнічнага Вялікага Княства ад жыхароў сучаснай Літоўскай Рэспублікі — літоўцаў.

# «А як жа стральба з равольвераў?»

Загаловак артыкула Змітра Панкаўца «Македонія: малая краіна з вялікімі пантамі» — з вялікімі пантамі.
Аўтар піша: «Ні табе вядомых брэндаў з гэтай краіны, ні нобелеўскіх лаўрэатаў...»
А як жа стральба з равольвераў «па-македонску», з дзвюх рук?
Па-мойму, вельмі неасцярожны, празмерна «просты» загаловак.

**Сяргей Запрудскі, Мінск**

# Сям'я Кенэдзі і Ежы Папялушка

Вітаю, мяне завуць Надзея. У часопісе бачыла, што ў чытачоў ёсць магчымасць прапанаваць вам тэмы. Магчыма, нешта можа вас зацікавіць.

1. Недзе чытала, што Станіслаў Радзівіл ажаніўся з роднай сястрой Жаклін Кенэдзі, быў хросным бацькам сына Кенэдзі, а Джон Кенэдзі быў хросным бацькам яго дачкі. Мне здаецца, што гэта цікавая тэма для артыкула, а калі ёсць магчымасць паразмаўляць з Ганнай Крысцінай Радзівіл ці іншымі Радзівіламі, якія зараз жывуць па-за межамі Беларусі, гэта было б вельмі цікава.

2. Сучасная гісторыя таксама павінна быць на старонках часопіса.

3. Гісторыя жыцця беларускіх эмігрантаў, вельмі шмат нашых братоў па-за межамі радзімы былі і зараз застаюцца вельмі паважанымі людзьмі.

4. Ксёндз Ежы Папялушка, вядомая асоба ў Польшчы. Ёсць тэатральныя спектаклі, помнік. Я чытала, што яго маці размаўляла па-беларуску.

5. Напішыце пра язычніцтва, якое было рэлігіяй беларусаў да хрысціянства.

**Надзея**

# Некалькі заўваг на артыкул Уладзіміра Ляхоўскага пра выбар нацыянальнага сцяга

Я Басаў Аляксандр Мікалаевіч, ужо больш за 45 гадоў займаюся вексілалогіяй — дапаможнай гістарычнай дысцыплінай, якая вывучае гісторыю сцягоў, з'яўляюся аўтарам дзвюх кніг («Флаги Беларуси вчера и сегодня» Мінск, 1994, і «История военно-морских флагов» Масква–Санкт-Пецярбург, 2004).

З цікавасцю азнаёміўся з матэрыялам Уладзіміра Ляхоўскага па гісторыі нашага нацыянальнага сцяга (№2 «Нашай гісторыі»).

Пры канцы артыкула ён піша: «Можна прыблізна абазначыць дату стварэння бел-чырвона-белага сцяга». Аднак існуюць успаміны Р. Астроўскага, удзельніка З'езда беларускіх дзеячаў 25 сакавіка 1917 года ў г. Мінску, выдадзеныя ў 60-я гады мінулага стагоддзя ў Нью-Ёрку, дзе ён паведамляе аб працэсе стварэння бела-чырвона-белага сцяга на гэтым з'ездзе і напярэдадні яго. Замежныя гісторыкі датай прыняцця беларускага сцяга лічаць менавіта 25 сакавіка 1917 года.

І яшчэ дзве заўвагі.

Адна тычыцца прыведзенага аўтарам на с. 43 архіўнага дакумента. Гадоў восем таму ў зборніку прац работнікаў беларускіх архіваў (не помню назвы зборніка і назвы артыкула) была змешчана работа супрацоўніц Нацыянальнага архіва пра згаданы вышэй з'езд, дзе прыводзіцца гэты ж дакумент і напісана, што малюнак выкананы на адвароце анкеты І.Ф. Тумаша. Чаму ў аўтара напісана, што гэта малюнак Л. Дубейкаўскага, ды яшчэ 1916 года? Магчыма, адкрыліся новыя абставіны?

Другая заўвага адносіцца да выявы сцяга на с. 45. Справа ў тым, што гэты сцяг намаляваў я па чорна-белай фатаграфіі. Не ведаючы колеру вузкіх палос, я меркаваў, што яны былі альбо сінія, альбо чорныя. Я выбраў чорны колер (як знак жалобы ў сувязі з вымушанай эміграцыяй), але гэта ж не адназначна, і таму ў сваёй кнізе ў подпісе да сцяга я напісаў, што колеры рэканструяваныя. А вось Ляхоўскі гэтага не зрабіў. Я лічу гэта памылкай аўтара артыкула — трэба было абавязкова паведаміць, што расқаляроўка сцяга імаверная (інакш нараджаюцца міфы).

**Ад аўтара**

Дзякую спадару Басаву за цікавасць да майго тэксту. Адносна ж выказаных ім заўваг скажу наступнае.

Хібай аўтабіяграфічных нататак Радаслава Астроўскага з'яўляецца тое, што яны напісаныя амаль праз 45 гадоў пасля ўзгаданых падзей, і аўтар дзеля ўласных палітычных меркаванняў відавочна імкнуўся падкарэктаваць гісторыю на сваю карысць. Некаторыя іншыя факты з яго ўспамінаў яўна ёсць свядомай фальсіфікацыяй. Напрыклад, Астроўскі сцвярджае, што быў стваральнікам першай беларускай гімназіі ў Слуцку ў 1917 годзе, хаця гэта была аб'яднаная земская сярэдняя навучальная ўстанова, дзе ўсе прадметы, акрамя беларускай мовы, выкладаліся па-расійску. Ён таксама заяўляў, што быў актыўным удзельнікам Слуцкага антысавецкага збройнага чыну, хаця падчас паўстання знаходзіўся не на Случчыне, а на Берасцейшчыне, сярод прыхільнікаў генерала С. Балаховіча. Дзеля таго і да сведчанняў Астроўскага, датычных пытанняў сімволікі, трэба ставіцца вельмі асцярожна, калі яны не пацвярджаюцца іншымі крыніцамі. А тут якраз такі выпадак.

Абапіраючыся на архіўныя дакументы, на хроніку з мінскіх газет за 1917 год і ўспаміны Зоські Верас за 1918 год, мы можам сцвярджаць, што падчас палітычных маніфестацый і з'ездаў амаль да канца 1917 года беларускія дзеячы выкарыстоўвалі або чырвоны штандар Беларускай сацыялістычнай грамады, або белы прапар з надпісам «Няхай жыве Вольная Беларусь!». Толькі ў пачатку жніўня 1917 года бел-чырвона-белая стужка была зацверджана ў якасці нацыянальнай адзнакі беларусаў-вайскоўцаў, а канчаткова гэтыя колеры былі прынятыя ў якасці колераў нацыянальнага сцяга толькі на Усебеларускім з'ездзе ў снежні 1917-га.

## Многія факты з успамінаў Радаслава Астроўскага — свядомая фальсіфікацыя

Сп. Басаў пытаецца, як высветлілася, што малюнак сцяга на адвароце анкеты І. Ф. Тумаша зрабіў Лявон Дубейкаўскі і здарылася гэта ў 1916 годзе. Гэты праект сцяга быў надрукаваны



ў зборніку дакументаў «Беларускае таварыства ў Петраградзе па аказанні дапамогі ахвярам вайны. 1916–1918 гг.» (2008). У 2006 годзе яго выявіла архівіст Ірына Каўганава, а я, тагачасны супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, ідэнтыфікаваў яго. Архітэктар Л. Дубейкаўскі ў той час знаходзіўся ў Петраградзе і выконваў абавязкі дзяжурнага адміністратара Беларускага таварыства помачы ахвярам вайны і загадчыка Беларускіх адукацыйных курсаў: афармляў анкеты, прымаў ахвяраванні для ўцекачоў, вёў справаводства і размяркоўваў харчаванне для слухачоў курсаў. Анкета ўцекача і слухача курсаў Івана Тумаша, на адвароце якой і намаляваны варыянт беларускага сцяга, датуецца якраз тым часам. Поўнай упэўненасці, што Дубейкаўскі сам афармляў гэтую анкету, няма (почырказнаўчая экспертыза не праводзілася), але тое, што ён праглядаў гэтую ды іншыя анкеты, мы можам сцвярджаць адназначна. Акрамя таго, у архіўнай справе, дзе захоўваецца анкета І. Тумаша, маюцца таксама дакументы, запоўненыя ці падпісаныя рукой Л. Дубейкаўскага. Да таго ж, на малюнку маюцца замалёўкі падвоенага крыжа — любімага элемента архітэктара. Яны часта сустракаюцца ў розных чарнавых накідах архітэктара, у прыватнасці ў яго накідах да праекту першай беларускай вайсковай узнагароды — Крыжа Пагоні.

Апошняя заўвага тычыцца аднаго з варыянтаў бел-чырвона-белага сцяга (з чорнымі або сінімі кантамі), змешчанага на чорна-белым здымку, дзе сфатаграфаваны сябры Беларускай рады ў Вільні ў студзені 1918 года. А. Басаў і сам пагаджаецца, што, хутчэй за ўсё, гэтыя канты былі чорнага колеру (праўда, пры гэтым інтэрпрэтуе чорны колер «як знак жалобы ў сувязі з вымушанай эміграцыяй», хаця да палітычнай эміграцыі беларускіх дзеячаў, звязаных з БНР, яшчэ больш за год). Сваю колеравую рэканструкцыю гэтага варыянта беларускага сцяга я ўзгадняў са Змітром Герасімовічам і іншымі знаёмымі мне мастакамі.

Калі ёсць патрэба працягнуць дыскусію, мой адрас электроннай пошты ў рэдакцыі.

# «На наступны год падпісваемся!»



Ужо выйшаў трэці нумар «Нашай гісторыі»! Напэўна, менавіта зараз нам так трэба ведаць сваю гісторыю, каб не страціць сябе... Дзякуй аўтарам і «Нашай ніве» за добрую і неабходную працу! P.S. Дзякуй людзям, якія саступілі месца дзеля фотаздымка

**Макс Астроўскі, Мінск**

### Уражаныя

— Мама, — крычыць ўражаная Альжбета са свайго пакоя, — я хачу табе пра Урублеўскага пачытаць.
— Чытай!
— У чэрвені 1863 года пасля жорсткага бою каля мястэчка Лыскаў (цяпер Пружанскі раён Брэсцкай вобласці), ўражаны мужнасцю жаўнераў, ён пашыхтаваў атрад, наламаў беласнежных кветак каліны і раздаў найлепшым. Пры гэтым адзначыў: прыйдзе час — і вольная Айчына належным чынам узнагародзіць сваіх герояў.
Цяпер і я ўражаная гэтай прыгажосцю. І ў мяне ля Лысай Гары расце каліна для герояў, то белая, то чырвоная...

**Аксана Спрынчан, Мінск**

* * *

Забірала апошнія асобнікі ў Белсаюздруку насупраць «Кастрычніка», і жанчына з шапіка з жалем распавяла, што размялі так хутка, што нават яна сама не паспела пагартаць.

**Яна Мураўская, Мінск**

* * *

Напішыце што-небудзь пра Праваслаўную царкву. У прыватнасці, маглі б вы расказаць, ці была нейкая самастойнасць у беларускай царквы (нездарма ж у Полацку быў пабудаваны Сафійскі сабор). І як сучасная Беларуская царква можа атрымаць аўтакефалію. Дзякуй.

**Оля Р., Tut.by**

### Адказы аўтарам

В.К. Дзякуй Вам за добрыя словы на адрас нашага часопіса. Ваша прыгодніцка-фэнтэзійна-гістарычнае эсэ, прысвечанае бітве пад Оршай, не кладзецца ў наш сённяшні фармат, паколькі мы ўсё ж выданне не літаратурнае, а гістарычнае.

**Наталлі В.** Дзякуй Вам за ўвагу да нашага часопіса і жаданне з ім супрацоўнічаць. Вы, аднак, прыслалі нам навуковы артыкул, у той час як наша выданне — навукова-папулярнае. Калі Вы падрыхтуеце матэрыял на гэтую тэму ў фармаце часопіса — мы гатовыя разгледзець магчымасць яго публікацыі. Максімальны аб’ём артыкула — 12 000 знакаў з прабеламі, а як ён мусіць быць выкананы — арыентуйцеся на тыя матэрыялы, якія апублікаваныя ў трох першых нумарах. Галоўнае — напісанае Вамі павінна быць цікава масаваму чытачу, а не толькі спецыялістам.

Прыемна і ганарова трапіць на старонкі часопіса. Чытаем разам чарговы нумар «Нашай гісторыі». На жаль, на часопіс палюем у Менску. Да Лепеля ці не даходзіць, ці разбіраюць хутчэй, чым мы датуль дабіраемся. Нічога, цярпець засталося нядоўга, з наступнага года падпісваемся :)

**Валерый Тухта і слабадскія «Паляўнічыя за мінулым», Лепельскі раён**



## НЕЛЬГА ЗАБЫЦЬ:

# МЫ З ВОГНЕННАЙ ВЁСКІ

**Мая прабаба і трое яе дзяцей згарэлі жыўцом у часе антыпартызанскай аперацыі «Свята ўраджаю». Піша Святлана Курс.**

## Шура і Мазура

22 лютага 1943 года нацысты распачалі акцыю знішчэння случчакоў пад назвай «Свята ўраджаю». За два дні былі спаленыя Бярэзінец, Гондарава, Задоўба, Крушнік, Пераходы, Фадзееўка, Левішча. Гэтыя вёскі ніколі не аднавіліся. У агні Бярэзінца жыўцом згарэлі і мая прабабка па маці, Стэфанія Булынка, з дзецьмі — 14-гадовым сынам Мішам, 6-гадовай дачкой і 2-гадовым Колем. Яе старэйшая дачка, мая будучая бабка, 19-гадовая Алеся (Шура) Булынка выпаўзла з пуні і патушылася ў лужыне. Вялізныя лужыны атачылі спаленую вёску — ад жару плыў снег.

Шура цэлы зімовы дзень праляжала ў вадзе, прыкідваючыся мёртвай, слухаючы стрэлы, страшны перадсмяротны харавы крык людзей, рыканне кароў і брэх сабак. Потым настала мёртвая

**Шура цэлы зімовы дзень праляжала ў вадзе, прыкідваючыся мёртвай. Мог выжыць і 14-гадовы брат Міша, бо немец паддаўся на ягонае маленне і пусціў бегчы, але паліцаю захацелася пацешыцца, і ён пачаў страляць у дзіця, якое пятляла як заяц і заверашчала як заяц, калі куля трапіла між лапатак**

ціша, прыйшла выратавальная цемра, дзяўчына ўстала і пайшла ў лес. Там яна сустрэла сваю карову Мазуру, якая абгарэла не менш за Шуру. Мазура і Шура блукалі па зімовым лесе тыдзень, пакуль не прысталі да такіх самых недагарэлых, недабітых людзей. Каб не Мазура, баба не выжыла б — яна спала-грэлася аб абпалены каровін бок. Ад Мазуры ў нас пайшла дынастыя кароваў, і ўсе зваліся Мазурамі. У маленстве, у 1970-х, я была ўпэўненая, што гэта тая самая, белая ў чорныя латы, Мазура ўратавала бабулю, а значыць, маці, а значыць, мяне, і гладзіла гераіню па крутым баку.

Мог выжыць і 14-гадовы брат Шуры Міша, бо немец паддаўся на ягонае маленне і пусціў бегчы, але ўкраінцу-паліцаю захацелася пацешыцца, і ён пачаў цаляць у дзіця, якое пятляла як заяц і заверашчала як заяц, калі куля трапіла між лапатак. У той жа дзень нехта Ліндэрман, фольксдойч, забаўляўся тым, што падкідаў угару маленькіх дзяцей і лавіў іх на штых, забіўшы 29 дзяцей у веку да 5-ці гадоў. З тых часоў бабка ненавідзела і немцаў, і ўкраінцаў, і мама ўспадкавала гэта, сказаўшы мне у 2014 годзе: «Я баюся ўкраінцаў, нас жа не рускія палілі». Так трагедыя 1943-га падзяліла нашую сям'ю ў 2014-м.

Бабка ж мая не выправілася да канца жыцця, часта плакала. Перад смерцю, у 2004-м, яна забылася, дзе яна і хто яна, ківалася і паўтарала: «23 феўраля, Бярэзінец, Гондарава, Палікараўка, Крушнік, Пераходы, Фадзееўка, Агароднікі, Жылін Брод». А таксама вязала клункі і рыхтавалася ўцякаць, кажучы, што ёй памогуць прыгожыя жаніхі, што чакаюць пад акном.

## Борка і калатуша

У той жа самы час, за 100 км ад Бярэзінца, у Любанскім раёне «пацыфікавалі» Старасек, Баянічы, Загалле і Татарку. Мая бабка па бацьку, 25-гадовая Настуля Кандраценя, на сёмым месяцы цяжарнасці, сядзела ў пуні сярод жанчын, дзяцей і старых, а немцы з паліцаямі абкручвалі пуню калючым дротам і палівалі нечым з каністраў. Аднак з Любані канём прыскакаў фольксдойч (чыё імя не захавалася) і выпрасіў жыццё для землякоў. Пуню адчынілі, і ўсе кінуліся ў лес і балота. З дзецьмі, старымі, голыя-босыя, галодныя.

Пазней на людзей учынілі аблаву. Суседка Надзя кінула ў балоце чатырох малых, каб выжыць. У старасці, калі яна пятнаццаты год ляжала паралізаваная, казалі, што гэта ёй за тых дзетак.

Надзя такая была не адна. Свайго сына, чатырохгадовага Борку, кінулі ў балоце і маладыя інтэлігентныя бацькі з Ленінграда. Перад вайной яны прыехалі ў госці ў Беларусь, ды так і ўліплі. У блакадзе над малым Боркам усе пацяшаліся: «Што ты, Борка, кушаў? Кушаў калатушу». На калатушы — муцэ з вадой — Борка зусім аслаб, і бацькі яго кінулі ў балоце, каб уратавацца самім. Ён клікаў-клікаў іх аслабелым галаском, ды і сціх.

## Злачынныя планы і апакаліптычная рэальнасць

Настолькі жорсткія і бесчалавечныя «пацыфікацыі» сталі магчымыя дзеля таго, што пад іх немцамі была загадзя падведзена грунтоўная тэарэтычная база ў выглядзе нацысцкай расавай тэорыі. Яна сцвярджала, што ўсе «неарыйскія» народы — непаўнавартасныя. Таму ў перспектыве яны мусілі вызваліць жыццёвую прастору для патрэб нямецкай нацыі, дзеля чаго распрацоўваўся амбіцыйны дзяржаўны план «Ост». Паводле яго, за 30 год пасля сканчэння вайны планавалася засяліць на захопленыя на ўсходзе землі (у тым ліку і Беларусь) 4,5 млн нямецкіх каланістаў. Пры гэтым у зоне каланізацыі меркавалася пакінуць толькі 14 млн славян, а іншых перасяліць у Заходнюю Сібір. Пад перасяленне мусілі патрапіць 65% украінцаў і 75% беларусаў, астатнія падлягалі анямечванню. Габрэі ж мусілі быць пагалоўна вынішчаныя фізічна адразу на месцы. ▸

Малюнак Рамана Плавінскага.




Пачатак 1970-х. **Побач з помнікам Пелагея Рыгораўна ды Іван Нікіфаравіч — жонка і сын забітага ў 1943-м Нікіфара Іванавіча.** Цела Нікіфара ўдалося пазнаць на папялішчы па камізэльцы з металічнымі гузікамі, якую пашыў яму сын. У Новіках Мядзельскага раёна фашысты расстралялі і спалілі 45 жыхароў сталага веку. Нікіфару на момант гібелі было 56. Яго жонка, Пелагея Рыгораўна, у той дзень адышлася з вёскі і так апынулася за ачапленнем. Яна прасіла пусціць яе дамоў, але салдат-мадзяр не пусціў яе ў вёску, тым самым уратаваўшы. Маладзейшых вяскоўцаў, у тым ліку Івана, немцы перад тым вывезлі на работы ў Германію.

▶ Аднак рэальнасць аказалася яшчэ жахлівейшай за гэтыя нялюдскія планы. Пасля таго, як вайна зацягнулася і перспектывы нямецкай перамогі сталі прывіднымі, ні пра якое «перасяленне» кудысьці гаворкі, натуральна, ужо не было. У рамках жа супрацьдзеяння, як немцы казалі, «распаўзанню бандытызму» беларусаў ужо з 1942 года пачалі масава перасяляць туды ж, дзе ўжо да таго збольшага апынуліся няшчасныя тутэйшыя і прывезеныя з Еўропы габрэі — на той свет. Цэлымі сем'ямі, з жанчынамі, дзецьмі і старымі. Бо жыццё людзей, «непаўнавартасных» у вачах «арыйцаў», не каштавала і дробнага шэлега.

У выніку больш за трыста тысяч мірных вяскоўцаў Беларусі былі спаленыя ці закапаныя жыўцом, расстраляныя, закатаваныя, заколатыя штыхамі, кінутыя ў калодзеж, здушаныя ў перасоўных газэнвагенах. На маёй гаротнай Случчыне ажно 30 вёсак былі забітыя разам з жыхарамі і ніколі не адрадзіліся.

Карныя экспедыцыі і акцыі насілі рамантычныя назвы. «Наша», слуцкая, звалася «Свята ўраджаю». Любанская — «Балотная трасца». Былі і «Вясновае свята», і «Балотная кветка», а таксама «Паўночны полюс», «Зорны шлях», «Альпійскі вецер», «Заяц-бяляк», «Зімовая казка», «Лясная зіма», «Чароўная флейта», «Вольны стралок», «Шаравая маланка». Была акцыя і на Вялікдзень — «Майская навальніца».

## «Каб не памагалі партызанам»

У ліпені 1941-га дзяўчаты вёскі Баянічы, вяртаючыся з пакосу, пачулі трэск матацыклаў. З-за павароткі пры канаве вылецелі некалькі матацыклаў з калясками, на іх сядзелі высокія прыгожыя хлопцы ў форме.

«Мы зусім не спалохаліся, — расказвала мая бабка, — яны былі такія прыгожыя, высокія, чыстыя з ліца. Злезлі з матацыклаў, нарвалі нам красак, гладзілі па косах, брошках, блузках, казалі: "Шёнэ фройляйн, шёнэ" ("Прыгожыя дзяўчаты, прыгожыя"). Мы далі ім папіць, і яны паехалі».

У які момант добрыя немцы перасталі быць добрымі? Ці была ў мірных людзей магчымасць адседзецца, калі не дапамагаць партызанам? У 1970–1980-я людзі ў любанскіх вёсках гаварылі, што дыверсійную вайну распачала група энкавэдыстаў-парашутыстаў пад кіраўніцтвам Аляксандра Далідовіча, ураджэнца недалёкіх Заўшыц. 7 ліпеня ў Лёзне на Віцебшчыне тагачасны кіраўнік беларускіх камуністаў Панцеляймон Панамарэнка арганізаваў 29 груп для закідання на акупаваныя немцамі тэрыторыі. Кіраўніком адной з іх стаў Далідовіч, і ён быў адпраўлены на Любаншчыну. Група стварыла базу сярод непралазных балотаў на востраве Зыслаў і распачала напады і дыверсіі супраць немцаў. Тыя ў адказ ладзілі карныя экспедыцыі, палячы вёскі, каб знішчыць «кармавую базу» партызанкі. Савецкія ж партызаны мелі сталінскае заданне «распаліць агонь партызанскай вайны на акупаваных савецкіх тэрыторыях».

## Суседка Надзя кінула ў балоце чатырох малых, каб выжыць

3 ліпеня 1941-га Сталін па радыё заклікаў насельніцтва так паспешліва пакінутых і акупаваных тэрыторый да бязлітаснай партызанскай вайны. Днём раней, 2 ліпеня 1941-га, Панамарэнка рапартаваў: «У Беларусі разгарнуўся партызанскі рух, на Палессі ў кожнай вёсцы ёсць свой партызанскі атрад». Праз 10 дзён ён паведаміў, што «на акупаванай тэрыторыі

засталося 3 тысячы партызан. А партыя амаль штодня накіроўвае на акупаваную тэрыторыю па 200–300 чалавек, каб арганізоўваць партызанскі рух».

Панамарэнка пераконваў Сталіна ў неабходнасці стварыць такія ўмовы, «каб зямля гарэла пад нагамі ворага». 31 мая 1942 года ён сфармаваў і ачоліў Цэнтральны штаб партызанскага руху. Ужо ў лістападзе 1942-га колькасць партызанаў узрасла да 100 тысяч.

І загарэлася зямля не толькі пад нагамі ў немцаў, але — найперш — пад нагамі безабароннага мірнага насельніцтва, якое трапіла паміж молатам і кавадлам.

Мая бабка Настуля Кандраценя расказвала страшныя рэчы і пра дзеянні партызан. Наслухалася я малою пра выпадкі марадзёрства, п'янства, гвалту, бяссудных расстрэлаў.

Гісторыкам застаецца пытанне, ці апраўданыя былі тыя дзеянні дыверсантаў, якія правакавалі немцаў на жорсткасць, каб распаліць агонь партызанскай вайны.

**Я хацеў узяць хлеба, паліцай кажа: «Сынок, не бяры, ён табе не нада»**

Аднак і без гісторыкаў зразумела: нішто і ніяк не можа вытлумачыць і апраўдаць тое, што рабіла нацысцкая Нямеччына на тэрыторыі Беларусі. Ніякай пераацэнкі злачынстваў нацыстаў быць не можа. Усе іх дзеянні былі скіраваныя на татальнае вынішчэнне нашых «непаўнавартасных» продкаў.

Усім мы, бедныя беларусы, заміналі, усе нас хацелі перасяліць калі не ў Сібір, то на той свет.

## «Я з вогненнай вёскі»

У пачатку 1970-х, калі я, трох-пяцігадовая дзяўчынка, сядзела на прызбе і слухала страшныя былі сваіх бабак, пісьменнікі Алесь Адамовіч, Янка Брыль і Уладзімір Калеснік рабілі тытанічную, пакутную працу — ездзілі па вёсках і запісвалі ацалелых. Кніга «Я з вогненнай вёскі» выйшла ў 1975 годзе ▶

Змяняюцца пакаленні, але пра забітых захоўваецца жывая памяць. На фота — могілкі ў вёсцы Юркавічы Лагойскага раёна. На Радаўніцу **родзічы прыносяць цукеркі** на магілу жанчыны і трох дзетак, забітых у кастрычніку 1943-га ў вёсцы Масцішча.



ФОТА АЛЯКСАНДРА ПАШКЕВІЧА

пасля пяцігадовай працы. Гэта магутная, грунтоўна дакументаваная кніга — у ёй сотні сведчанняў ацалелых з усіх куткоў нашай краіны. Даследчыкі аб'ехалі 174 вёскі. Прачытаўшы кнігу, ужо немагчыма з іроніяй ставіцца да выразаў «шматпакутная Бацькаўшчына», «гаротная зямелька» і «абы не было вайны».

Чытаючы кнігу, літаральна чуеш роднае беларускае шматгалоссе са спаленых, перарэзаных, павешаных, прастрэленых горлаў. Красніца, Тупічыцы, Вяды, Будзенічы, Рулёва, Будзенічы, Курын, Хвойня, Рудня, Боркі, Вялікія і Малыя Прусы, Збышын, Казіміраўска, Казулічы, Люцін...




Фота з суда над карнікамі, што спалілі Хатынь. 1986 год. **Мужчына на фота — Мікалай Гірыловіч**, адзіны, хто ўратаваўся падчас спалення вёскі Дальва Плешчаніцкага (цяпер Лагойскага) раёна. Тады яму было 13 гадоў, у момант суда — 55.

Вось некалькі галасоў з кнігі.

**Лізавета Кубрак**, тады маладая маці: «Толькі платка скінула, косы ўсе абсмаліліся. А тут от мне пальто шкварыцца, гарыць, а я яго то пяском, то так». Побач жыўцом тлеюць яе дзеці, яна ледзь паспявае тушыць. Просіць забойцаў: «Паночак, я сама з голаду, з холаду загіну, адно вы мяне не беце. Я не хачу, каб вы мяне білі. Хай я сама прападу з дзецьмі...»

**Міхась Верхаводка** быў дзіцём: «Я хацеў узяць хлеба, паліцай кажа: "Сынок, не бяры, ён табе не нада"». Іх палілі ў зямлянках, куранях. Міхась з мамай ляжалі ля сцяны, прыкінуліся мёртвымі, карнікі ходзяць, дабіваюць, Міхась просіць: "Мамачка, не дыхай, пачуюць"».

**Матруна Грынкевіч**: «Я выйшла, а ніхто не адзываецца, толькі тавар раве, ды каты мяўкаюць, ды сабакі брэшуць... Зайшла я ў некалькі хат: пуста, вада пазамярзала ў вёдрах, нічога не найду».

**Вера Какора** ўратавалася за копачкай сена. «Я за такую во копачку забегла і села. Шаптала тая копачка — так стралялі па ёй. І я засталася жывая. А яшчэ за капой сядзела Ева Горбань. Я хацела ўзяць яе, а яна кажа: "У мяне няма ног". Я яе і кінула».

**Марыя Кот** насіла цэлы сваіх забітых дачок і хавала ў яму, каб не пагарэлі мёртвыя дачушкі, каб не паелі іх свінні: «Хай то пабілі — дык яшчэ і згараць! Пацягнула, падняла. Дык яно такое маладое, мяккае!..»

**Параска Скакун** выжыла, лежачы ў твані з прастрэленым тварам і выцеклым вокам: «Во, сынкі мае родныя, да ўбілі ж і бацьку, да ўбілі ж і Любку, да ўбілі ж і Ваньку, да і Кольку ўбілі! Дык яны:

— Ой, мамка, добра хоць, што ты жывая. Аднаму было восем, другому было дзесяць, а трэцяму, што цяпер у яго цагляны дом, васямнаццаць было».

Да ацалелага **Віктара Пракаповіча** ў сне прыйшла жонка Алеся: «"Што ты мяне не пахаваеш, я ўжо цэлы год ляжу пад гэтым печам, а ты мяне не пахаваеш". Праўда, раскідаў гэту печ, а там костачкі, галёнкі, толькі костачкі асталіся».

**Ева Тумакова**: «Гляджу, ляжыць сродсцвеннік, дваццаць трэцяга года раджэння, і ляжыць, і ў яго кішкі вывернуліся... Ну ўсё, жывот яму парвала, усё... І ён гаворыць:

— Ева, дай мне вады. Я гавару:

— Ай, Ігнат, дзе я табе вазьму вады, усё ж пагарэла.

— А вы ўсе жывы?

— Убілі маю маць, а брат і бацька асталіся жывы... А вашых?

— Надзю, — гаворыць, — убілі, а Касіян папоўз у яр...»

**Соф'я Скірманд**: «Ну, калі самалёт гэты праляцеў, прыляцелі буслы. Во тут, відзіце... Гнёзды ж гараць іхнія. Дзеці гараць! Яны так: зах-зах-зах!.. Нада мной лятаюць. Можа, яны не нада мной, а мне здаецца, што нада мной... Гэтыя дзеці... Згарэла гняздо іх,

**Больш страшнай карціны, чым «Ідзі і глядзі», няма. Пасля яе ніхто ніколі не будзе ранейшым. Ні досведу прагляду гэтай карціны, ні досведу знаёмства з гэтай прозай я, вядома, нікому не пажадаю. Гэта рэч мяне перавярнула, я нейкі час проста не мог глядзець на людзей.**

Расійскі пісьменнік **Дзмітрый Быкаў** пра кнігу «Я з вогненнай вёскі» і фільм «Ідзі і глядзі»

дзе і цяпер буслянка, толькі было бліжэй... Ну, гэтыя буслы паляцелі, прылятаюць вораны. Чорныя-чорныя!.. "Ну, — думаю, — гэта мяне есці будуць!.." Абратна — уніз-уверх, уніз-уверх! Ляталі, ляталі і гэтыя паляцелі».

## Хто паліў?

У кнізе «Я з вогненнай вёскі» ў якасці пацыфікатараў згадваецца карны батальён СС пад кіраўніцтвам Оскара Дырлевангера, сфармаваны са зняволеных нямецкіх турмаў, канцлагераў і ваенных турмаў СС. З 1942-га «дырлевангер» папаўняўся таксама добраахвотнікамі з ліку беларусаў, украінцаў, рускіх. Адзін з іх і застрэліў брата маёй бабулі, 14-гадовага Мішу. Сведкі згадваюць, што сярод пацыфікатараў былі і славакі, але тых хутка прыбралі з аперацый, бо яны ахвотна пераходзілі на бок партызанаў. Паступова, па меры раскручвання рэпрэсій, батальён Дырлевангера стаў палком.

## Знакі спаленых вёсак

Гэта не толькі трагічныя коміны Хатыні, але і студні асіповіцкай вёскі Макаўе. 8 студзеня 1943 года фашысты забілі больш за 270 яе жыхароў, а таксама людзей з іншых вёсак, што ўцякалі сюды, у лясную вёску. Не выжыў ніводны жыхар гэтага Макаўя. Няма адтуль ні пошапту, ні голасу, і ніколі не будзе.


З АСАБІСТАГА АРХІВА ВІКТАРА ГЛАЗКОВА

На Дзятлаўшчыне ў Ліпічанскай пушчы, ля хутара Яблынька, стаяла каменная пірамідка з іржавым чыгунным крыжам, на нізенькім цэментаваным калодзежным крузе. У прадонні калодзежа спіць засыпаная сялянская сям'я. Невядома, жывымі ці мёртвымі ўкінулі іх у студню. Іван Пархач, 48 год, яго жонка Агата — 47, дзеці Зіна — 18, Міхась — 16, Марыя — 14.

У вёсцы Касцюковічы на Мазыршчыне — чатыры магілы-калодзежы, у якіх пахаваныя жыхары вёскі, задушаныя ў душагубках. Выкарыстанне газэнвагена пры пацыфікацыі — праект «літасціўца», рэйхсфюрэра Генрыха Гімлера. 15–16 жніўня 1941-га ў Баранавічах і Мінску Гімлер назіраў масавыя расстрэлы, атрымаў стрэс і загадаў распрацаваць «больш гуманны метад смерці». Пра гэта ў сваім дзённіку сведчыць обергрупэнфюрар СС Эрых Бах-Цалеўскі, які кіраваў антыпартызанскімі акцыямі ў Беларусі і Польшчы.

Асаблівымі помнікамі загінулым сталі дрэвы. У дзяцінстве, калі нас павезлі ў Хатынь, мы дзівіліся, што на Лагойшчыне такія высокія дрэвы. Нейкая цётка ў хустачцы сказала нам: «А што ж вы дзівіцеся, дзеткі, гэта ж старыя вязы, яны ж на попеле і жыры людскім раслі».

Калі я ўпершыню пачула слова «Галакост», то падумала, што гэта пра голыя косткі ўсіх непахаваных, спаленых, развеяных. У тым ліку маіх продкаў.

Нашыя бабкі не надта цыркаліся з тым, каб хаваць ад малых унукаў страшныя ісціны. Ужо да нашых трох-пяці год мы, дзеці 1970-х, ведалі пра калектывізацыю, галадуху, вайну, сталіншчыну з трыма каласкамі, зноў галадуху і пра тое, што наш род скараціўся ў чатыры разы, а то — уга! — колькі б народу было. Гэта паклала цень на ўсё нашае жыццё, ты нібыта «носіш сваіх мерцвякоў на плячах».

Гэты тэкст ёсць данінай іх памяці і шанцам на саматэрапію. Калі ў мяне будуць унукі, я не ведаю, ці распавяду ім пра нас, недапалкаў. ◆




# Галадамор:
## як Сталін паставіў сялян на калені

**Індустрыялізацыю задумалі ажыццявіць за кошт звышэксплуатацыі сялян. Тыя масава супраціўляліся. Тады іх вырашылі зламаць голадам. 16 краін свету прызналі Галадамор генацыдам. Дакументы той пары немагчыма чытаць без слёз, піша гісторык Дмытро Лукін.**

«Гр. Сікорская ноччу зарэзала сваё 9-гадовае дзіця. Частку вантроб паспела з'есці, заўтра ўтапіла другое дзіця і памерла сама ад знясілення».

«Жонка бедняка, што пайшоў на працу ў горад, вярнуўшыся дадому і знайшоўшы мёртвым свайго сына, адрэзала ногі дзіцяці і зварыла са шчаўем... На другі дзень памерла сама і другое дзіця».

Гэта цытаты з дакументаў пра падзеі 1932–1933 гадоў у Савецкай Беларусі — у Мазырскім, Ельскім, Нараўлянскім раёнах (дакументы ў Нацыянальным архіве адшукала беларускі гісторык Ірына Раманава).

Ва Украіне голад быў яшчэ страшнейшы.

З дакладной запіскі Кіеўскага аблвыканкама СНК УССР аб цяжкім становішчы з прадуктамі ў вобласці, не пазней за 15 лютага 1933 года:

«За апошні час зарэгістравана некалькі выпадкаў людаедства. Так, мелі месца выпадкі...

На фота злева направа: **Лазар Кагановіч, Іосіф Сталін, Павел Постышаў і Клімент Варашылаў** у студзені 1934 года.

у Белацаркоўскім раёне ў с. Альшана; у Багуслаўскім раёне ў с. Місайлаўка грамадзянка Аўраменка, 48 гадоў, зарэзала і з'ела сваю 8-гадовую дачку. У Цяціеўскім раёне ў с. Чарэпін аднаасобніца грамадзянка Беразнюк зарэзала і з'ела дачку 10 гадоў. Цяпер Беразнюк і яе другое дзіця пры смерці. У с. Скібінцы таго ж раёна сям'я калгаснікаў... забіла і з'ела чужога хлопчыка, а таксама з'ела частку трупа памерлай маці.

Ва Уманскім раёне, у с. Качаржынцы, грамадзянка Асіпенка, 47 гадоў, забіла і з'ела сваю дачку 7 гадоў... У Белацаркоўскім раёне ў с. Трушкі двое братоў Багамазаў задушылі 3-гадовага сына калгасніка Федзіна, які зайшоў да іх, і з'елі яго... У Смілянскім раёне ў с. Насачаў у доме члена калгаса грамадзяніна Савы была забітая Уха Фрося, што прыйшла туды. Труп яе быў пасечаны на дробныя кавалкі і засолены. Гэты труп елі два тыдні.

Прыведзенымі фактамі не вычэрпваюцца ўсе выпадкі людаедства, якія мелі месца ў Кіеўскай вобласці за апошні час...».

Паведамленне ГПУ УССР ЦК КП(б)У аб цяжкім становішчы ў Вінніцкай і Кіеўскай абласцях, 16 лютага 1933 года

«...У с. Рудое аднаасобніца Ярамчук кінула 3 дзяцей і выехала з вёскі. Яе 9-гадовы хлопчык разам са старэйшай сястрой каменем забілі малодшую 3-гадовую сястру, пасля чаго адрэзалі галаву і ўжывалі ў ежу ў сырым выглядзе мяса трупа».

«Мелітопальскі раён. 3 сакавіка г. г. у с. Канстанцінаўка жыхар гэтага сяла Аўраменка Т.І., які займаўся шавецтвам, быў знойдзены ў сябе дома мёртвым... Смерць наступіла ў выніку атручэння трупным мясам пры ўжыванні ў ежу трупа... памерлага ад голаду брата. Акрамя трупа брата ... за некалькі тыдняў да брата з'еў труп сваёй маці. Пры аглядзе хаты паблізу Аўраменкі знойдзены кацёл са звараным чалавечым мясам».

Ад голаду чалавек спачатку апухаў, пасля паволі згасаў. Ці можаце сабе ўявіць, што перажылі людзі, вымушаныя варыць сваіх апухлых ад голаду дзяцей, каб выжыць самім? А гэта было ўсяго 85 гадоў таму, пры нашых дзядах ці прадзедах. Перажыўшы такое, чалавек пераставаў быць свабоднай асобай.

У студзені 1933 года быў уведзены пашпартны рэжым, што азначала фактычнае блакаванне межаў УССР, а таксама была зроблена апошняя адчайная спроба выканаць хлебанарыхтоўчы план шляхам канфіскацыі ўсіх прадуктаў у людзей.

Савецкія ўлады хацелі ажыццявіць індустрыялізацыю за кошт выпампоўвання рэсурсаў з вёскі. Яны разлічвалі за кошт экспарту збожжа купляць неабходныя для новых заводаў станкі і металы. Акрамя таго, яны задумалі калектывізаваць ▶


23(ПМ) Сов.секретно

СПЕЦСПРАВКА

о размерах голода по отдельным областям

Украины.

КИЕВСКАЯ ОБЛАСТЬ.

Продовольственные затруднения в Киевской области с каждым днем обостряются: поражено 28 районов области, в основном, районы

За время с 9/1 по 12/II в районах Киевской области учтено: трупоедства- 54 случая, людоедства- 69 случаев.

ВОЛОДАРСКИЙ РАЙОН. В с. Рудое, оставив дома 3-х малолетних детей, из села выехала единоличница [redacted]. Не имя совершенно продуктов питания, по уговору с старшей сестрой, 9-ти летний мальчик убил 3-х летнюю девочку (сестру), после чего отрезали у нее голову и в сыром виде ели мясо трупа.

ЧЕРНЯХОВСКИЙ РАЙОН. В с. Андреевe умер из почве недоедания бедняк [redacted]. 11-ти летний мальчик - ножем вскрыл живот умершего отца, вынул внутренности и приготовил их, чтобы сварить. Об этом узнали соседи и своевременно труп был забран с квартиры.

О положении в ДНЕПРОПЕТРОВСКОЙ И ОДЕССКОЙ ОБЛАСТИ нами сообщено 17/III в бюллетене № 38.

П/П. НАЧ СПО ОГПУ Г.Молчанов

ОПЕРСЕКРЕТАРЬ Эдельман.

Верно: ПОМ СЕКРЕТАРЯ СПО ОГПУ (Светлов)

Рассылается: 1. Менжинскому, 2. Ягода, 3. Прокофьеву. 4. Агранову.

**З дакладной запіскі** старшыні ГПУ УССР аб пашырэнні памераў голаду, 5 сакавіка 1933 года.

«Мы дабіліся таго, што дапамаглі мільённым масам беднякоў увайсці ў калгасы... Мы дабіліся таго, што мільённыя масы беднякоў, якія жылі раней нішчымна, сталі цяпер у калгасах серадністамі, сталі людзьмі забяспечанымі... Гэта значыць, што ... не менш за 20 млн беднякоў выратавалі ад галечы і спусташэння... Гэта вялікае дасягненне, таварышы. Гэта такое дасягненне, якога не ведаў свет і якога не дасягала яшчэ ні адна дзяржава ў свеце».

*Сталін, прамова на Першым з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў. 19 лютага 1933 года*

### Вёскі «на чорнай дошцы»

Запіс на «чорную дошку» азначаў уключэнне калгаса ці вёскі ў пералік злосных парушальнікаў хлебанарыхтоўчага плана. Такую мясцовасць блакавалі патрулі, туды перасталі пастаўляць прадукты. Масавыя смерці ад голаду ў такіх сёлах фіксаваліся ўжо ў канцы 1932-га, да лета 1933 года вёскі там вымiралі цалкам. Да вясны 1933-га такім чынам былі пакараныя жыхары амаль паловы раёнаў тагачаснай Украінскай ССР, а ў Днепрапятроўскай вобласці — усе раёны.

▶ сельскую гаспадарку, каб лягчэй было кантраляваць вёску. Але калектывізацыя натыкнулася на супраціў уласнікаў, якіх не ўдавалася зламаць ніякімі рэпрэсіямі і дэпартацыямі. Загнаныя ў калгас працавалі кепска, начальства калгасаў не ўмела кіраваць. Ураджаі ўпалі. На гэта наклалася засуха 1931–1932 гадоў. Але ўлады не толькі не спыніліся, яны пачалі забіраць у сялян літаральна ўсё, што тыя мелі.

Голад быў свядома дапушчаны ў якасці пакарання за фармальнае невыкананне плана не толькі ва Украіне, але і ў чарназёмных раёнах Расіі, на Доне, у Казахстане.

### Колькі людзей памерла ў Галадаморы?

Страты насельніцтва СССР праз звышсмяротнасць падчас голаду 1932–1934 гадоў.

| Рэгіён | Велічыня стратаў, тыс. чалавек | % ад колькасці насельніцтва |
|---|---|---|
| **СССР у цэлым** | **8731,9** | **5,42** |
| Расія | 3264,6 | 3,17 |
| Украіна | 3917,8 | 12,92 |
| Беларусь | 67,6 | 1,27 |

У Савецкай Беларусі ў 1932–1934 гадах ад голаду памерлі 67,6 тысячы чалавек, або 1,27% насельніцтва рэспублікі. Гэта мала ў параўнанні з 12,92% памерлых ва Украіне. Беларусы традыцыйна садзілі бульбу, гэта іх уратавала.

У выніку ўзімку з 1932 на 1933 год голад стаў галадаморам.

Толькі з сакавіка 1933 года, калі ўзнікла пагроза поўнага вымірання сяла, пачынаюць ажыццяўляць дапамогу галодным, за дзяржаўны кошт фармуюцца фонды насення. Але ў большасці выпадкаў было ўжо позна.

### Сталін, Молатаў, Кагановіч...

Прыгаворам Апеляцыйнага суда Кіева ад 13 студзеня 2010 года па крымінальнай справе арганізатараў Галадамору праходзяць Іосіф Сталін, Вячаслаў Молатаў, Лазар Кагановіч, Павел Пастышаў, Станіслаў Касіёр, Улас Чубар і Мендэль Хатаевіч.

### Маленькі подзвіг Корчака-Чапуркоўскага

Каб замесці сляды, ужо ў 1933 годзе савецкая ўлада пачала сістэматычна знішчаць статыстычныя крыніцы, запісы ЗАГСаў, спыніла фіксацыю галодных смерцяў. Нават дадзеныя перапісу 1937 года,



Казімір Малевіч. **Чалавек, што бяжыць (другая назва — «Селянін між крыжом і мячом»).** Геніяльны супрэматыст родам з Украіны намаляваў гэты вобраз у 1933 годзе, калі весткі пра жахі калектывізацыі дайшлі да вялікіх гарадоў. У 1930-м Малевіч быў вымушаны ўцякаць з Кіева ў Ленінград, каб уратавацца ад працэсаў супраць украінскай інтэлігенцыі. АГПУ арыштуе яго ў Ленінградзе і абвінаваціць у шпіянажы на карысць Нямеччыны.



ФОТА AVR.ORG.UA, ЭЛЕКТРОННЫ АРХІЎ ВЫЗВАЛЕНЧАГА РУХУ

Прадстаўнікі ўладаў канфіскуюць у сялян апошнія запасы прадуктаў, **схаваныя ў ямах.**

што выкрывалі «дэмаграфічную яму», былі засакрэчаныя, а пасля сфальсіфікаваныя. Аднак копіі звестак за пачатак 1930-х вынес і захаваў у сябе дома Юрый Корчак-Чапуркоўскі — супрацоўнік статыстычнага аддзела Інстытута аховы здароўя ды Інстытута абароны мацярынства і дзяцінства, дэмограф. У 1938 яго разам з іншымі дэмографамі (Сталін замятаў сляды сваіх правалаў і рэпрэсій) адправілі ў канцлагер. Але ён застаўся жывы і ў 1957-м вярнуўся ва Украіну.

Галадамор прызнаны генацыдам, бо гэта быў не выпадковы, а арганізаваны ўладамі голад. Так Сталін адказаў на паўстанні сялян, якія не хацелі аддаваць самае дарагое, што ў іх было, — зямлю. Нам сёння цяжка ўявіць, каб дзяржава магла вось так, без кампенсацыі, забраць усю тваю маёмасць. Савецкія сяляне — тыя з іх, хто нешта меў, — таксама спачатку не дапускалі такой магчымасці. На канфіскацыю зямлі яны адказвалі сабатажам і супраціўам.

### Сялянскія паўстанні

Адказ беларусаў на калектывізацыю быў такім жа, як і ва ўкраінцаў.





За 1930 год у БССР было зафіксавана 508 антысавецкіх выступленняў, а ва УССР — 4098. Па іншай дакладной запісцы, толькі ў лютым 1930 года ў масавых акцыях узялі ўдзел 11 470 жыхароў БССР, а ва УССР — 22 040. За 1930 год у БССР адбылося 533 выпадкі, якія ўлады кваліфікавалі як тэракты, а ва Украіне — 2 779 такіх выпадкаў. Калі ўлічыць, што ў тагачаснай УССР жыло каля 30 млн чалавек, а ў Беларусі — 5 млн, то інтэнсіўнасць супраціву была прыкладна аднолькавай.

Вялікае паўстанне адбылося ў канцы лютага на Любаршчыне, на ўкраінскім Падоллі, дзе сяляне 12-ці вёсак змаглі нават адбіць напады атрадаў мясцовай міліцыі. Толькі апергрупы ГПУ зламалі супраціў.

Найбольшае ўзброенае паўстанне ў 1930-м адбылося на другім баку Дняпра. Базай для яго стала разгалінаваная сетка падполля. Тыя, хто застаўся на волі, мелі прыстойныя як для сялян запасы зброі і, справакаваныя да рашучых дзеянняў масавымі арыштамі, арганізавалі кавалерыйскі атрад. Паўстанцы былі прыхільнікамі былога кіраўніка Украіны гетмана Паўла Скарападскага і мелі сваіх агентаў нават у расквартараваным побач стралковым палку. 4 красавіка 1930-га паўстанцы пачалі рух ад сяла да сяла, забіваючы савецкіх актывістаў. Сілы міліцыі і ГПУ 5–6 красавіка ў некалькіх палявых баях з ужываннем кулямётаў разграмілі два паўстанцкія атрады. Пошукі і арышты ўдзельнікаў паўстання працягваліся паўгода. Усё гэта нагадвала сярэднявечныя сялянскія паўстанні.

**Дакладная запіска сакрэтна-палітычнага аддзела ОГПУ ад 15 сакавіка** 1931 года дае падрабязную статыстыку па асноўных відах антысавецкай дзейнасці за 1930 год.

| | Тэрор | Масавыя выступленні | Улёткі |
|---|---|---|---|
| УССР | 2779 | 4098 | 1211 |
| БССР | 533 | 508 | 59 |

На працягу 1931 года ГПУ зафіксавала 786 падпалаў калгасных палёў па УССР і 375 — па БССР.

## На колькі знізілася нараджальнасць у гады Галадамору?

| Год | Расія | | Украіна | | Беларусь | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Народжаныя, тыс. чалавек | Адносны паказчык, 1927 = 100% | Народжаныя, тыс. чалавек | Адносны паказчык, 1927 = 100% | Народжаныя, тыс. чалавек | Адносны паказчык, 1927 = 100% |
| 1927 | 4167 | 100 | 1184 | 100 | 195 | 100 |
| 1932 | 3340 | 80,2 | 782 | 66,0 | 158 | 81,1 |
| 1933 | 2705 | 64,9 | 471 | 39,7 | 124 | 63,7 |
| 1934 | 2628 | 63,1 | 572 | 48,3 | 110 | 56,4 |
| 1935 | 3340 | 80,2 | 759 | 64,1 | 158 | 81,1 |

**У голад людзям было не да працягу роду.** За 1932–1935 гады ў СССР нарадзілася на 5 мільёнаў дзяцей менш, чым звычайна.

### Як бунтавалі Лельчыцы і Ляскавічы

Створаная С. Хамутоўскім і братамі Бараноўскімі ў Лельчыцкім раёне Беларусі група колькасцю 80 чалавек з 15 адзінак агнястрэльнай зброі сышла ў лес, іншыя групы падтрымлівалі іх. Паўстанне было здушанае, пасля таго як войскі ОГПУ застрэлілі 21 селяніна і арыштавалі яшчэ 119.

Больш інфармацыі пра гэтае і іншыя сялянскія выступленні — ▶



ФОТА AVR.ORG.UA, ЭЛЕКТРОННЫ АРХІЎ ВЫЗВАЛЕНЧАГА РУХУ.

**Арыштаваны селянін** Іван Мотлах.

▶ у дакументах ОГПУ, апублікаваных на сайце istmat.info.

Атрад А. Жураўскага і Г. Бірана колькасцю 20 чалавек дзейнічаў на мяжы Хойніцкага і Брагінскага раёнаў на Гомельшчыне. Мяцежнікі рыхтавалі ўзброенае выступленне, мелі сувязнога з украінскім паўстанцкім цэнтрам у суседняй Чарнігаўскай вобласці УССР. Аднак з дапамогай агента Урагана, што ўвайшоў праз «банды», групу затрымалі. Калі яе канваіравалі, сялян паспрабавалі вызваліць іх землякі. У выніку 6 «бандытаў» забілі і 27 арыштавалі.

«У Мінскай, Мазырскай, Магілёўскай і Аршанскай акругах у канцы лютага і пачатку сакавіка па шэрагу раёнаў масавымі выступамі, якія суправаджаліся збіццём саўработнікаў, выгнаннем камуністаў і брыгаднікаў, былі ахопленыя некалькі сумежных сёлаў. Становішча працягвае заставацца напружаным (дадзеныя на 15 сакавіка)... У с. Ляскавічы [цяпер гэта ўзорны аграгарадок, дзе збудавана рэзідэнцыя прэзідэнта] натоўп аказаў супраціў узброенаму кулямётам атраду памежнікаў, пушчана ў ход зброя».

### Бунт у Барысаве

7 красавіка 1932-га галодны бунт выбухнуў у Барысаве. Жанчыны пачалі граміць хлебныя крамы. Прычынай было скарачэнне і без таго бедных нормаў выдачы хлеба па картках, прычым адмянялася выдача хлеба дзецям. У выніку ўлады былі вымушаныя 9 красавіка ўзнавіць выдачу дзецям 200 грамаў хлеба ў дзень у межах усёй рэспублікі.



**Памерлыя ад голаду ляжаць на вуліцы сталіцы Украіны.** Харкаў, 1933 год.

ЦЭНТРАЛЬНЫ ДЗЯРЖАЎНЫ КІНАФОТАФОНААРХІЎ УКРАІНЫ ІМЯ Г. ПШАНІЧНАГА. ОД. ОБЛ. 5121.

Калгасная сістэма была неэфектыўная. Статыстыка фальсіфікавалася, але ў рэальнасці **ўзроўню жыцця 1913 года ў СССР удалося дасягнуць толькі ў 1950-я**. Самы маштабны і самы крывавы сацыяльны эксперымент у гісторыі з эканамічнага пункту гледжання цалкам праваліўся.

### Галавакружэнне ад поспехаў

Сталін быў шакаваны аднагалоснасцю і масавасцю сялянскіх выступаў. 2 сакавіка 1930-га ён фактычна прыпыніў суцэльную калектывізацыю артыкулам у «Правде» «Галавакружэнне ад поспехаў» і адпаведнай партыйнай пастановай, якой адказнасць за «перагіны» ўскладалася на нізавыя звёны ўлады. Быў дазволены выхад з калгасаў, і калектывізацыя ў лічаныя тыдні вярнулася да паказчыкаў часоў нэпа.

Але адступленне было толькі тактычным. Ужо вясной наступнага,

**Рафаэль Лэмкін**
юрыст. Нарадзіўся ў 1900 годзе ў Бязводным, цяпер гэта Зэльвенскі раён Гродзенскай вобласці. Вучыўся ў Львоўскім універсітэце. Яшчэ падчас вучобы пачаў займацца пытаннем юрыдычнай адказнасці за знішчэнне этнічных груп. Вылучыў наступныя прыкметы генацыду:
– Разбурэнне культурных каштоўнасцяў і гістарычнай спадчыны праз перадачу дзяцей з адной этнічнай групы ў іншую, прымусовае і сістэматычнае выключэнне цывілізацыйна-культурных элементаў, забарона на выкарыстанне роднай мовы, сістэматычнае знішчэнне кніг на роднай мове групы, разбурэнне аб'ектаў гістарычнай і культурнай спадчыны;
– Акты жорсткай агрэсіі ў дачыненні да некаторых фізічных асоб;
– Гвалтоўнае ўварванне ў прыватнае жыццё прадстаўнікоў пэўных груп;
– Мэтанакіраванае знішчэнне гістарычнай, культурнай і эканамічнай асноў гэтых груп.
У 1941 годзе Лэмкін эміграваў у ЗША. Паняцце «генацыд» набыло міжнародны прававы статус пасля прыняцця ў снежні 1948 года «Канвенцыі аб папярэджанні злачынства генацыду і пакаранні за яго».

### Як Беларусь дапамагала галадаючай Украіне

У сакавіку 1933 года, хоць беларусы самі былі на мяжу голаду, рэспубліка адправіла ва Украіну бульбу для пасадкі.

1931 года ціск на сялян аднаўляецца, пры гэтым прадумана праводзіцца другая масавая кампанія «раскулачвання»: у Сібір і на Поўнач дэпартуюць сотні тысяч сялян.

7 жніўня 1932 года ўводзіцца ў дзеянне «закон аб каласках»... У выніку загінуць мільёны, яшчэ мільёны не народзяцца. Украінскае сяло нават у вайну не зазнае такіх бед, як пры Сталіне.

Пасля Галадамору сяляне больш не супраціўляліся канфіскацыі маёмасці. Страх панаваў над людзьмі. Любыя згадкі пра Галадамор былі забароненыя, але памяць пра яго не сцерлася, і, як толькі СССР захістаўся, у 1991 годзе 90% жыхароў Украіны прагаласавалі за незалежнасць, што ўбіла апошні цвік у труну савецкай імперыі.

З 1998 года **Дзень памяці ахвяр Галадамору** адзначаецца ва Украіне ў апошнюю суботу лістапада. Да помнікаў ахвярам прыносяць каласкі і свечкі.

### Чаму Галадамор — гэта генацыд

Успрыманне Галадамору як генацыду замацавана ўкраінскім заканадаўствам, якое апелюе да Канвенцыі ААН 1948 года «Аб папярэджанні злачынства генацыду і пакаранні за яго».

Адзін з яе стваральнікаў, сам аўтар тэрміна «генацыд» Рафаэль Лемкін, лічыў Галадамор генацыдам.

16 краін свету прызналі Галадамор генацыдам украінскага народа. Але злачынствы сталінскага рэжыму ў адносінах да беларускага, казахскага, рускага народаў таксама можна кваліфікаваць як генацыд. Прэцэдэнт ужо створаны, пытанне ў наяўнасці палітычнай волі кіраўніцтва адпаведных дзяржаў. ◆



**Першы ў свеце помнік ахвярам Галадамору** паставілі ўкраінцы-эмігранты ў Канадзе, у горадзе Эдмантан. Ён мае выгляд трэснутых жорнаў, да якіх цягнуцца схуднелыя дзіцячыя рукі. У жорнах уручную малолі зерне. У СССР у тыя гады ўзгадваць пра Галадамор было забаронена.

IGOR GOLOVNIOV/SHUTTERSTOCK.COM



**Помнік ахвярам Мінскага гета** на месцы яўрэйскіх могілак на вуліцы Сухой. Паламаны круглы стол і венскае крэсла сімвалізуюць знішчаную сялібу.

ФОТА АНДРЭЯ ЗАМОЙСКАГА

# «Успомні мяне *калі-небудзь*»

**Піша доктар гісторыі Андрэй Замойскі.**

З успамінаў жыхара Мінска Леаніда Пракопчыка: «Была позняя восень, калі на сметніку Політэхнічнага інстытута я пазнаёміўся і пасябраваў з Томасам. Увайшоў аднойчы ў двор інстытута, бачу: нехта ў шэрым паліто і берэце — нашы так не апраналіся — грабе палкай смецце. Я ціхенька свіснуў — незнаёмец павярнуўся. Гэта аказаўся хлопчык, круглатвары, у акулярах і вельмі бледны. Ён агледзеў мяне, заўсміхаўся і вялікімі крокамі — на нагах у яго былі карычневыя чаравікі на таўшчэзнай падэшве — пайшоў, умінаючы друзлае смецце, насустрач, а калі наблізіўся, працягнуў па-даросламу руку і сказаў:

— Міх хайсэ Томас! (“Мяне зваць Томас”.)

Я здзіўлена глядзеў на нямецкага хлопчыка. Было яму гадоў 12–13. Адкуль узяўся цывільны немец? Заўважыўшы маё здзіўленне, хлопец горка ўсміхнуўся і адхінуў доўгае паліто. На клятчастай кашулі, на левым баку, атрутна жаўцела шасціканцовая зорка з кароткім, як стрэл, словам “Юда”.

Мы ведалі, што азначае такая латка. Шасціканцовую зорку з чорным абадком, акуратную, відавочна фабрычнай вытворчасці, насілі гамбургскія яўрэі, якія нядаўна з’явіліся ў Мінску. Прывезлі іх падманам, паабяцаўшы, што пераправяць у Галандыю на сталае жыхарства. У Мінску багаж адразу канфіскавалі, звезлі ў інтэрнат Політэхнічнага інстытута і прымусілі перабіраць, сартаваць уласныя рэчы. Пасялілі нямецкіх яўрэяў разам з нашымі ў гета, а на тэрыторыю інстытута прывозілі на працу. Сярод іх аказаўся і Томас.

**75 гадоў таму нацысты забілі апошніх вязняў Мінскага гета**

Рыта К. была падлеткам, калі пачалася Другая сусветная вайна. Дзяўчынка з забяспечанай сям'і не надта перaймалася пытаннем, хто яна. Калі ў школе яе запыталі пра нацыянальнасць, Рыта разгубілася і сказала, што ёй трэба запытаць пра гэта ў маці. Спакойнае жыццё абарвалася, калі родны Мінск быў акупаваны. «А потым з'явіліся ўлёткі, што 25 ліпеня ўсе яўрэі павінны быць за дротам у пэўным раёне, які быў адведзены пад Мінскае гета. Вось так мы і апынуліся ў гета: бацька, маці і я з братам. У адным пакоі, 15 метраў, нас жыло тры сям'і. У кожнай быў толькі адзін ложак».

Але хлопчыку давалі паблажку: ён мог не працаваць і гуляць непадалёк. Прывозілі Томаса не кожны дзень, але я, выпраўляючыся ў абыход сваіх памыек, абавязкова заходзіў і на сметнік у Політэхнічны. У дзень нашага знаёмства Томас дастаў з-пад кашулі і працягнуў мне даўгаватую эмаліраваную талерку з сінім абадком — мы ёю карыстаемся да гэтага часу.

Потым дзякуючы Томасу ў нас з'явіліся сталовыя нажы з нержавеючай сталі з круглымі ўзорыстымі ручкамі, відэльцы, цяжкія сталовыя лыжкі, эмаліраваны кафейнік... "Мама перадала", — казаў ён.

Я стараўся не заставацца ў даўгу і падкормліваў Томаса. Непрыкметна запіхваў у кішэню блін або браў з чыгуна пару бульбін у мундзірах. Даведаўся ён, што такое нашы праснакі, хваліў, казаў, што есць, нарэшце, сапраўдны хлеб.

Неяк я ўбачыў, што Томас падабраў бурачныя ачысткі, пабег у прыбіральню, памыў пад кранам і стаў грызці, як моркву. Аказалася, ён вельмі любіць сырыя буракі. Так што цяпер я з вечара лазіў у склеп, выбіраў чырванейшую бурачыну і прыносіў яму. Томас з апетытам згрызаў яе — толькі рот і пальцы станавіліся чырвонымі.

## Гэта былі жахі, роўных якім людзі не ведалі

Аднойчы Томас дастаў з унутранай кішэні і аддаў мне сваю новую "прыгожую" латку-зорку — была ў яго запасная — і раптам сур'ёзна папрасіў: "Успомні мяне калі-небудзь".

У пачатку вясны гамбургскіх яўрэяў перасталі прывозіць у Політэхнічны. Томаса я больш не бачыў. У 1943 годзе амаль усе нямецкія яўрэі былі расстраляныя. У жывых засталося восем мужчын. Хочацца думаць, што ў іх ліку быў і Томас».




ФОТА АНДРЭЯ ЗАМОЙСКАГА

**«Камяні спатыкнення»** — памятныя таблічкі, умураваныя ў брукоўку перад дамамі ахвяр нацызму ў 1200 еўрапейскіх гарадах. На фота: камень у памяць жыхара Гамбурга, забітага ў Мінскім гета.

### Стварэнне гета

Нямецкія войскі акупавалі Мінск 28 чэрвеня 1941 года. Савецкая армія хаатычна адступала, масавай арганізаванай эвакуацыі не было, партыйнае і савецкае кіраўніцтва хутка выехала на ўсход, пакінуўшы мінчукоў на волю лёсу. Людзі не ведалі, што іх чакае. Старыя памяталі яшчэ немцаў 1918 года, пры якіх «быў парадак». Большасць не верыла савецкай прапагандзе. Мала хто думаў, што такая «культурная нацыя», як немцы, ужо праз некалькі тыдняў ператворыць жыццё мінчукоў у пекла. ►



**Перасяленне ў гета.** Людзі спускаюцца з Бетоннага моста на вуліцу Маскоўскую (цяпер раён метро «Інстытут культуры»). Для большасці з іх гэта апошняе ў жыцці фота.

Мінскае гета па колькасці вязняў належала да найбуйнейшых у Еўропе, саступаючы толькі Варшаве, Лодзі і Львову. Праз яго прайшло больш за 100 тысяч яўрэяў з Беларусі, Германіі, Аўстрыі, Чэхіі. Выратаваліся толькі некалькі тысяч...

«Я пайшла ў гета шукаць сяброўку, а пабачыла забойства. Гэта было на Ракаўскай. Ішла жанчына, яўрэйка. А па тратуары ішоў нямецкі афіцэр. Я бачу: ён дастаў пісталет — і раптам яна ўпала. Гэта было так страшна, што я забыла, куды ішла», — успамінала Маіна Стырнэ, якой у 1941-м было 16 гадоў.

▶ Адным з першых загадаў акупантаў было арганізаваць у Мінску юдэнрат (яўрэйскую раду), якая мусіла правесці рэгістрацыю яўрэйскага насельніцтва. Надалей гэты орган адказваў за функцыянаванне гета. Распараджэннем ад 19 ліпеня 1941 года ўсе яўрэі павінны былі перамясціцца на вызначаную тэрыторыю — на правы бераг Свіслачы, у кварталы Ракаўскага прадмесця, паміж Нямігай і Юбілейнай плошчай.

На перасяленне адводзілася ўсяго толькі пяць дзён.

Гета ў Мінску ўключала ў сябе 39 вуліц і завулкаў.

У адрозненне ад іншых буйных гета, напрыклад варшаўскага, яно не было агароджана каменнымі мурамі, толькі калючым дротам. Сюды трапілі і мінскія яўрэі, і яўрэйскія бежанцы з Заходняй Беларусі, і тыя, хто вяртаўся назад, не здолеўшы прарвацца на ўсход у першыя дні вайны. Па дадзеных яўрэйскага падпольшчыка Гірша Смоляра, колькасць вязняў у канцы лета дасягнула 80 тысяч. Немцы сагналі ў Мінск частку яўрэяў з іншых беларускіх гарадоў і мястэчак. Пазней сюды наўмысна прабіраліся некаторыя яўрэі, ацалелыя падчас знішчэння іншых гета. Ім здавалася, што ў сталіцы будзе больш шанцаў выратавацца...

«Было сонечнае надвор'е. А калі мы сышлі на працу, а ў гета пачалася аблава — пайшоў дождж. Вось быццам бы прырода суправаджала ўвесь гэты акт. І два ці тры дні, я ўжо не памятаю, колькі цягнуўся гэты пагром — нам падавалася, што гэта вечнасць,— ліў дождж. Калі закончыўся пагром, нас вярнулі ў гета. Гета ж было як бы на гары, і ручаі крыві цяклі з дажджавой вадою».

**Гановерскі вакзал у Гамбургу.**
Адсюль яўрэяў вывозілі на смерць.



## Штодзённасць

Ад пачатку нямецкія акупацыйныя ўлады прымусілі яўрэяў пазначыць сябе павязкамі і латкамі. Сваімі загадамі немцы ўводзілі шэраг забарон для яўрэяў: валодаць маёмасцю, мець свае школы ў гета, хадзіць па тратуарах.

У вязняў канфіскоўвалі каштоўнасці, грошы, цёплыя рэчы. Яўрэяў вымушалі прыбіраць вуліцы, будаваць лагер Трасцянец. Раніцай рабочыя калоны пакідалі тэрыторыю гета, а ўвечары вярталіся дадому.

У гета дзейнічалі дзіцячы дом, медычныя ўстановы (немцы баяліся эпідэмій), прытулак для інвалідаў. Яўрэйская паліцыя павінна была сачыць за парадкам, але на справе не мела ніякіх правоў.




месцы пагрому 7 лістапада 1941 г.

месцы пагрому 20 лістапада 1941 г.

месцы пагрому 28 ліпеня 1942 г.

месцы рассялення «гамбургскіх» габрэяў у лістападзе 1941 г.

месцы пахавання ахвяраў акцыі 2 сакавіка 1942 г.

**Менскае гета**
**Карта, складзеная былым вязнем Менскага гета Л. Меламедам**

Мяжа гета пададзена пункцірам.

З КНІГІ Г. СМОЛЯРА «МЕНСКАЕ ГЕТА»



Дазвол на працу і выхад у горад даваў юдэнрат. Выхад у горад, які дазваляўся толькі ў складзе працоўнай калоны, даваў магчымасць набыць ежу ці абмяняць каштоўныя рэчы на прадукты. Увечары рабочыя вярталіся ў гета, але з восені 1942 года, калі немцы ўвялі так званае казарменнае размяшчэнне (нямецкае — *Kasernierung*), яны ўжо начавалі на месцы працы і толькі пад канец тыдня ішлі ў гета.

З кожным разам выходзіць станавілася ўсё больш складана і небяспечна. Пашырыўся кантроль, стала больш нямецкіх патрулёў, якія кантралявалі ўсе перавозкі. Акупанты баяліся замахаў з боку партызанаў.

З 1942 года гета нагадвала лагер. Немцы правяралі наяўнасць жыхароў у дамах. На Юбілейнай плошчы перыядычна праходзілі пераклічкі. Пакараннем за парушэнні была смерць. Усе будынкі ў гета і іх жыхары атрымалі індывідуальныя нумары. Акупанты ўвялі кругавую паруку: калі падчас праверкі і пераклічкі асобы не было на месцы ці нехта знікаў, карнікі знішчалі ўсю сям'ю ці суседзяў.

### Пагромы і «маліны»

Пасля лістападаўскіх пагромаў вязні сталі больш актыўна будаваць так званыя «схроны» («маліны»). Звычайная «маліна» была прасторай паміж сценамі (будавалася фальшывая сцяна), выкарыстоўваліся падполы, падстрэшкі, падвалы. Падчас карных акцый вязні павінны былі хутка схавацца. Сумны лёс чакаў тых, хто заставаўся, каб зачыніць такі схрон і адцягнуць увагу карнікаў. Звычайна сабой ахвяравалі старэйшыя, каб уратаваць жыццё дзецям і ўнукам. Праз нейкі час немцы ўжо ведалі пра гэтыя схованкі: прастуквалі сцены, выкарыстоўвалі службовых сабак, выкурвалі дымам. Пазнейшыя схроны ўжо нагадвалі падземныя бункеры, выкрыць якія было складаней.

«4 верасня 1943 года. У гета засталося паўтары тысячы яўрэяў. Паўтары тысячы — гэта была ўжо маленькая групка. І ўсё адно кожны дзень былі аблавы, і кожны дзень народ расстрэльвалі. Вывозілі. І душагубкі былі. У мяне брат аднойчы трапіў у душагубку. На яго шчасце, было кепскае надвор'е: дождж, а дарога ў калдобінах, лужынах. І душагубка, напоўненая людзьмі, трапіла ў такую калюгу, што не магла выехаць. Тады паднялі кузаў і ўсіх высыпалі, таму што людзі ўжо амаль задыхнуліся. Усіх, значыць, высыпалі, машыну выцягнулі, а брат папоўз пад колы, між коламі лёг. Ці разумеў ён, куды паўзе, ці не разумеў? Ва ўсялякім выпадку, ён апынуўся пад машынай. І калі машына з'ехала, застаўся ляжаць на бруку».

«Я часта хадзіла на тэрыторыю гета. Мама давала мне прадукты, і я насіла іх нашым сябрам. Аднойчы я пайшла, сустрэла знаёмых дзяцей, загулялася. Пабачыўшы, што ўжо цёмна, вырашыла заначаваць у гета. Мне нават на думку не прыйшло, што будзе з маімі бацькамі, калі я не вярнуся дамоў… Бацька пабег мяне шукаць. Каля ўваходу ў гета яго аклікнуў паліцай — «Юдэ!» — і штурхнуў за дрот. Бацька бажыўся, што шукае зніклае дзіця, але паліцай не верыў. А потым, магчыма, з суму ці цікаўнасці завёў яго ў памяшканне, паклікаў нейкіх старых і загадаў бацьку здымаць штаны. Старыя паглядзелі і сказалі: «Гэты чалавек рускі». Вярнулася я толькі раніцай. Мне, канечне, здорава дасталася».

*Раіса Сямашка*

### Зондэргета

Забіваючы цэлыя сем'і падчас пагромных акцый, немцы «вызвалялі» месца ў гета для еўрапейскіх яўрэяў, якіх дэпартавалі з Германіі, Чэхаславакіі, Аўстрыі. Нямецкамоўныя яўрэі, якія прыбывалі ў Мінск, у большасці былі перакананыя, што едуць каланізаваць здабытыя Рэйхам ▶




**Адзіны ацалелы будынак апошняй часткі гета.** Цяпер тут, па адрасе Сухая, 25, — Гістарычная майстэрня.

ФОТА АНДРЭЯ ЗАМОЙСКАГА

«Маліна» — ад «малон», з іўрыту «прытулак», «месца для начлегу».



Вядомага доктара-кардыёлага, **прафесара Лазара Сітэрмана** прымушалі голымі рукамі вычышчаць памыйныя ямы туалетаў.

▶ усходнія тэрыторыі. Большасць з іх нацысты знішчалі адразу па прыбыцці ў Мінск. Толькі невялікая частка трапляла ў «асобае гета» — зондэргета, ці «гамбургскае гета». Гэта невялічкі квартал паміж вуліцамі Караля, Раманаўскай Слабадой і Сухой. Цяпер тут усяго сем жылых будынкаў і Інстытут адукацыі.

Тут дзейнічаў свой юдэнрат, шпіталь. Вязняў зондэргета таксама выкарыстоўвалі на прымусовых работах. І тут таксама панаваў голад.

Шэрую штодзённасць гамбургскіх яўрэяў неяк ратаваў яўрэйскі аркестр (пазней выступленні забаранілі) і рэлігійнае жыццё. У адрозненне ад саветызаваных мінскіх яўрэяў, вязні зондэргета былі больш рэлігійнымі.

Па ўспамінах тых, хто выжыў, сяброўскіх адносін паміж вязнямі дзвюх частак гета не было. Але праз мясцовых яўрэяў вязні «гамбургскага гета» маглі абменьваць у мінчукоў рэчы на ежу.

З успамінаў вязня гета, доктара Рахіль Рапапорт:

«Нягледзячы на дрот, што падзяляў два гета, жыццё ўсё ж сутыкала нас з імі, галоўным чынам, на розных участках працы. Гэта былі людзі не толькі з чужой мовай, але з зусім іншай псіхалогіяй, чужымі нам звычкамі, звычаямі. Паміж намі хутка паўстала ўзаемная антыпатыя. Да нас яны ставіліся грэбліва, мы ўвасаблялі для іх “бальшавікоў”, акрамя таго, былі горш апранутыя і горш выглядалі. Іх непрыхаваная пыха выглядала трагікамічна ў тых абставінах. А для нас яны былі “немцамі”, і мы іх цярпець не маглі. Доўгі час яны не разумелі яшчэ, што на роўных падзеляць з намі агульны лёс...»

Рыта К. з братам уцякла з гета і трапіла ў сямейны яўрэйскі партызанскі атрад пад камандаваннем Шолама Зорына ў Налібоцкай пушчы:«Антысемітызм быў ужо не толькі сярод нямецкага насельніцтва. Мясцовыя, вярхушка, Масква — ужо ўсе былі заражаныя гэтым. І ў рускія атрады яўрэяў практычна не прымалі. У Сямёнаўскім атрадзе было шмат яўрэяў, і камандзір даў Зорыну вінтоўку і сказаў: «Забірай сваіх людзей і арганізоўвай свой атрад, а зброю здабудзеш у баі». І вось так пачаў арганізоўвацца атрад Зорына. Мужчын у нас было няшмат, у асноўным атрад лічыўся сямейным: дзеці, састарэлыя і маладыя жанчыны. Маладых забіралі і ў рускія атрады. Яны патрабаваліся і як жанчыны, ну і як партызанкі таксама. Было ў нас шмат зямлянак. Можаш уявіць — 750 чалавек! У нас у атрадзе была свая кухня, свой кароўнік, свой млын — у нас быў млынар; свая паліклініка — свае дактары былі. З іншых атрадаў да нас прыязджалі лячыцца, а жанчыны — на аборты. Жыццё ёсць жыццё. Я была простым шараговым салдатам на далёкіх пастах. Далёкі пост быў на падыходзе да атрада, за кіламетраў пяць-шэсць. Калі з’яўлялася небяспека, трэба было даць сігнал».

З вязняў зондэргета выратаваліся адзінкі.

## Сістэматычнае знішчэнне

З першых тыдняў акупацыі немцы вынішчалі тых, хто мог даць адпор: савецкіх работнікаў, былых вайскоўцаў, моладзь прызыўнога ўзросту, — а таксама «непрацоўныя» групы: старых, дзяцей, хворых. Метадычна вынішчалася яўрэйская інтэлігенцыя. Акупанты спачатку здзекамі прыніжалі чалавечую годнасць, а пазней забівалі ахвяру. Вядомага доктара-кардыёлага, прафесара Лазара Сітэрмана прымушалі голымі рукамі вычышчаць памыйныя ямы туалетаў.

Кіраўніцтва СС намагалася хутчэй «вырашыць яўрэйскае пытанне». Адбываліся забойствы па «квотах». У сакавіку 1942 года падчас акцыі ў гета карнікам не хапіла пэўнай колькасці ахвяр. Тады яны арыштавалі яўрэяў з рабочых брыгад.

28 ліпеня 1942-га немцы знішчылі амаль усё непрацоўнае насельніцтва гета. Пазбегнуць смерці падчас карных акцый у гета маглі хіба яўрэі з працоўных брыгад. Пад канец лета 1942 года ў гета заставалася толькі 11 тысяч вязняў, праца якіх была патрэбна акупантам.

Для знішчэння яўрэяў немцы прымянялі



таксама «душагубкі» — адмыслова абсталяваныя машыны, куды заганялі дзясяткі людзей і труцілі іх газам. Пахавальныя каманды закопвалі целы за межамі Мінска, у Трасцянцы.

### Падполле і партызаны

Больш шанцаў выжыць было ў тых, хто ў апошнія месяцы існавання гета меў адвагу ўцячы і ратавацца ў лясах ды партызанскіх атрадах. Вялікую ролю ў супраціве адыграла падполле Мінскага гета. Яно паўстала даволі хутка, праз некалькі тыдняў пасля стварэння гета. Падпольшчыкі мелі кантакты з юдэнратам, атрымлівалі ад яго інфармацыю пра планы акупантаў, а таксама здабывалі фальшывыя дакументы для выхаду ў горад.

Гета ўвосень 1941-га стала цэнтрам супраціву ў акупаваным Мінску.

На тэрыторыі гета дзейнічала падпольная друкарня і на пачатку 1942 года ўбачыла свет адно з першых падпольных выданняў — лісток «Веснік Радзімы», які распаўсюджваўся ў гета і па-за межамі. Падполле мела сувязі з атрадамі капітана Сяргеева (Быстрова), атрадам імя Фрунзэ.

Кіраўнікі падполля накіроўвалі групы моладзі ў лясы з надзеяй выратаваць іх у партызанскіх атрадах. Пазней, калі пагроза ліквідацыі гета

ФОТА АНДРЭЯ ЗАМОЙСКАГА



**Помнік еўрапейскім яўрэям на старых могілках на вуліцы Сухой.**

стала відавочнай, да партызанаў ішлі людзі розных узростаў. На гэтым шляху іх чакалі выпрабаванні.

### Ліквідацыя гета

У верасні 1943 прайшла дэпартацыя апошніх вязняў у лагеры смерці на тэрыторыі Польшчы — Сабібор і Майданэк. 21 кастрычніка 1943 года адбылася апошняя карная акцыя, нямецкая паліцыя знішчыла апошніх вязняў Мінскага гета. Партызаны выратавалі і перапраўвілі ў лес групу яўрэяў, якая хавалася на тэрыторыі былога гета. Гэтыя людзі замуравалі сябе ў «малінах», што ўратавала ім жыццё. Вязні ў адным з схронаў нават дачакаліся вызвалення Мінска летам 1944 года.

Некалькі дзясяткаў беларускіх і нямецкіх яўрэяў пакінулі для працы на радыёзаводзе. Яны жылі ў рабочым лагеры, які яшчэ часам называюць «малым гета». За некалькі дзён да прыходу Чырвонай Арміі ў Мінск іх пагрузілі ў таварныя вагоны і павезлі ў Асвенцім. Недалёка ад Мінска цягнік трапіў пад бамбёжку, і частка вязняў выратавалася. Пасля вайны, у 1946 годзе, некалькіх яўрэйскіх інжынераў радыёзавода, якія выжылі, асудзілі як «калабарантаў».

### Сумнае вяртанне

Пасля вызвалення Мінска ў ліпені 1944 года ў горад вярталіся тыя, хто ацалеў у лясах ці хаваўся ▶

Калі немцы адступілі, Рыта з братам вярнуліся ў Мінск, але свайго дома яны не знайшлі. Сябры-партызаны прапанавалі пажыць у сябе. Аднак дом быў заняты, а новы гаспадар аказаўся даўнім знаёмым: «Выйшаў, так сказаць, гаспадар. І я гляджу: гэта брат маёй сяброўкі, сусед па даваенным нашым жыцці. Нават падчас вайны я прыходзіла да іх, і яго мама Соф'я Яфімаўна мяне падкормлівала часам. Толькі так, каб Валодзька не бачыў. А Валодзька стаў паліцэйскім. І ён мяне злавіў у рускім раёне, калі я ўжо падыходзіла да гета і несла трошкі мукі і кавалак тлушчу. «Гэй, — кажа, — жыдоўская морда, што ты тут робіш?» Карацей, ён у мяне забраў усё: «Вось я цябе першы і апошні раз каб бачыў у рускім раёне». У хуткім часе Рыту з братам забраў у Маскву дзядзька. Гэтыя дзеці змаглі выжыць, але страцілі сваіх бацькоў і сваё дзяцінства.

УСПАМІНЫ РЫТЫ К. ЗАХОЎВАЮЦЦА Ў БЕЛАРУСКІМ АРХІВЕ ВУСНАЙ ГІСТОРЫІ. ПАДРЫХТАВАЛА ДА ДРУКУ ГАННА КАВАЛЁВА



**Мемарыял у Благаўшчыне за 14 км ад Мінска** па Магілёўскай шашы. Тут, побач з лагерам смерці «Малы Трасцянец», загубілі і закапалі 150 тысяч чалавек. Сярод забітых тут — і легендарны мінскі доктар Яўген Клумаў з жонкай. На месцы гіпермаркета «Прастор» на Партызанскім праспекце быў размеркавальны пункт, адкуль маладых і дужых адпраўлялі на работы ў Трасцянец, а жанчын, малых, пажылых — у «душагубках» у Благаўшчыну. Нашчадкі забітых тут еўрапейскіх яўрэяў наведваюць Благаўшчыну і прывязваюць на дрэвы жоўтыя таблічкі з прозвішчамі і фота тых, хто тут ляжыць.

▶ ў беларускіх сем'ях (падлеткі і дзеці). У выніку акупацыі яўрэйская супольнасць Мінска панесла страшэнныя страты. Нават сёння немагчыма дакладна вызначыць колькасць вязняў Мінскага гета. Дадзеныя аб рэгістрацыі яўрэяў не захаваліся ці наўмысна былі знішчаныя немцамі, каб пазбегнуць адказнасці за злачынствы. Акупанты нават забаранялі фатаграфаваць і дакументаваць тое, што адбывалася ў межах гета. Лічыцца, што праз гета прайшло больш за 100 тысяч яўрэяў. Магчыма, што з яго пры дапамозе падполля ці самастойна ўцяклі ад 6 да 10 тысяч вязняў, але ацалела з іх толькі палова.

## Памяць

Трагедыя Мінскага гета доўгі час свядома замоўчвалася. Савецкае кіраўніцтва не жадала ўзгадваць першыя месяцы вайны, калі ў паніцы не правяло эвакуацыі, кінула на акупаванай тэрыторыі мільёны, аб'явіўшы іх потым здраднікамі. Дзяржаўны антысемітызм ў пасляваенным СССР таксама не спрыяў намаганням яўрэйскіх актывістаў захаваць памяць пра беларускіх яўрэяў. Савецкая прапаганда не рабіла акцэнту на нацыянальнасці ахвяр фашызму. Надпісы на помніках паведамлялі пра «савецкіх грамадзян, забітых нямецка-фашысцкімі захопнікамі».

Улетку 1946-га мінскія яўрэі паставілі помнік сваякам у месцы, вядомым як «Яма».

Гэты мемарыял у Мінску быў адзіным помнікам, на якім надпіс быў зроблены на ідыш і ўзгадваліся забітыя яўрэі. Каля «Ямы» не толькі збіраліся людзі, што страцілі свае сем'і, — яна стала і пляцоўкай грамадскага жыцця яўрэйскай супольнасці Мінска і ўсёй Беларусі. Памяць пра жудасныя падзеі зберагалася ў сем'ях нешматлікіх ацалелых вязняў, яўрэяў-франтавікоў і тых людзей, якім пашчасціла выехаць на ўсход у першыя дні вайны.

З пачатку 1990-х у Мінску праводзяцца прысвечаныя ахвярам дні памяці, узнікаюць помнікі і шыльды ў памяць пра беларускіх і еўрапейскіх яўрэяў. Увекавечана памяць яўрэяў, дэпартаваных з Берліна, Брно, Брэмена, Гамбурга, Дзюсельдорфа, Кёнігсберга, Кёльна, Бона, Франкфурта-на-Майне, аўстрыйскіх гарадоў. Гэта запозненая, але вельмі важная справа. ◆

Беларускі архіў вуснай гісторыі сумесна з Гістарычнай майстэрняй імя Леаніда Левіна падрыхтавалі дыдактычны дапаможнік «Мінскае гета» для школьнікаў і настаўнікаў.

Неўзабаве пасля вайны распачалася антысеміцкая кампанія. Яўрэяў абвінавачвалі ў сімпатыях да сіянізму і імперыялізму, у 1951–1953-х разгарнулася так званая «справа лекараў», якія нібыта ад 1948 года хацелі атруціць высокіх партыйных урадоўцаў. Але яшчэ да яе пачатку, у 1947 годзе, яўрэям цудам удалося паставіць абеліск на месцы гібелі іх супляменнікаў, у мінскай «Яме» на вуліцы Ратамскай (цяпер Мельнікайце) — у кар'еры, дзе знішчалі і хавалі вязняў гета ў 1942–1943. Надпіс на камені гаворыць: «Светлая памяць на вечныя часы пяці тысячам яўрэяў, якія загінулі ад рук заклятых ворагаў чалавецтва — нямецка-фашысцкіх катаў 2 сакавіка 1942 года». Гэта быў першы ў СССР помнік з надпісам на ідыш. Аўтара тэксту паэта Хаіма Мальцінскага і каменячоса Мордуха Спрыншана ў 1949–1952-х прысудзілі да розных тэрмінаў зняволення ў лагерах паводле абвінавачання ў касмапалітызме (бо напісалі на помніку не пра «савецкіх грамадзян», а пра яўрэяў), расказвае гісторык Антон Рудак.

Гэтая ініцыятыва паклікана вярнуць у школьную праграму вывучэнне тэмы Халакосту. Спампаваць дапаможнік можна на сайце БАВГ (**www.nashapamiac.org**), а таксама на старонцы Нацыянальнага адукацыйнага партала (**adu.by**) у раздзеле «Дадатковы матэрыял».



Яма.

ФОТА АНДРЭЯ ЗАМОЙСКАГА

# Антон Рудак — пра масавы расстрэл вязняў Мінскага гета на Тучынцы


Мемарыял на Кальварыі ў памяць яўрэяў, расстраляных у Тучынцы.

7 лістапада 1941 года адбыўся расстрэл вязняў Мінскага гета на Тучынцы — цяпер гэта раён Харкаўскай вуліцы пры перасячэнні з Пінскай. З часу стварэння ў Мінску яўрэйскага квартала ў ліпені 1941-га гэта было першае спланаванае масавае забойства яго жыхароў, ажыццёўленае за межамі гета.

Раніцай, як толькі яўрэйскія працоўныя калоны былі выведзеныя ў горад, тэрыторыя на поўнач ад Нямігі, пачынаючы ад Замчышча на ўсходзе (раён плошчы 8 Сакавіка) і да Рэспубліканскай вуліцы на захадзе (сёння — Раманаўская Слабада), была ачэпленая. Яўрэяў-спецыялістаў і работнікаў юдэнрата напярэдадні вывезлі ў лагер СД на Шырокай вуліцы (цяпер Куйбышава). А той раніцай часткі СД, СС і паліцыі зганялі ўсіх жыхароў ачэпленых кварталаў Ракаўскага прадмесця ў сквер на Юбілейнай плошчы. Яўрэяў пастроілі ў калону, далі ім у рукі чырвоныя транспаранты і загадалі інсцэніраваць святочную дэманстрацыю, усё гэта здымалася на кінакамеры.

Калона рушыла па вуліцы Апанскага (Кальварыйскай), дзе ўсіх загналі ў грузавікі і вывезлі на тэрыторыю былой калоніі НКВД за чыгуначным пераездам (турэмныя будынкі знеслі ў 2011 годзе, на іх месцы цяпер жыллёвы комплекс «Каскад» побач са станцыяй «Мінск-Паўночны» і станцыяй метро «Маладзёжная»).

Частку людзей расстралялі адразу, частку — пазней, забойствы працягваліся да 9 лістапада. Кагосьці забілі на тэрыторыі калоніі, кагосьці — у трох гліняных кар'ерах цагляных заводаў на Тучынцы. Частку ахвяр паскідалі ў ямы жыўцом і толькі потым забівалі кулямётнымі чэргамі. Мала каму ўдалося выжыць і ўцячы.

Праз некалькі дзён у Мінскае гета прыбылі першыя яўрэі з Рэйху, а раён Нямігі быў выведзены са складу гета і перададзены гораду. 20 лістапада расстрэлы паўтарыліся — гэтым разам на Тучынцы былі забітыя жыхары Замчышча, Шпалернай і іншых прылеглых вуліц. Масавыя забойствы на Тучынцы працягваліся і ў 1943 годзе.

Пасля вайны пра Тучынку не ўспаміналі. Дагэтуль невядома, у якіх менавіта кар'ерах адбываліся расстрэлы, у мемуарах канкрэтных звестак пра гэта няма. Тапаграфічныя карты і аэрафотаздымкі тых часоў дазваляюць вызначыць, што кар'еры цагляных заводаў знаходзіліся абапал Харкаўскай. Размяшчаліся яны ў раёне вуліц 3-га Верасня, Пінскай, Купрыянава і Дамашэўскага завулка. Невядома, ці спрабавалі нацысты схаваць сляды сваіх злачынстваў на Тучынцы, але выйшла так, што пасля вайны яны былі схаваныя надзейна – усю тэрыторыю пераўтварылі ў велізарную прамзону, рэльеф тут быў зменены да непазнавальнасці. Цудам захаваўся толькі адзін з будынкаў цаглянага завода Фрыда па Харкаўскай, 7.

Помнік загінулым на Тучынцы адкрыты ў 2008 годзе на рагу вуліц Кальварыйскай і Берута, на месцы копанкі за заходняй агароджай Кальварыйскіх могілак, дзе таксама спачываюць парэшткі вязняў гета — прыкладна за кіламетр ад самой Тучынкі. Такі крок цалкам вытлумачальны, улічваючы яе аддаленасць ад ажыўленых магістраляў, але непасрэдныя месцы расстрэлаў восені 1941-га па-ранейшаму застаюцца неадзначанымі, і інфармацыя пра іх сціраецца з памяці мінчукоў канчаткова. Надпіс на помніку абвяшчае, што на Тучынцы за тры гады было расстраляна больш за 14 тысяч чалавек, але ў рэчаіснасці іх колькасць можа быць ледзь не ў два разы большай.

Менавіта ў кар'ерах Тучынкі, у прамзоне на Харкаўскай, ляжаць жыхары Замчышча і Ракаўскага прадмесця — людзі, без якіх горад ужо ніколі не змог стаць ранейшым.

Нядзіўна, што і сам тапонім «Тучынка» практычна забыты сучаснымі гараджанамі і не гучыць у штодзённай гаворцы. Мы можам адшукаць яго ў вершах франтавіка Майсея Тэйфа, сям'я якога загінула ў гета. Націск у назве ўрочышча падае на другі склад, чаго я, на жаль, раней не ведаў, і таму зараз вымушаны выправіць тэкст свайго верша, напісанага тры гады таму.

## Тучынка

Восень. Неба дапальвае дрэвы і подыхам
ветру попел лістоты страсае ў лужыны.
Людзі дапальваюць лісце за дрэвамі ўпотай,
кашляюць. Небу хлусяць потым:
прастуджаныя.

Кальварыя прачынаецца зноў адна.
Навокал імчаць у тралейбусах тыя,
што выжылі,
і калі яны кажуць «Вайна? Якая вайна?» —
у яе на грудзях дрыжаць жалезныя крыжыкі.

Сюды, на Тучынку, не прыйдуць
з нябачных франтоў
няпрошаныя падпальшчыкі і падпольшчыкі.
На гэтых магілах ніхто не накрые стол.
Горад амаль без жыдоў — яшчэ тое відовішча.

Туман над лагчынай, самотны лакаматыў
па рэйках пхаецца, трэнькае нешта кволае.
Час не спяшаецца. Можна сказаць, застыў.
Можна сказаць, што часу не стала ўвогуле.

Маёлікавыя крыжы,
Каложа, Гродна.

# ПА ЎСІХ КАНОНАХ:
## чаму аўтакефалію дае канстанцінопальскі патрыярх

**Незалежнасць Праваслаўнай царквы ва Украіне можна лічыць вырашанай справай. А што з беларускім праваслаўем, тлумачыць гісторык Анатоль Сідарэвіч.**

**Як канстанцінопальскі патрыярх стаў галоўным**

З III стагоддзя ў хрысціянстве дамінавалі дзве царквы: Рымская і Александрыйская. Іх прадстаяцелі атрымалі тытул папаў.

Акрамя таго, тады існавалі яшчэ Антыяхійская і Ерусалімская цэрквы.

Пятая, Канстанцінопальская, узнікла толькі на пачатку IV стагоддзя. І хоць II Усяленскі сабор (381 год) запісаў, што канстанцінопальскі епіскап «мае перавагу гонару пасля рымскага епіскапа, бо горад гэты ёсць Новы Рым», сталіцы Візантыі тады так і не ўдалося ўзяць верх над Александрыяй.

Такім чынам, у сярэдзіне V стагоддзя ў хрысціянскай царкве склалася пентархія (па-грэчаску: «пяціўладдзе») — улада прадстаяцеляў пяці цэркваў: Рымскай, Александрыйскай, Антыяхійскай, Ерусалімскай і Канстанцінопальскай на чале з патрыярхамі. Акрамя таго, у 431-м III Усяленскім саборам была прызнаная аўтакефалія Кіпрскай царквы, якую ачольваў архіепіскап.

Праз няпоўныя 20 гадоў пасля III Сабору разгарэлася спрэчка. Патрыярх Александрыйскі Дыяскор адмаўляў чалавечую прыроду Ісуса Хрыста і прызнаваў толькі боскую. Яго праціўнікі назвалі гэткае разуменне «ерассю монафізіцтва». У 451 годзе ў Халкідоне (прыгарад Канстанцінопаля) адбыўся IV Усяленскі сабор. Канстанцінопальскі архіепіскап Анатолій мог святкаваць перамогу. Айцы сабору не толькі асудзілі на ім Дыяскораву ерась, але і ўзвысілі Канстанцінопальскую царкву. У 28-м каноне сабору яны прадугледзелі, каб Канстанцінопаль, як «горад, які атрымаў гонар быць горадам цара і сінкліту і мае роўныя перавагі са старым царскім Рымам, таксама і ў царкоўных справах быў узвялічаны падобна да таго і каб быў другім пасля яго».

### «І Сына»: Вялікая схізма

Пасля IV Сабору чым далей, тым больш у Царкве разгаралася змаганне за першынство паміж Канстанцінопалем і Рымам. Тым не менш хрысціяне жылі ў адносным адзінстве да 1054 года.

За сорак гадоў да гэтай даты ў Рыме адбылася каранацыя імператара Святой Рымскай імперыі Генрыха II. На ўрачыстасці хор, спяваючы Сімвал веры, замест слоў «Веру ў Духа Святога, Госпада жыватворнага, які ад Айца паходзіць», праспяваў «Веру ў Духа Святога, Госпада жыватворнага, які ад Айца і Сына паходзіць». Вось гэтае «і Сына» ўсходнія хрысціяне палічылі вялікай ерассю, і ў выніку адбыўся раскол. Так узнікла праблема філіёквэ (*filioque* — «і [ад] Сына»).

Да Вялікай схізмы 1054-га 28-ы канон Халкідонскага сабору разумелі так: канстанцінопальскі архіепіскап, калі яму давядзецца быць на адным саборы з рымскім епіскапам, сядае праваруч ад яго, і падчас набажэнстваў канстанцінопальскага архіепіскапа памінаюць другім пасля рымскага епіскапа. Калі ж адбыўся раскол, словы «пасля яго» ў 28-м каноне ўсходняя царква стала разумець у сэнсе часу і пераемнасці. Цяпер права разглядаць скаргі на патрыярхаў і спрэчкі паміж імі перайшло да архіепіскапа Новага Рыма, гэта значыць Канстанцінопаля. Тым больш, што Егіпет і Лівію, Сірыю, Фінікію і Месапатамію, Палесціну і Сінай, якія былі ў юрысдыкцыі Александрыйскай, Антыяхійскай і Ерусалімскай цэркваў, да сярэдзіны VII стагоддзя апанавалі мусульмане. Патрыярхі залежалі ад Канстанцінопаля, які з пераменным поспехам трымаўся яшчэ 800 гадоў.

У сусветным хрысціянстве, такім чынам, з'явіліся два першаіерархі: рымскі і канстанцінопальскі. Праўда, рымскага епіскапа называюць Усяленскім Архірэем (Сусветным Епіскапам), ►



WIKIMEDIA COMMONS

Канстанцінопальскі патрыярх **Іерамія II.**

### А хто даў Канстанцінопалю права вырашаць пытанні царкоўнага жыцця ў паасобных краінах?

Адказ просты: IV (Халкідонскі) Усяленскі сабор, 28-ы канон. Пасля Вялікай схізмы 1054 года да канстанцінопальскага архіепіскапа, як другога пасля Папы Рымскага, і да Сінода Канстанцінопальскай царквы перайшлі шырокія правы, у тым ліку права прызнаваць ці не прызнаваць аўтакефалію цэркваў. Гэтае права прызнала і Маскоўская царква, калі атрымлівала аўтакефалію ад Усяленскага патрыярхата.

Усе аўтакефальныя цэрквы, якія з'явіліся ў свеце пасля III Усяленскага сабору 431 года, сталі кананічнымі толькі пасля прызнання іх аўтакефаліі Канстанцінопалем: Эладская (1850), Сербская (1879), Румынская (1885), Албанская (1937), Балгарская (1945). Маскоўская царква з падказкі Сталіна (грузіна) у 1943 годзе вярнула самастойнасць Грузінскай царкве, аднак у лік кананічных яна ўвайшла толькі ў 1990-м, калі абазначылася незалежнасць Грузіі і калі яе прызнаў Усяленскі патрыярхат.

У 1951-м Маскоўская царква (таксама з падказкі ўладаў) абвясціла самастойнаю Праваслаўную царкву Чэшскіх земляў і Славакіі, але і яна трапіла ў лік кананічных толькі пасля прызнання Канстанцінопалем (1998). А вось Праваслаўную царкву ў ЗША, створаную ў 1970 годзе Маскоўскай царквой, Канстанцінопаль не прызнаў, і яна не лічыцца кананічнай.

## Усяленскага Патрыярха Іерамію II у Маскве марылі голадам, каб атрымаць аўтакефалію

### 28-ы канон Халкідонскага сабору

«Мы пастанаўляем адносна пераваг найсвяцейшай царквы Канстанцінопаля, новага Рыма. Бо айцы [I і II Усяленскіх сабораў у 325 і 381 гадах] справядліва далі перавагі пасаду старога Рыма, бо ён быў царскім горадам. Ідучы за тым жа прынцыпам, сто пяцьдзясят багалюбных епіскапаў найсвяцейшаму пасаду новага Рыма далі роўныя перавагі, праведна разважыўшы, каб горад, які атрымаў гонар быць горадам цара і сінкліту і мае роўныя перавагі са старым царскім Рымам, таксама і ў царкоўных справах быў узвялічаны падобна да таго і каб быў другім пасля яго».

▶ а канстанцінопальскага архірэя — Усяленскім Патрыярхам.

### Маскоўскі раскол

За 56 гадоў да Вялікага расколу ў складзе Канстанцінопальскай царквы ў выніку хрышчэння Русі з'явілася 60-я мітраполія з цэнтрам у Кіеве, якую пачалі называць Рускай царквой. У складзе мітраполіі былі заснаваныя епархіі. На землях цяперашняй Рэспублікі Беларусь іх існавала тры. Гэта Полацкая (992 год), Тураўская (1005-ы), а самы паўднёвы захад сучаснай Беларусі (Берасце) з 992 года быў у юрысдыкцыі валынскага епіскапа.

Нават пераехаўшы ў 1299-м з разгромленага татарамі Кіева ва Уладзімір-на-Клязьме, а потым у Маскву, прадстаяцелі мітраполіі працягвалі іменавацца мітрапалітамі Кіеўскімі і ўсяе Русі. Але для кіравання заходнімі епархіямі, у тым ліку Уладзіміра-Валынскай, Тураўскай і Полацкай, у 1303 годзе канстанцінопальскі патрыярх заснаваў Галіцкую мітраполію, якая з перапынкамі існавала да 1458-га. Пэўны час існавала і Літоўская мітраполія.

Новая старонка ў гісторыі Рускай царквы пачалася ў 1448 годзе, калі ад Кіеўскай мітраполіі і Усяленскага пасаду адкалоліся епархіі Маскоўскай дзяржавы. Так была створана Маскоўская царква на чале са сваім мітрапалітам. Не прызнаная Усяленскім патрыярхам, гэтая Царква знаходзілася ў расколе да 1589 года.

Здарылася так, што ў 1588 годзе Усяленскі патрыярх Іерамія II змушаны быў паехаць у Кіеўскую мітраполію. Пабываўшы ў Кіеве і Вільні, ён выехаў у Маскву і трапіў там пад варту. Іерамію марылі голадам, яму пагражалі палонкай, калі ён не прызнае аўтакефалію Маскоўскай царквы. І патрыярх здаўся. Але, як выявілася пазней, большасць подпісаў пад саборнай граматай аб аўтакефаліі Маскоўскай царквы была падробленая.

**Аўтакефальная царква, абвешчаная за межамі краіны, не можа разлічваць на прызнанне**

Па сутнасці, з сярэдзіны XV стагоддзя да міждзяржаўнага супрацьстаяння Вялікага Княства Літоўскага і Вялікага Княства Маскоўскага дадалося супрацьстаянне Рускай (Кіеўскай) і Маскоўскай цэркваў. Заваёўваючы ўсё новыя тэрыторыі, Маскоўская дзяржава далучала да сваёй мітраполіі і тамтэйшыя епархіі Рускай царквы.

У 1458-м, праз 10 год пасля адколу Масквы, мітрапаліты Кіеўскія сталі іменавацца мітрапалітамі Кіеўскімі, Галіцкімі і ўсяе Русі. У 1595-м мітрапаліт Міхаіл Рагоза прыняў унію з Рымскай царквой, і ў 1596-м праваслаўная Кіеўская мітраполія на кароткі час перастала існаваць. Аднак у 1620 годзе яна была адноўлена дэ-факта, а ў 1632-м яе «ўзаконіў» кароль і вялікі князь Уладзіслаў Ваза.

### Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква

На сёння так называецца непрызнаная ўладамі і памеснымі праваслаўнымі цэрквамі рэлігійная арганізацыя. Існуеці існавала 12 нешматлікіх прыходаў у Беларусі і 13 — у ЗША, Канадзе, Брытаніі і Аўстраліі.

### Маскоўскі захоп

Усе прадстаяцелі адноўленай Кіеўскай праваслаўнай мітраполіі былі экзархамі не Маскоўскага, а Усяленскага Патрыярха. Такое становішча не задавальняла Маскву, якая пасля Пераяслаўскай рады 1654 года імкнулася пазбавіць Левабярэжную Украіну з Кіевам усякага самакіравання. Маскве ў гэтым дапамог гетман Іван Самайловіч. Парушаючы прынятую працэдуру, ён зрабіў так, што мітрапалітам стаў нашчадак турава-пінскіх Рурыкавічаў Гедэон Чацвярцінскі, а пасля адправіў яго на высвячэнне ў Маскву. У Маскве, аднак, разумелі, што гэта некананічна, таму накіравалі пасольства ў Стамбул (так да гэтага часу стаў званца захоплены туркамі Канстанцінопаль).




Нашчадак турава-пінскіх Рурыкавічаў мітрапаліт **Гедэон Чацвярцінскі быў першым**, каму Масква забараніла называцца «мітрапалітам усяе Русі», а толькі «Малыя России».


CURIOSO_SHUTTERSTOCK.COM

У выпадку здабыцця Беларускай царквой аўтакефаліі патрыяршым храмам, напэўна, стане **Свята-Духаў сабор у Мінску.**

Калі паслам не ўдалося атрымаць згоду Усяленскага Патрыярха на перадачу Кіеўскай мітраполіі ў маскоўскую юрысдыкцыю, яны націснулі на яго праз турэцкага вялікага візіра (галоўнага міністра). У той час Турцыя вяла няспынныя войны, і ў 1684 годзе супраць яе пад эгідай папы Інакенція XI склалася Святая ліга, у якую ўвайшлі Рэч Паспалітая, Аўстрыя і Венецыя. Маскоўскія паслы ў такой сітуацыі паабяцалі візіру, што іх дзяржава ваяваць з туркамі не будзе.

Візір маскоўскім паслам паверыў, і пад яго ціскам патрыярх Дыянісій IV мусіў саступіць. Удзячныя паслы адсыпалі патрыярху залатых манет, падарылі яму сабаліныя шкуркі і вярнуліся на радзіму. Грамату паслы атрымалі ў 1686-м, але абяцанні, дадзеныя візіру, Расія выконваць адмовілася. У тым жа самым годзе Масковія далучылася да Святой лігі, а ў наступным пачала новую вайну з Турцыяй. Ды што там візір-«басурман», калі чорнай няўдзячнасцю адказалі нават сваім жа кіеўскім паплечнікам. У 1688 годзе ўладыку Гедэону Чацвярцінскаму загадалі быць ужо не мітрапалітам усяе Русі, а толькі «Малыя Россіи». Гетману ж Самайловічу, які дапамог Маскве захапіць Кіеўскую мітраполію, аддзячылі тым, што выслалі яго ў Табольск. У 1731 годзе выбарнасць кіеўскіх уладыкаў, нават уяўную, скасавалі. У 1722–1743 гадах нават пасады такой, як мітрапаліт Кіеўскі і Галіцкі, не было: кіеўскую кафедру займалі архіепіскапы.

## Ці мае права ўмешвацца ў царкоўныя справы свецкая ўлада, як гэта адбываецца цяпер ва Украіне?

У ідэале добра было б, каб цэрквы самі вырашалі свае пытанні без дзяржавы. Але так не бывае, калі вырашаецца пытанне пра аўтакефалію. Усюды гэтае пытанне вырашалася з удзелам дзяржаў. Калі недзе дзяржава супраць аўтакефаліі, то Усяленскі патрыярхат не будзе падтрымліваць аўтакефаліstаў-энтузіястаў хоць бы дзеля таго, каб не падстаўляць іх пад рэпрэсіі.

### Адплата, або Каноны трэба выконваць

Ні маскоўскія паслы, ні (пазней) расійскія свецкія і царкоўныя ўлады не ўчытваліся ў дакумент, атрыманы ў 1686 годзе. А ў ім былі кананічныя пастановы: 1) мітрапаліта Кіеўскага па-ранейшаму будуць абіраць духавенства і прадстаўнікі міран гэтай мітраполіі; 2) Масква толькі высвячае яго; 3) мітрапаліт застаецца экзархам Усяленскага пасаду і 4) абавязаны памінаць патрыярха Канстацінопальскага на набажэнствах як галаву сваёй Царквы.

Парушэнне ўсіх пунктаў граматы 1686 года стагоддзямі сыходзіла Маскве з рук. Але 13 лістапада 1924-га яна атрымала першую адплату. У гэты дзень Усяленскі пасад даў аўтакефалію Праваслаўнай царкве ў тагачаснай Польскай Рэспубліцы. У склад Праваслаўнай царквы ў Польшчы перадавалася частка даўняй Кіеўскай мітраполіі — епархіі, якія існавалі на колішняй тэрыторыі Літвы (Вялікага Княства Літоўскага) і Польшчы (Кароны Польскай, у склад якой з 1569 года ўваходзілі і ўкраінскія землі, а таксама Падляшша). Гэта, у прыватнасці, Віленская, Гродзенская і Пінская епархіі.

У Патрыяршым і Саборным томасе (грамаце) адмыслова звярталася ўвага на парушэнні, зробленыя Маскоўскай царквой: «Бо напісана, што першапачатковае аддзяленне ад нашага пасаду ▶

## Аўтакефалія ў БССР

Спробы ствараць аўтакефальную царкву ў БССР мелі месца ў 1920-я гады. Да Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы тады далучыліся 344 прыходы, у якіх служылі 399 святароў. Усіх да аднаго святароў і іерархаў царквы ў 1930–1938 гадах забілі або адправілі ў канцлагеры.

**Усяленскі патрыярхат дае аўтакефалію цэрквам толькі ў тых краінах, якія сталі незалежнымі**

Кіеўскай мітраполіі і залежных ад яе праваслаўных цэркваў [епархій] Літвы і Польшчы і іх далучэнне да святой Маскоўскай царквы не было ажыццёўлена ў згоднасці з узаконенымі кананічнымі пастановамі і не былі захаваныя пагадненні аб поўнай царкоўнай самастойнасці Кіеўскага мітрапаліта, які носіць тытул экзарха Усяленскага пасаду».

Але нават калі б Масква і выконвала ўсе пункты граматы 1686-га, усё адно Усяленскі пасад меў бы права забраць у яе ўладу над колішняй Кіеўскай мітраполіяй, бо ў тым дакуменце дазвол на высвячэнне кіеўскіх мітрапалітаў даваўся Маскве не навечна. Не было слова «навечна» ў той грамаце. Не была тая грамата адпускною.

**Уладзе Беларусі і епіскапату варта толькі папрасіць, каб Усяленскі патрыярхат даў Праваслаўнай царкве ў Беларусі аўтакефалію, і механізм будзе запушчаны**

### Лагер распаўся, а прэтэнзіі засталіся

Атрымаўшы першую адплату, Масква, аднак, хутка забыла ўрок 1924 года. Пасля таго, як Сталін аднавіў у 1943-м патрыяршаства і падначаліў Маскоўскай царкве праваслаўныя цэрквы краін так званай народнай дэмакратыі (пазней «сацыялістычнага лагера»), яна, як і за царом, стала прэтэндаваць на вядучую ролю ў сусветным праваслаўі. «Сацыялістычны лагер» распаўся, распаўся Савецкі Саюз, а прэтэнзіі Маскоўскай царквы засталіся.

Што ж, сёлета Усяленскі пасад даў Маскве другі ўрок. 11 кастрычніка Сінод Усяленскага патрыярхата адклікаў (скасаваў) грамату 1686 года і вярнуў былую Кіеўскую мітраполію (г. зн. Беларусь, Літву, Украіну і некаторыя заходнія раёны Расіі) ва ўлонне Канстанцінопальскай Маці-Царквы.

### З Украінай ясна. Што з Беларуссю?

Калі прытрымлівацца духу і літары сінадальнай пастановы ад 11 кастрычніка 2018 года, на сёння ў Беларусі, Украіне і Літве няма кананічных праваслаўных царкоўных структур, апроч Канстанцінопальскай царквы. Пад эгідай Канстанцінопаля з красавіка 2018-га пачаўся працэс стварэння адзінай памеснай Праваслаўнай царквы ва Украіне. Украіна жыве з думкай аб патрыяршым і сінадальным томасе пра аўтакефалію сваёй Царквы.

А што з Беларуссю? Адказ на гэтае пытанне нядаўна даў вядомы багаслоў, архіепіскап Канстанцінопальскай царквы Іоў Геча, украінец, сын эмігрантаў. Адказ просты: свецкай уладзе Беларусі і епіскапату варта толькі папрасіць, каб Усяленскі патрыярхат даў Праваслаўнай царкве ў Беларусі аўтакефалію, і механізм будзе запушчаны. Пакуль жа такая просьба да патрыярха Варфаламея не прыходзіла.

Тут важна адзначыць адзін момант. Усяленскі патрыярхат дае аўтакефалію цэрквам толькі ў тых краінах, якія сталі незалежнымі. Ранейшыя спробы стварыць аўтакефальную царкву ў Беларусі таму і былі беспаспяховыя, што Беларусь не была незалежнай. Пагатоў не можа разлічваць на прызнанне аўтакефальная царква за межамі краіны. Што ж тычыцца Рэспублікі Беларусь, то, пэўна, аўтакефалію яна папросіць, як толькі адчуе сябе сапраўды незалежнай. ◆



**Барысаглебская царква ў Навагрудку** калісьці была саборам: Навагрудак быў сядзібай мітрапалітаў Літоўскіх у часы, калі праваслаўная царква Вялікага Княства была незалежнай ад Масквы.

FANFO, SHUTTERSTOCK.COM

# «Судьба человека»:

## прататып героя Шолахава і яго незвычайны шлях

**Рускія саслужыўцы называлі яго па-беларуску: «Гарачы». Так яны іранізавалі і з тэмпераменту, і з акцэнту беларускага хлопца, ад якога ён не пазбыўся. Міхаіл Шолахаў узяў яго лёс для зборнага вобразу савецкага салдата, і гэтая сцэна трывала ўвайшла ў масавую свядомасць як прыклад мужнасці і адчайнай смеласці. Рыгор Дольнікаў — Герой Савецкага Саюза з адтэрміноўкай у трыццаць тры гады, які пасля першай не закусваў, піша гісторык Аляксей Бацюкоў.**

Збітыя Дольнікавым 15 нямецкіх самалётаў і 160 баявых вылетаў фармальна давалі прычыну прадставіць яго да звання Героя ў сорак пятым годзе. Аднак лётчыку не забылі, што ён, няхай пасля тарана і падзення, аднак пабываў у палоне. Не дапамагло і тое, што з палону ён гераічна ўцёк, далучыўся да партызан і разам з імі ў сакавіку 1944-га вызвалiў пасёлак Весялінава на поўдні Украіны яшчэ да падыходу савецкіх войскаў. А дапамагло іншае. Калі ў 1978 годзе амерыканскія знішчальнікі F-5 арміі Эфіопіі пад кіраўніцтвам Дольнікава разграмілі паветраную армію самалійскіх МіГаў, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР надаў яму званне Героя за асабістую мужнасць і адвагу ў часы Вялікай Айчыннай вайны.

Гэта была трэцяя вайна Рыгора Дольнікава. За некалькі гадоў да таго, у 1970–1971 гадах, ён кіраваў двума авіяпалкамі на лініі егіпецка-ізраільскага фронту.



**Рыгор Дольнікаў** (злева) і Герой Савецкага Саюза (пасмяротна) Пятро Гучак.

Вайна паміж Эфіопіяй і Самалі за спрэчны рэгіён Агадэн на ўсходзе Эфіопіі лічыцца самым парадаксальным канфліктам у кантэксце халоднай вайны. Раней сімпатыі Эфіопіі былі на баку ЗША, што дазволіла арміі гэтай краіны ўзмацніцца за кошт амерыканскай тэхнікі, кіравалі якой падрыхтаваныя амерыканскімі інструктарамі эфіопы і найманцы-ізраільцяне. Самалі ж было кліентам Савецкага Саюза і, адпаведна, узбройвалася савецкай тэхнікай. Пасля ваеннага перавароту ў Эфіопіі ўрад узначалілі вайскоўцы-марксісты. Нестабільнасцю цэнтральнай улады скарысталіся прасамалійскія сепаратысты Агадэна. Самалійскі ўрад падтрымліваў іх спачатку таемна, а потым адкрыта ўвёў войскі на тэрыторыю суседзяў, не разлічваючы

**«Закусвай!» — кажа гестапавец. — «Пасля першай не закусваем!»**

на тое, што гэта будзе асуджацца савецкім урадам. Аднак СССР у гэтым канфлікце падтрымаў Эфіопію.

І вось савецкі ваенны саветнік генерал Дольнікаў на базе ў Дырэ-Даўа асабіста распрацоўвае аперацыю супраць паветранай арміі Самалі, імкнучыся знішчыць яе яшчэ на аэрадромах. Наносяцца першыя ўдары, за якімі наступаюць сухапутныя войскі, а потым у небе




**Самалёт Рыгора Дольнікава P39-N «Аэракобра»** з надпісам «За Ваню Бабака». На амерыканскіх «Аэракобрах» лёталі савецкія асы.

праходзяць паветраныя баі. Адзін з іх стаў легендарным: два эфіопскія F-5, сустрэўшы чатыры МіГ-21, падбілі пару МіГаў, а два іншыя сутыкнуліся між сабой, імкнучыся ўхіліцца ад амерыканскіх знішчальнікаў. Наогул, інтэнсіўнасць прымянення авіяцыі ў гэтай вайне была нехарактэрнай для афрыканскіх канфліктаў, а яе эфектыўнасць цалкам была заслугай савецкага дарадцы.

55-гадовы трыумфатар, генерал-лейтэнант Рыгор Дольнікаў, дасягнуў зеніту сваёй вайсковай кар'еры. Потым будзе яшчэ і наменклатурнае павышэнне, аж да намесніка галоўнакамандуючага ваенна-паветранымі сіламі. І ад самага пачатку — гэта быў лёс чалавека, якіх амерыканцы называюць *self-made* (зрабіў сам сябе). Генерал Дольнікаў прайшоў усе прыступкі кар'ернай лесвіцы, пачынаючы з лётчыка, і ў гэтым шляху ён мог разлічваць толькі на сябе — на свае здольнасці і тэмперамент.

Вёска Сахараўка пад Горкамі, «згубленая ў беларускіх лясах», як пісаў у мемуарах сам галоўны герой. У вёску прывозяць нямое кіно, і гэта штурхае юнака і выдатніка Дольнікава выйсці ў вялікі свет — ён хоча стаць кінамеханікам. У 1936 годзе, калі Дольнікаву было 13 гадоў, ад тыфу паміраюць старэйшая сястра і бацька, колішні рабочы-рэвалюцыянер Пуцілаўскага завода ў Пецярбургу. Рыгору, здавалася б, наканавана стаць цяпер апірышчам у сям'і, але, як ні сумавала маці, ён не застаецца ў вёсцы.

Вялікі свет — Віцебск — сустракае яго бандыцкім абрабаваннем у першы ж вечар. У трамваі ён бачыць, як зладзеі выцягваюць у жанчыны кашалёк, і крычыць «Вас абакралі!», а ўжо вечарам сустракае тых самых рабаўнікоў на начной вуліцы. Адлупцаваўшы хлопца, выцерушыўшы яго куфэрак, бандыты даюць яму першую навуку: «Прыкусі язык, дзярэўня». У кінатэхнікум Дольнікава не ўзялі, але ўсё роўна ён не вяртацца дахаты — юнак едзе ў Мінск, вучыцца на слесара. Ужо тут падчас вучобы ён сустракае інструктараў мясцовага аэраклуба. І зусім не рамантыка палётаў захапіла юнака — ён як зачараваны глядзеў на шыкоўную форму лётчыкаў. Хромавыя боты і рыпенне лётных рэгланаў перавярнулі свядомасць Рыгора. На аэрадроме пад Мінскам ён упершыню падняўся ў неба. Быў 1940 год.

**Рыгор Дольнікаў павінен быў атрымаць Героя Савецкага Саюза ў 1945-м, але здабыў званне толькі праз 33 гады за перамогу над Самалі.**

Ваенныя мемуары Дольнікава — сумесь лірыкі і патэтыкі, сціпласці ▸



**Сям'я Рыгора Дольнікава** (сядзіць) перад вайной.

і героікі. У гэтым іх можна лічыць дастаткова шчырым дакументам эпохі. І ўсё ж першая рыса Дольнікава-аўтара — сціпласць. Ён не звяртае асаблівай увагі на сваю асобу, амаль кожную главу з паветранымі баямі завяршае разгорнутай падзякай іншым героям і механікам на зямлі, што так добра падрыхтавалі тэхніку. У баях свае дзеянні перадае ледзьве не як аўтаматычныя, у той жа час не сквапячыся падкрэсліваць самаахвярнасць і майстэрства іншых пілотаў. Усе першыя крокі ў прафесіі ён узгадвае праз няўдачы, памылкі і кухталі. У сваім першым баі ён не бачыць нічога, акрамя хваста самалёта вядучага. Але за гэтай сціпласцю спакваля праступае яго сапраўдны няўрымслівы характар. Нездарма першы пазыўны яму далі «Гарачый» (менавіта так, па-руску праз «ра» і «чы»). Нездарма ў яго апавяданнях нязменна з'яўляюцца нядобразычлі́ўцы — звычайна яго камандзіры, — ён ім то нешта рэзка скажа, то ўспыхне, то проста пачне паводзіць сябе як дзеравеншчына.

Першы збіты самалёт стаўся вынікам авантурнага адрыву ад вядучага ў пагоню за «месершмітам», што сыходзіў ад бою. Трэба патлумачыць, што тактыка паветранага бою ў дарэактыўную эпоху будавалася на ўзаемадзеянні лётных пар (вядучы-вядомы), якія аб'ядноўваліся ў звёны. Узаемная падстрахоўка і манеўраванне гарантавалі поспех нават супраць шматлікіх праціўнікаў. Пакінуўшы свайго вядучага, Дольнікаў парушыў строй, але, збіўшы немца, рэабілітаваўся ў вачах камандавання. І ўжо вечарам ён, акрамя кухталёў, атрымліваў і віншаванні ад такіх жа зялёных саслужыўцаў — «за рыцара крыжовага туза, "гарачага", беларуса Рыгора, сына Усціна, ура!».

Спакваля, праз памылкі і няўдачы, перад намі з'яўляецца ўжо сапраўдны баявы лётчык. Ён паспяхова спраўляецца з роляй вядомага, яго бяруць у пару найлепшыя пілоты. Выходзіць пераможцам у няроўных баях. Жнівень сорак трэцяга года — самая гарачая яго пара. Часам, прызямліўшыся, ад стомы не мог самастойна вылезці з самалёта, а перад сном сілаў хапала толькі на тое, каб зняць адзін бот.

Маючы на сваім рахунку ўжо чатыры збітыя Ме-109, на 56-м баявым вылеце ў верасні 1943 года Дольнікаў ідзе на таран. У тым баі іх шасцёрка знішчальнікаў трапіла на 16 «юнкерсаў» у небе над ракой Малочнай на Запарожжы. Калі ўпалі першыя тры самалёты праціўніка, з'явіліся яшчэ і «месершміты». Дольнікаў атакаваў вядучага адной з пар «юнкерсаў» і ўжо здолеў падпаліць самалёт і знішчыць стралка, калі гарматы яго «аэракобры» заглухлі. «Тараніць!» — напіша ён потым. Прыладжваецца знізу, зусім блізка. Заставалася падторгнуць самалёт, рубануўшы вінтом па стабілізатары. Але машына ўздрыгнула ўсім корпусам і нырнула ўніз. Нічога не бачна. Зямля носіцца па коле. Полымя ўжо апальвае рукі і твар, плавіцца камбінезон. Выцяжное колца парашута чапляецца за нешта ў кабіне, і купал пачынае вылазіць з-пад пілота. Секунда — і яго нібыта ветрам выкідвае з кабіны.

## Віцебск сустракае яго бандыцкім абрабаваннем у першы ж вечар

На зямлі немцы месяць яго ботамі, зрываюць з падбітага лётчыка пагоны, і гарачы Дольнікаў наводмаш б'е за гэта аднаго з іх. Потым, збіты на горкі яблык, яшчэ б'ецца і з доктарам, які аказваецца рускім перабежчыкам.

У той жа дзень яго прывозяць у гестапа. За сталом сядзяць афіцэры, п'юць. Пад расчыненымі вокнамі хаты збіраецца натоўп жанчын і дзяцей. Старшы па званні дэманстратыўна паказвае людзям бальшавіка — змардаванага, худога, бяззбройнага. І патрабуе: «Ты будзеш крышачку піць за нашу перамогу». Дольнікаў адмоўна хітае галавой.

— Пі-ей... — афіцэр падымае да скроні Дольнікава кольт.

Ківаючы на чарку, лётчык кажа:

— Мала.

Так з'яўляецца першая поўная шклянка. «За перамогу!» — кажа Дольнікаў, і ў тры прыёмы 20-гадовы хлопец шклянку выпівае. «Пасля першай не закусваю», — адмаўляецца ён. Квэст падабаецца немцам, «гут-гут, карашо» — наліваецца другая. Хлопец выпіў і другую, хоць было ўжо цяжка — ванітавала. Калі ж пабачыў, як наліваецца трэцяя, з жахам падумаў: вось жа якой смерцю давядзецца памерці. Але і пасля другой шклянкі закусіць адмовіўся. І пасля трэцяй: «Мы і перад смерцю не закусваем».

Гэтая гісторыя, якая потым у паказках шырока разышлася на фронце, а таксама агульнае прозвішча (у палоне Дольнікаў назваўся Сакаловым) і некаторыя сюжэтныя павароты дазваляюць бачыць у Дольнікаве прататыпа галоўнага героя апавядання Міхаіла Шолахава «Лёс чалавека». На гэта Рыгор Усцінавіч адказваў зноў жа сціпла: «Шмат было нас, Сакаловых».

Палон, спробы ўцёкаў, вывады на паказальны расстрэл, нарэшце, удалыя ўцёкі і падполле ва ўкраінскім Весялінаве. У сакавіку 1944 года



У Эфіопіі ў час канфлікту з Самалі 1977–1978 гадоў **Дольнікаву давялося паваяваць на амерыканскіх F-5**.

падпольшчыкі карыстаюцца адыходам нямецкіх частак і захопліваюць уладу ў пасёлку яшчэ да прыходу Чырвонай Арміі. У красавіку Дольнікаў ужо вяртаецца ў свой авіяполк. Худога, барадатага, яго — нябожчыка, як меркавалася, — ледзьве пазнаюць саслужыўцы, а ўсю канчатковую фазу вайны ён ужо будзе лётаць пад новым пазыўным — Барада.

## Вайна Эфіопіі і Самалі ў 1978 годзе была неардынарнай

Дольнікаў дзяліўся потым перажываннямі пра гэты няёмкі перыяд — пасля вяртання з палону. Яго сустрэлі як уваскрослага, але першым часам не давяралі, абавязаныя былі пераканацца, што не здрадзіў. Некаторыя пілоты нават адмаўляліся з ім разам лятаць пазней — незразумела, з-за недаверу ці баяліся, што ён страціў навыкі.

Гэты перыяд быў зусім непрацяглым. Свой у дошку, праставаты і зухаваты хлопец быў сынам сваёй эпохі — адданым ленінцам і кандыдатам у члены партыі, нашчадкам сапраўднага петраградскага рэвалюцыянера.

Напэўна, гэта была самая важная для яго ідэнтычнасць — столькі перажыванняў суправаджаюць яго расповеды на гэтую тэму. Адзін цікавы выпадак, самы кранальны, здарыўся адразу пасля вяртання з палону. На пасяджэнні партбюро разглядалі справу «Аб партыйнасці кандыдата ў члены партыі малодшага лейтэнанта Дольнікава».

— Усе вы ведаеце, — сказаў парторг, — што Дольнікаў вярнуўся з палону, захаваўшы сваю кандыдацкую картку. Аднак з-за таго, што картку ён хаваў у сваім боце пад сцілкай, картка стала зусім непрыдатнай — спарахнела, подпісы зрабіліся нечытэльнымі. А галоўнае — усе паўгода Дольнікаў не плаціў партыйныя ўнёскі.

Лётчыкі, прысутныя на пасяджэнні, заступіліся за саслужыўца, і кандыдацкую картку Дольнікаву вярнулі. У душы юнака раўла навальніца: «Прайшоў моцны дождж. Па раскіслай дарозе беглі ручаі... Хацелася пабыць аднаму...»



**Рыгор Дольнікаў з жонкай Валянцінай.**

Як пілот ён рэабілітуецца імгненна. Адразу пасля вяртання з палону стане вядучым, за два месяцы саб'е яшчэ пяць самалётаў. Неўзабаве сустрэне будучую жонку. І страціць найлепшых сяброў — камандзіра авіяпалка, украінца Івана Бабака, і камандзіра звяна, беларуса Пятра Гучака. Бабак, як потым высветліцца, выжыве і таксама пройдзе палон. Не ведаючы яшчэ пра гэта, Дольнікаў вырашае дэмаскіраваць сваю лендлізаўскую «Аэракобру», загадаўшы напісаць на ёй з бакоў — «За Пецю Гучака» і «За Ваню Бабака».

А сустрэча з дзяўчынай, з якой ён ажэніцца ўжо пасля вайны, — тая яшчэ лавсторы. На танцах зімой сорак пятага года, недзе ў Германіі, ён заўважыў прыемную незнаёмку, якая надзіва добра танцавала вальс. «А ну, Слава, — папрасіў ён сябра, — правер, што за фігура!» Але танцаваць са Славам Антоньевым — сябрам — дзяўчына адмовілася, што шакавала публіку. Адмовіла пілоту! За такі ўчынак яе і папярэдняга яе партнёра вырашана было з танцаў выгнаць. Некалькі вечароў потым незнаёмка не з'яўлялася на танцах, і ў Дольнікава прачнулася сумленне. Разам з Антоньевым ён расшукаў яе ў батальёне забеспячэння і стаў выбачацца ды запрашаць на наступныя танцы. Запрашалі і выбачаліся доўга. Перамовы былі перапыненыя нампалітам палка, які паабяцаў правесці з дзяўчынай тлумачальную работу. Вечарам танюткая, лёгкая Валянціна Чыстова хутка кружылася ў нязграбных руках галоўнага героя.

«Валянціна Чыстова?» — здзівіўся знаёмству Дольнікаў.

Як высветлілася, раней ад імя камсамольцаў Запарожжа яна пісала лісты на фронт, а ад імя камсамольцаў з фронту ёй адказваў Дольнікаў. ◆

Рыгор Дольнікаў пражыў 72 гады, памёр у 1996-м. Пахаваны пад Масквой, у пасёлку Моніна на Монінскіх вайсковых мемарыяльных могілках, створаных у 1940 годзе пры Вайскова-паветранай акадэміі.




АРХІЎ НОВЫХ АКТАЎ У ВАРШАВЕ

# Амерыканскі ГАНГСТАР у Нясвіжы

**Карупцыя, падробка дакументаў і прастытуцыя. Пра яўрэйскую мафію ў Нясвіжы 1920-х распавядае гісторык Уладзімір Караленак.**

Летам 1929 года на галоўнай вуліцы Нясвіжа, Віленскай, можна было пабачыць сапраўднага амерыканскага грамадзяніна. На радзіму пасля доўгіх гадоў жыцця ў Злучаных Штатах прыехаў Морыс Баскін. Сын нясвіжскіх гараджан Ёсэля і Хаі, які і сам нарадзіўся тут у 1887 годзе, з цікавасцю зазіраў у яўрэйскія крамкі. Гандляркі здзіўлена паглядалі на рэдкую птушку. Іх дочкі сарамліва апускалі вочы долу.

Хутка па горадзе пайшла пагалоска, што дзякуючы амерыканскаму джэнтльмену можна пераехаць у Новы Свет. У тыя часы трапіць у Амерыку было ўжо не так проста. Амерыканскія ўлады закручвалі гайкі, пэўным катэгорыям забаранілі ўезд у ЗША. У 1924 годзе колькасць квот для імігрантаў скарацілі да 165 тысяч чалавек на год. Адна з прычын: толькі ўгледзеўшы статую Свабоды, імігранты ўжо знаёміліся з вярбоўшчыкамі, якія адразу ўцягвалі іх у крымінальны свет.

### Консул п'е, віцэ-консул гуляе, мафія кіруе

Яшчэ ў XIX стагоддзі ў Нью-Ёрку з'яўляюцца банды, што налічвалі сотні гангстараў. А ўвядзенне сухога закона ў 1920-м падштурхнула іх да аб'яднання ў злачынныя сіндыкаты. Самымі вядомымі былі ірландская, італьянская і яўрэйская мафіі. Члены апошняй з'яўляліся ў абсалютнай большасці эмігрантамі з Расійскай імперыі. Многія лідары яўрэйскай мафіі былі родам з беларускіх гарадоў. Так, знакаміты Меір Ланскі, «бухгалтар мафіі», паходзіў з Гродна.

Нью-ёркская яўрэйская мафія ў 1920–1930-я супернічала з чыкагскімі італьянскімі мафіёзі на чале з Аль Капонэ і востра патрабавала штогадовай падпіткі людзьмі, яшчэ невядомымі для

**Паліцэйская фотакартка Давіда Баскіна,** зробленая падчас яго арышту ў 1929 годзе ў Варшаве.

паліцыі ЗША і гатовымі пры гэтым на ўсё, каб замацаваць за сабой месца на новай радзіме. Менавіта Морысу Баскіну было даручана заняцца іміграцыяй яўрэяў у Нью-Ёрк з Польшчы.

Прыехаўшы на радзіму ў 1927 годзе, Морыс распачаў працу са знаёмства з супрацоўнікамі пасольства ЗША ў Варшаве. Ён заўважыў, што віцэ-консул Гары Хал схільны да багемнага ладу жыцця. Гэта завяло яго ў вялікія даўгі, а консул на ўсё заплюшчвае вочы з прычыны свайго хранічнага алкагалізму.

Растлумачыўшы Гары Халу фінансавыя плюсы ад супрацы, Баскін амаль адразу атрымаў згоду і пачаў прасоўваць сваіх людзей у штат супрацоўнікаў амбасады. У хуткім часе Баскін адчуў сябе ў ёй сапраўдным гаспадаром. Гэта першы выпадак у гісторыі Злучаных Штатаў Амерыкі, калі мафія здолела ўзяць пад кантроль цэлую амбасаду. Пазней такое здарылася толькі аднойчы, калі мафія падпарадкавала сваёй уладзе дзейнасць амбасады ЗША на Кубе.

### Тры пашпарты для шлюбных афер

Так стала магчымым складаць пакет дакументаў для адпраўкі грамадзян у Амерыку за лічаныя тыдні. Мужчыны атрымлівалі працоўныя візы па запрашэнні амерыканскіх фермераў, разам з імі ехалі сем'і. Зразумела, што фермеры так і не дачакалі танных работнікаў

## Нью-ёркская яўрэйская мафія супернічала з чыкагскім кланам Аль Капонэ і патрабавала падпіткі людзьмі

з Усходняй Еўропы. Замест гэтага на вуліцах Брукліна з'яўляліся новыя зоркі на цёмным небе крымінальнага свету.

Набыццё пакета дакументаў для эміграцыі каштавала 600–650 даляраў. Для 1920-х гэта былі гіганцкія грошы, аднак у Баскіна не было адбою ад кліентаў. Падчас жыцця ў Польшчы, каб не надта прыцягваць да сябе ўвагу, ён выкарыстоўваў пры запаўненні розных дакументаў прозвішча Баскір. Акрамя гэтага, быў у яго і амерыканскі пашпарт на імя Сэмюэла Салаўя. Два амерыканскія пашпарты былі патрэбныя для іншага кірунку працы: у клубах і кабарэ Нью-Ёрка, якія кантралявала яўрэйская мафія, быў пастаянны недахоп супрацоўніц. Баскін прыдумаў геніяльны план: раздаўшы амерыканскія пашпарты сваім паплечнікам, ён разам з імі падарожнічаў па гарадах і мястэчках у пошуках прывабных дзяўчат. І вось у 1929 годзе лёс прывёў яго на малую радзіму, у Нясвіж.

Дзяўчаты ў той час практычна не мелі шанцаў трапіць у ЗША самастойна. Таму, падкупіўшы шэраг рабінаў і іх сакратароў, Баскін пачаў кар'еру шлюбнага аферыста. ▶



**Статуя Свабоды** была ўрачыста адкрыта ў 1886 годзе ў цэнтры форта Вуд на востраве Бэдлоў і стала ўвасабленнем надзеі і амерыканскіх каштоўнасцяў для мільёнаў эмігрантаў, якія на караблях праплывалі каля яе на шляху са Старога Свету ў Нью-Ёрк.



Дэтэктывы аглядаюць месца злачынства: **ахвяра гангстарскіх разборак у барабане на адным з палёў у Брукліне**.

Касцёл Божага Цела

Дом Баскіных

Вуліца Віленская ў 1927 годзе (цяпер Ленінская). **Дом Баскіных знаходзіцца насупраць Ратушы,** цяпер на яго месцы — пяціпавярховік.



Морыс Баскін.

АРХІЎ НОВЫХ АКТАЎ У ВАРШАВЕ

▶ Ён і члены ягонай банды вербавалі дзяўчат з усёй краіны, але менавіта ў маленькім павятовым гарадку на мяжы з Савецкім Саюзам Баскін пацярпеў фіяска.

### Нясвіжская паліцыя выходзіць на след

Начальнік паліцыі ў Нясвіжы Стэфан Стрыеўскі даўно прыглядаўся да дома на Віленскай, 8, дзе жыў брат Морыса Давід. Ён небеспадстаўна падазраваў, што менавіта ад Давіда Баскіна цягнуцца шчупальцы мафіёзнага спрута па ўсім Навагрудскім ваяводстве. Сюды рэгулярна завітвалі несвіжанкі. Пачынаючы ж з 1927 года яны сталі знікаць.

Інтуіцыя падказвала галоўнаму нясвіжскаму паліцэйскаму, што візіт бруклінскага джэнтльмена абумоўлены не толькі сентыментальнымі ўспамінамі пра гады маленства і жаданнем пабачыць родзічаў. Ён загадаў падначаленым уважліва сачыць за



WIKIMEDIA COMMONS

**«Левіяфан» (першапачаткова «Фатэрлянд») — адзін з самых вялікіх караблёў** у 1920-х гадах у заліве Нью-Ёрка.
Унізе — **басейн на борце «Левіяфана».**



WIKIMEDIA COMMONS


ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВА ПОЛЬСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ўсім, што адбываецца на вуліцы Віленскай. Аднак раптоўна адным чэрвеньскім днём браты Баскіны, прыхапіўшы трох дваццацігадовых дзяўчатак, зніклі. Стрыеўскі на свае грошы набыў білет да Варшавы і кінуўся ў пагоню. Абышоўшы ўсе сталічныя гатэлі, у адным ён натрапіў на след.

25 чэрвеня 1929 года варшаўская паліцыя атрымала паведамленне, што гандляр жывым таварам Морыс Баскін знаходзіцца ў гатэлі «Лонданскі». Назва не павінна ўводзіць у зман — гэты гатэль не быў звязаны з англійскай сталіцай, затое быў цэнтрам яўрэйскай мафіі Варшавы. Тут збіралася арыстакратыя крымінальнага свету міжваеннай Польшчы. Час ад часу чуліся стрэлы, але паліцыя прыязджала сюды вельмі неахвотна.

Аднак калі паліцыя ўварвалася ў нумар Морыса Баскіна, таго ў гатэлі ўжо не было. У пакоі знайшлі дваццаць фотаздымкаў дзяўчат, пашпарты, пасведчанні аб шлюбах і карэспандэнцыю на мове ідыш.

Паліцыя аб'явіла ў вышук Морыса Баскіна і членаў яго банды, але раптоўна да камісара звярнуліся прадстаўнікі амбасады ЗША ў Варшаве з патрабаваннем спыніць пераслед амерыканскага грамадзяніна, за якога яны могуць паручыцца асабіста. Справу прыпынілі, але перад следчымі ўжо пачала разварочвацца афера Баскіна: за два гады па сваіх двух пашпартах ён ажаніўся больш за 60 разоў! Стала відавочна, што частка супрацоўнікаў амбасады прыкрывае нясвіжскага мнагажэнца.

Паліцыя пачала сачыць за супрацоўнікамі амбасады і ў хуткім часе атрымала ордары на ператрус. У выніку былі знойдзены дзясяткі дакументаў для эміграцыі, пячаткі. У пісьмовым стале віцэ-консула Гары Хала, які паспеў узяць адпачынак для падарожжа на радзіму, знайшлі тэлеграму «Не пісаць. Не тэлеграфаваць. Справа дрэнь».

### Усё адно арыштавалі

Як толькі Морыс Баскін зразумеў, што следчыя занадта блізка падабраліся да яго, выехаў з Польшчы. У акружэнні «жонак» ён у чарговы раз плыве на сваім улюбёным лайнеры «Левіяфан» з французскага Шэрбура ў Нью-Ёрк.

Гэта быў адзін з самых шыкоўных лайнераў кампаніі *United States Line*. На ім падчас трансатлантычнага падарожжа можна было не адмаўляць сабе ні ў чым. На караблі быў нават басейн, а ў бары ў разгар сухога закона дазваляўся продаж алкаголю.

**За два гады па двух пашпартах ён ажаніўся больш за 60 разоў**

Паліцыя накіравала ў Шэрбур і ў кіраўніцтва пасажырскай кампаніі тэлеграмы з апісаннем Баскіна і яго двух пашпартоў, але, відаць, той меў яшчэ і трэці, бо ў рукі паліцыі не патрапіў.

У ЗША, праўда, Морыса Баскіна і віцэ-консула Гары Хала хутка арыштавалі, але ўжо праз некалькі гадоў яны апынуліся на свабодзе. Баскін працягнуў сваё падарожжа па дарозе крымінальных прыгод, але на радзіму яго ўжо не цягнула. ◆




**Карыкатура на Морыса Баскіна** ў амерыканскай прэсе.


MANSOREH, SHUTTERSTOCK.COM

Беларуская старонка

# ІСЛАМСКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ

## Як іранскія камуністы чакалі ў Мінску свайго часу

**У пачатку 80-х Мінск стаў адной з галоўных баз, на якіх іранскія камуністы рыхтаваліся да рэваншу. Як гэта было, пішуць доктар паліталогіі Сяргей Богдан і кандыдат гістарычных навук Анжаліка Пабеданосцава Кая.**

У 1979 годзе Ісламская рэвалюцыя ў Іране вынесла на вяршыню ўлады ісламскае духавенства, аяталу Хамейні. Спачатку быў зрынуты шах. Пасля пачаліся чысткі ворагаў новай улады. Рэпрэсіі па чарзе абрынуліся на манархістаў, нацыяналістаў, левых ісламістаў.

Дайшлі рукі і да камуністаў, якія атрымлівалі рэсурсы ад Савецкага Саюза.

Новыя ўлады лічылі марксісцка-ленінскую Іранскую народную партыю («Тудэ») сур'ёзнай пагрозай, гатовай зрынуць ісламістаў пры першай зручнай нагодзе. («Тудэ» на фарсі значыць народ, масы.) А шанцы ўзяць уладу ў камуністаў сапраўды былі. У іранскай кампартыі ў той час было нямала прыхільнікаў у войску, дзяржаўным апараце і сярод інтэлігенцыі. Нават іранскім флотам

**Тысячы камуністаў былі арыштаваныя. Але некаторым пашчасціла ўцячы ў суседні СССР**

у 1980–1983 гадах камандаваў камуніст Бахрам Афзалі.

Асноўны ўдар па іх быў нанесены ўзімку 1983-га. Тысячы былі арыштаваныя. Але некаторым пашчасціла ўцячы ў суседні СССР.

## Ісламская рэвалюцыя

У 1960–1970-я гады **шах Махамед Рэза Пехлеві** ўзяў цвёрды курс на вестэрнізацыю Ірана. Ён жорстка ўводзіў заходнія ўзоры ў гаспадарцы, культуры і побыце і арыентаваўся ў сваёй палітыцы на ЗША. Апазіцыю ў краіне душылі. Гэта была класічная аўтарытарная мадэрнізацыя, якая атрымала назву «Белай рэвалюцыі».
Усё жыццё ў краіне кантралявала служба бяспекі **САВАК**.
Супраць шаха выступала не толькі палітычная апазіцыя, але і мусульманскае духавенства, лідарам якога з'яўляўся **аятала Рухала Хамейні**. У 1964 годзе Хамейні выслалі з краіны. Жывучы ў эміграцыі, ён напісаў кнігу **«Ісламская дзяржава»**, дзе выклаў свой погляд на ідэальнае дзяржаўнае ўладкаванне.
Тым часам эканамічнае становішча горшала, шах і чыноўнікі адрываліся ад народу. Усё гэта прывяло да масавых выступленняў супраць рэжыму, вынікам якіх стала зваржэнне шаха зімой 1979 года.
Хамейні неадкладна вярнуўся ў краіну і здолеў узяць уладу ў свае рукі.
Жыццё ў краіне стала перабудоўвацца ў адпаведнасці з ісламскімі прынцыпамі, законы сталі грунтавацца на ісламскім праве — шарыяце. Усе нязгодныя падвяргаліся рэпрэсіям, не менш жорсткім, чым гэта было пры шаху.
Рэжым «ісламскай рэспублікі» існуе ў Іране і сёння, хоць за 40 гадоў ён памякчэў і адаптаваўся да рэалій сучаснага свету.
Іранскія ісламісты лічылі **СССР** ворагам, не меншым за **Амерыку**. Адпаведна, яны выкаранілі іранскіх камуністаў, цесна звязаных з Масквой.


WIKIMEDIA COMMONS

**Аятала Хамейні** вяртаецца ў Іран пасля 14-гадовай высылкі. 1 лютага 1979 года.

### Напагатове ў БССР

Уцекачы прабіраліся ў савецкі Азербайджан. У ліпені 1983-га савецкае кіраўніцтва вырашае перавезці членаў партыі «Тудэ» далей ад мяжы, у Мінск.

Такое рашэнне было незвычайным. Дагэтуль палітэмігранты з Ірана заўжды размяшчаліся ў культурна ім бліжэйшых савецкіх рэспубліках Закаўказзя і Сярэдняй Азіі. У Беларусі не было ні інфраструктуры, ні кадраў для прыняцця такой колькасці эмігрантаў. Але Масква хацела надзейней схаваць іранцаў: шукаць іх у Мінску ніхто б не дадумаўся. Саветы хацелі выкарыстаць іранскіх камуністаў для чырвонага рэваншу ў Тэгеране, чакалі, што хамейністы (іх пагардліва называлі «муламі» ды клерыкаламі) уладу не ўтрымаюць.

І вось у верасні 1983 года спецыяльнымі начнымі рэйсамі прыблізна дзвесце іранскіх камуністаў пераехалі ў беларускую сталіцу. Тут іх усіх пасялілі ў адзін новапабудаваны 12-павярховы дом ▶


YANDEX.BY/MAPS

Іранцаў у Мінску пасялілі на тагачаснай ускраіне, на Паўднёвым Захадзе, у інтэрнаце на **праспекце Любімава, 4.**

па адрасе праспект Любімава, 4. Гасцям забаранілі прызнавацца, што яны іранцы, а загадалі называцца афганцамі. На другі ж дзень кіраўнік групы Акбар Шандармані, стары іранскі палітвязень, сабраў усіх паплечнікаў і абвясціў, што ніхто з іх не можа ні дасылаць лістоў, ні тэлефанаваць за мяжу. Гэта будзе лічыцца «здрадай».

### Цёмны і страшны Мінск

Знаходжанне ў БССР зусім не натхняла іранскіх камуністаў. Вось як гэта апісвае адзін з іх, Шыва Фарахмандрад, у сваёй нядаўна выдадзенай кнізе ўспамінаў на персідскай мове: «Першы раз, калі мы пайшлі шпацыраваць па горадзе — а гэта быў першы савецкі горад, які мы пабачылі, — у параўнанні з поўнымі крамаў вуліцамі Тэгерана галоўная цэнтральная вуліца Мінска выглядала вусцішнай і страшнай пrasторай. Шырокія вуліцы, мала машын, вялізныя будынкі, мала вітрын, дый тыя цёмныя і неўпрыгожаныя, на тратуарах мноства людзей, яны ішлі моўчкі, бязгучна і спыняліся на лініі пешаходнага перахода, чакаючы, пакуль дарожны міліцыянт дазволіць перайсці. Больш за ўсё душу гняло маўчанне на вуліцы. У першыя гадзіны я нават баяўся гучна размаўляць са спадарожнікамі. Мы не ведалі дарогі, а калі спрабавалі распытаць пра дарогу, амаль ніхто не спыняўся. А хто спыняўся, той не ведаў ні англійскай, ані нямецкай моў».

Няпроста, піша той самы аўтар, было наладзіць жыццё ў Мінску.



**«Усюды ўсё аднолькавае, садавіны і гародніны няма, усё няякаснае, нічога не купіць. Затое магазіны завалены нікому не патрэбнымі выбівачкамі»**

«У магазінах усюды ўсё аднолькавае, садавіны і гародніны няма, усё няякаснае (скажам, туалетнае мыла расплывалася ў бясформенную масу пасля таго, як яго адзін раз намочыш), побытавых і патрэбных рэчаў не знойдзеш — нават нажніц, кухонных нажоў і шчыпчыкаў для пазногцяў, швейных машынак і халадзільнікаў у сталіцы “еўрапейскай” краіны таксама не знойдзеш. Затое ў магазінах усё завалена нікому не патрэбнымі прыладамі тыпу тэніснай ракеткі для выбівання дываноў ды палавікоў. Гэтых выбівачак то колькі хочаш — з пластмасы, дрэва, алюмінію — ва ўсіх вялікіх крамах. Гэта ніяк не адпавядала нашым чаканням ад раю “рэальнага сацыялізму” і агаломшвала нас».

Іранцы шчыра дзівіліся і спрабавалі знайсці прычыны такога становішча. «Я па сваім глупстве меркаваў, што, мусіць, нажніцы лічацца “сродкам вытворчасці”, а “сродкі вытворчасці” ў сацыялістычным грамадстве знаходзяцца ў распараджэнні дзяржавы. Пакуль мы здабылі патрэбныя для жыцця рэчы, прайшло некалькі месяцаў».

На матэрыяльныя цяжкасці накладаліся і маральныя сумневы, бо кідаліся ў вочы праявы відавочнай няроўнасці. Шыва Фарахмандрад згадвае, як ён у 1986 годзе трапіў у бальніцу і апынуўся ў палаце на дзесяць ложкаў у мінскім шпіталі №4, дзе дактары на яго не звярталі ўвагі. Пасля ўмяшання з боку партыйнага начальства і мясцовай улады яго імгненна перавялі ў двухмесную палату і перагледзелі




Шыва Фарахмандрад (злева) і філосаф, гісторык, ідэолаг партыі «Тудэ» Эхсан Табары. Іран, пачатак 1980-х. Табары арыштуюць у 1983-м, і пасля варварскіх катаванняў у турме Эвін **змусяць выступіць на тэлебачанні з заявай, што ён «уверавў у іслам»**.




**Шыва Фарахмандрад** сёння.

курс лячэння, прызначылі мноства новых лекаў і працэдур. «Дзівосы! Атрымліваецца, тут, у грамадстве “роўнасці і братэрства”, таксама быў блат і лекары па-рознаму ставіліся да розных людзей! Я рады, што цягам усяго майго знаходжання там маё сумленне ніколі не было абцяжарана гэткімі прывілеямі, апрача таго адзінага разу».

### Далучыцца да рабочага класа

Іранскае партыйнае кіраўніцтва і савецкія ўлады імкнуліся трымаць іранскіх камуністаў далей ад беларусаў. Мэта гэтага была відавочная — не даваць партыйным кадрам пускаць карані на новым месцы, трымаць іх напагатове, каб пры нагодзе адразу адправіць у Тэгеран рабіць там новую рэвалюцыю, сацыялістычную.

Іранцам у Мінску не давалі ні працаваць па спецыяльнасці, ні вучыцца. Пасля заканчэння 4-месячных курсаў рускай мовы беларускі Чырвоны Крыж перастаў выплачваць ім дапамогу. Іранскім камуністам, большасць з якіх была высокаадукаванымі спецыялістамі, загадалі выбраць для сябе занятак са спісу спецыяльнасцяў, дасланага гарадскімі ўладамі. Большасць прапанаваных работ былі цяжкімі і нізкакваліфікаванымі: падсобныя рабочыя, праца на цагельнях, землякопства, чыстка каналізацыі, некаторыя заводскія рабочыя спецыяльнасці.

Хамід Сафары, адзін з членаў тройкі, якая кіравала партыяй «Тудэ» ў той момант, тлумачыў сваім мінскім таварышам, што іхнія нягоды маюць глыбокі філасофскі сэнс: «Праблема нашай партыі палягала ў тым, што ў ёй было мала рабочых, а абсалютную большасць складалі інтэлігенты. Цяпер мы маем найлепшую магчымасць, каб чальцы партыі ўліліся тут у рабочы клас і “апралетарыліся”, а некалі ў будучыні далучыліся да іранскага рабочага класа». Пры гэтым партыйцы не мелі права вучыцца ў беларускіх ВНУ, а тых, хто туды самастойна паступіў, неўзабаве адлічылі.

Аўтарам нарыса вядомы выпадак, калі дыпламаваны інжынер-механік тры гады, у 1983–1986 гадах, адпрацаваў пры станку звычайным рабочым на Мінскім станкабудаўнічым заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Праз пару гадоў пасля пераезду з БССР у Швецыю ён ізноў пайшоў працаваць інжынерам.

У выніку такога жыцця ўжо праз некалькі месяцаў адзін з іранцаў выкінуўся з дзясятага паверха, трое спрабавалі зрабіць сабе смерць, а двое апынуліся ў псіхіятрычнай лякарні. Яшчэ ў некалькіх пачаліся псіхічныя праблемы. Адзін колішні студэнт пакутаваў ад маніі праследу з боку КГБ. Яму падавалася, што ён — Ленін, які вярнуўся з Фінляндыі, каб ізноў зрабіць рэвалюцыю ў гэтай краіне.

### Іран

вялізная краіна з тэрыторыяй, у 8 разоў большай за Беларусь, і насельніцтвам 81 млн чалавек, размешчаная паміж Турцыяй і Пакістанам, Каспійскім морам і Індыйскім акіянам. Дзяржаўны лад Ірана — ісламская рэспубліка, дзе найвышэйшая ўлада належыць духавенству. Так стала пасля Ісламскай рэвалюцыі 1979 года, якая зрынула ўладу шаха Пехлеві.



WIKIMEDIA COMMONS

**Так выглядаў Мінск пачатку 1980-х.** Вуліца Інтэрнацыянальная. Цяпер у гэтых дамах месцяцца кавярні, рэстараны, турыстычныя агенцтвы. Злева цяпер стаіць Палац Рэспублікі.

Першыя гады адзіным выйсцем для іранцаў было памяняць Савецкую Беларусь на Афганістан. Іранскіх камуністаў ахвотна працаўладкоўвалі афганскія камуністычныя ўлады, бо яны куды лепш за савецкіх дарадцаў разбіраліся ў рэчаіснасці блізкай ім краіны і не мелі там моўных бар’ераў (найбольш распаўсюджаныя ў Афганістане мовы пушту і дары блізкія да персідскай).

### Чужая бацькаўшчына

Неўзабаве пасля прыходу Гарбачова Масква страціла ўсялякую цікавасць да іранскай кампартыі і надумалася зблізіцца з ісламісцкім кіраўніцтвам Ірана. Членам партыі «Тудэ» нічога не заставалася, як перабрацца на Захад, што яны і пачалі рабіць ужо ў 1986 годзе. У Беларусі застаўся добра калі тузін з тых дзвюх сотняў, што прыбылі ў 1983-м.

Беларуская старонка іранскай рэвалюцыі была трагедыяй страчаных надзей. Спадзеючыся на савецкае кіраўніцтва, іранскія камуністы збіраліся «са шчытом» вярнуцца на радзіму, але іх проста выкарысталі і падманулі. ◆










**Партрэт генерала Платона Лячыцкага** на картцы з серыі «Лідары саюзных армій», выдадзенай брытанскай тытунёвай кампаніяй Wills's Cigarettes. На іншых картках з той жа серыі — французскі маршал Фердынанд Фош і англійскі кароль Георг V.

# Стаць генералам, калі ты сын вясковага бацюшкі

## Платон Лячыцкі: кар'ерны трыумф і трагічны канец паповіча з Гродзеншчыны

**Пры канцы 1916 года, пасля таго, як канчаткова правалілася германская стратэгія хуткага пачарговага разгрому Францыі і Расіі, а стратэгічная ініцыятыва цалкам перайшла ў рукі Антанты, брытанская тытунёвая кампанія *Wills's Cigarettes* пачала выпуск серыі картак з партрэтамі галоўных палкаводцаў і военачальнікаў Першай сусветнай вайны. Героямі гэтай серыі (50 чалавек) сталі імператары, каралі, а таксама фельдмаршалы і генералы саюзных армій, якія найбольш адзначыліся ў пераможных бітвах і аперацыях. Сярод іх быў і адзін беларус — генерал ад інфантэрыі Платон Лячыцкі. Пра гэта піша вайсковы гісторык Віталь Чырвінскі.**

11 лістапада 1918 года. 5.10 раніцы. Французская правінцыя Пікардыя. У Камп'енскім лесе на станцыі Ратонд толькі што адбылася падзея, якую гадамі чакалі мільёны людзей. У чыгуначным штабным вагоне начальніка Генеральнага штаба Францыі Фердынанда Фоша германская дэлегацыя нарэшце паставіла свае подпісы пад гістарычным дакументам — пагадненнем аб замірэнні з краінамі Антанты. Праз шэсць гадзін сігнальшчык ля штабнога вагона пратрубіць сігнал «Спыніць агонь!», які перададуць па ўсім фронце. Баявыя дзеянні скончацца, а неба Парыжа 101 раз скаланецца ад артылерыйскіх залпаў салюту нацый. На наступны дзень цэнтральныя газеты ўсяго свету надрукуюць гэтую навіну на першых палосах. 100-гадовы юбілей заканчэння вайны — выдатная нагода, каб яшчэ раз прыгадаць пра беларусаў, якія ў ёй адзначыліся.

У пачатку XX стагоддзя ў Вялікабрытаніі многія калекцыянавалі карткі, якія ўкладаліся ў цыгарэтны пачак для ўзмацнення ўпакоўкі і рэкламы тытунёвых брэндаў.

### Нароўні з імператарамі і каралямі

Асоба нашага земляка, генерала Платона Лячыцкага была тады папулярная і ўнутры Расійскай імперыі. Пра ягоныя подзвігі можна без праблем знайсці згадкі на старонках тагачаснай прэсы, ды і ў іншых выданнях таксама.

Напрыканцы 1916 года ў Маскве вядомае выдавецтва Барыса Суворына выпусціла серыю паштовак «Героі Сусветнай вайны 1914 года». Грошы ад продажу (10 капеек за штуку) прызначаліся на дабрачынныя мэты: на ўтрыманне інвалідаў вайны, удоваў і сірот, а таксама на дапамогу сем'ям мабілізаваных у армію. Героямі паштовак (24 асобы) сталі генералы і адміралы краін Антанты, якія праявілі сябе ў першыя месяцы вайны. Партрэт генерала ад інфантэрыі Платона Аляксеевіча Лячыцкага тыражаваўся на прасторах Расійскай імперыі шматтысячнымі накладамі дзякуючы сетцы кніжных і газетных шапікаў на ўсіх чыгуначных станцыях Расіі (у свой час бацька Барыса Суворына атрымаў ад Міністэрства шляхоў зносін у арэнду больш за 500 чыгуначных шапікаў).

Але не толькі газеты і выдавецтвы цікавіліся героямі вайны. Гандлёвыя кампаніі, каб дасягнуць поспеху, павінны жыва рэагаваць на тэндэнцыі часу. Так адбылося і тут.

## Партрэт Лячыцкага друкавалі на цукерках і цыгарэтах

Адным з найбуйнейшых кандытарскіх прадпрыемстваў Расіі таго часу была фабрыка «А. І. Абрыкосава сыноў» (цяпер гэта канцэрн «Бабаеўскі»), яна насіла ганаровае званне «Пастаўшчык Двара Яго Імператарскай Вялікасці». У самы разгар вайны фабрыка выпусціла фірмовую ▶







Паштоўкі з серыі «Героі Сусветнай вайны 1914 года». На адной з іх — **генерал Платон Аляксеевіч Лячыцкі.**




Так выглядалі цукеркі з **серыі «Цукеркі Рускіх арлоў».**

▶ серыю «Цукеркі Рускіх арлоў». У гэтым наборы адна з цукерачных абгортак была прысвечана «арлу» з Беларусі Платону Лячыцкаму.

Хто ж гэты чалавек, чыю асобу не маглі абмінуць ні расійскія, ні замежныя фабрыканты?

## Мог стаць святаром, але выбраў лёс вайскоўца

Платон Лячыцкі нарадзіўся ў Гродзенскай губерні (дакладнае месца, на жаль, пакуль невядомае) 18 сакавіка 1856 года ў сям'і вясковага праваслаўнага святара Аляксея Мікалаевіча Лячыцкага і Соф'і з Паўлоўскіх.

Тады ў модзе былі святарскія дынастыі, і лёс Платона Лячыцкага не мусіў быць выключэннем. Прынамсі, першыя крокі для атрымання духоўнай адукацыі ён зрабіў. Платон паступіў у Літоўскую духоўную семінарыю ў Вільні, пасля якой яго чакала пасвячэнне ў праваслаўныя святары. Але ў маладога Лячыцкага душа да святарства зусім не ляжала, затое прываблівала вайсковая справа. Таму ён перапыніў навучанне ў семінарыі, паехаў у Варшаву ды паступіў у пяхотнае юнкерскае вучылішча. Выпусціўшыся 27 красавіка 1880 года, малады афіцэр атрымаў выдатны шанц зрабіць бліскучую вайсковую кар'еру і атрымаць дваранскую годнасць.

## Ад прапаршчыка да генерала

Першае дзесяцігоддзе службы прайшло ў родных мясцінах. Пасля выпуску з вучылішча ў чыне прапаршчыка Лячыцкі быў накіраваны ў 39-ы пяхотны рэзервовы кадравы батальён, які займаўся ўнутранай службай у паветах Гродзенскай губерні. З 1888 года ён служыў у Пінску, а затым у Брэст-Літоўскай крэпасці. Камандаваў ротай, батальёнам. Урэшце ў чыне капітана быў пераведзены ў 6-ы Усходнесібірскі лінейны батальён. Гэты перавод аказаўся лёсавызначальным. Амаль 20 гадоў

### Паўстанне баксёраў

Пад назвай «паўстанне баксёраў» (іхэтуаняў) увайшло ў гісторыю выступленне кітайцаў у 1898–1901 гадах супраць іншаземнага ўмяшання ў эканоміку, унутраную палітыку і рэлігійнае жыццё іх краіны. Асноўнай ідэйнай і баявой сілай паўстання былі так званыя атрады справядлівасці і міру (па-кітайску «іхэтуань»). Іх члены рэгулярна займаліся фізічнымі практыкаваннямі, у тым ліку кулачным боем, за што еўрапейцы празвалі іх баксёрамі. Паўстанне было задушана сіламі шасці еўрапейскіх дзяржаў, у тым ліку Расіі, а таксама ЗША і Японіі. Разгром таго паўстання стаў вялізным прыніжэннем для Кітая і паўплываў на нацыянальную свядомасць кітайцаў.



**Генерал Платон Лячыцкі.** Здымак з ілюстраванага часопіса «Ніва» ад 18 кастрычніка 1914 года.

**Крыж ордэна Святога Георгія** на эфесе зброі, упрыгожаным брыльянтамі.



**Кулямётная рота Расійскай імператарскай арміі.** Першая сусветная вайна ў самым разгары.

### Расійска-японская вайна

Адбывалася ў 1904–1905 гадах паміж Расійскай імперыяй і Японіяй за кантроль над Манчжурыяй, Карэяй і Жоўтым морам. Стала першай вялікай вайной з выкарыстаннем найноўшай зброі: дальнабойнай артылерыі, браняносцаў, мінаносцаў. Вайна завяршылася Портсмуцкім мірам, падпісаным 23 жніўня (5 верасня) 1905 года, які зафіксаваў саступку Расіяй Японіі паўднёвай часткі Сахаліна і сваіх арэндных правоў на Ляадунскі паўвостраў і Паўднёва-Маньчжурскую чыгунку. З расійскага боку ў час вайны загінула больш за 52,5 тысячы чалавек, з японскага — больш за 86 тысяч.

жыцця Лячыцкага былі звязаныя з Усходняй Сібір'ю і Далёкім Усходам. Тут ён паспяхова скончыў афіцэрскую стралковую школу, а ў 1896 годзе атрымаў званне падпалкоўніка.

Наступны этап біяграфіі пачаўся для Платона Лячыцкага ў 1898 годзе, калі яго накіравалі служыць у вядомую крэпасць Порт-Артур.

У 1900 годзе падпалкоўнік Лячыцкі ўдзельнічаў у падаўленні кітайскага «паўстання баксёраў», дзе змагаўся на чале асобнага атрада.

Баявыя заслугі падчас кітайскай кампаніі забяспечылі здольнаму афіцэру новы кар'ерны рост. Атрымаўшы чын палкоўніка, Лячыцкі пачаргова камандаваў 1-м Усходнесібірскім Яго Вялікасці палком і быў камендантам Мукдэна (цяпер кітайскі горад Шэньян) — тагачаснага апорнага пункта Расійскай імперыі ў Кітаі. А расійска-японскую вайну, якая пачалася ў лютым 1904 года, ён сустрэў камандзірам 24-га Усходнесібірскага стралковага палка.

З 1913 года ранейшая Залатая зброя пачала прыроўнівацца да ордэна Святога Георгія і стала называцца Георгіеўскай зброяй. Найбольшы статус мела зброя, упрыгожаная брыльянтамі. Падчас Першай сусветнай вайны Георгіеўскай зброяй з брыльянтамі былі ўзнагароджаныя толькі 8 чалавек, уключаючы Лячыцкага.

Падчас гэтай вайны Лячыцкі заслужыў рэпутацыю найлепшага палкавога камандзіра расійскай арміі. У другой палове жніўня 1904 года на чале свайго палка ён біўся пад Ляаянем на паўночным усходзе Кітая, а затым стрымліваў атакі праціўніка падчас Мукдэнскай аперацыі, пакуль не атрымаў загад на адыход за раку Хуанхэ. За праяўленую ў гэтых баях мужнасць Лячыцкі быў узнагароджаны імяннай Залатой зброяй і ордэнам Святога Георгія 4-й ступені. 12 мая 1905 года за баявыя заслугі Лячыцкаму прысвоена званне генерал-маёра, а ў кастрычніку 1908-га — генерал-лейтэнанта.

### Трапіў у энцыклапедыю, сабраўся на пенсію

Генеральскія чыны адкрывалі дарогу да імклівага кар'ернага росту. Хутка Лячыцкі ўжо камандаваў стралковай і пяхотнай дывізіямі, а пасля і 18-м армейскім корпусам. У снежні 1910-га ён прыняў камандаванне над войскамі ўсёй Прыамурскай вайсковай акругі, будучы адначасова вайсковым наказным атаманам Амурскага і Усурыйскага казацкіх войскаў. 1913 год прынёс яму званне генерала ад інфантэрыі. Вышэй у тагачаснай вайсковай іерархіі быў толькі чын генерала-фельдмаршала, які надаваўся вельмі рэдка і толькі асабліва заслужаным военачальнікам або людзям, набліжаным да асобы імператара.

Вайсковая энцыклапедыя, якая выйшла напярэдадні Першай сусветнай вайны, характарызуе Лячыцкага так: «Цудоўна арыентуецца на ўсялякай мясцовасці, настойлівы ў ажыццяўленні прынятага рашэння, сваёй мужнасцю і спакоем у баі робіць чароўнае ўражанне на падпарадкаваныя яму войскі, якія вераць, што з ім заўсёды магчымая перамога».

## Адрозніваўся вялікай сумленнасцю, ваенным чуццём і асцярожнасцю

У 1914 годзе генералу Платону Лячыцкаму было ўжо пад 60 гадоў, самы час быў думаць пра завяршэнне паспяховай вайсковай кар'еры і сыход на ганаровую пенсію. Але свет ужо стаяў на парозе новай вайны, аналагаў якой па маштабах дагэтуль не было. ▶

**Камандарм Першай сусветнай**

Напярэдадні Вялікай вайны 58-гадовы генерал ад інфантэрыі Платон Лячыцкі вярнуўся на малую радзіму. Спачатку яго прызначылі камандаваць групай войскаў, накіраванай на дапамогу 4-й арміі. А праз тыдзень пасля таго, як Германія абʼявіла вайну Расіі, ён узначаліў 9-ю армію, якая павінна была наступаць з-пад Варшавы на Познань для ўварвання на тэрыторыю Германіі. Аднак планы змяніліся, і армія Лячыцкага была перакінута на правы фланг Паўднёва-Заходняга фронту. У пераможнай Галіцыйскай бітве Лячыцкі адбіў у праціўніка горад Сандомір (Польшча) і стварыў плацдарм на рацэ Сан для ўдару на Кракаў.

У верасні 1914 года за гэтыя заслугі Платон Лячыцкі быў узнагароджаны Георгіеўскай зброяй з брыльянтамі. У кастрычніку таго ж года за разгром аўстрыйскай 1-й арміі пры правядзенні Варшаўска-Івангародскай аперацыі ён быў узнагароджаны ордэнам Святога Георгія 3-й ступені.

## Падчас расійска-японскай вайны Лячыцкі заслужыў рэпутацыю найлепшага палкавога камандзіра расійскай арміі

**«Маленькі, сухі дзядок, увесь белы»**

Не пакідала ваенная ўдача Лячыцкага і пазней. Летам 1916 года падчас Луцкага прарыву (пазней названага Брусілаўскім) армія пад ягоным камандаваннем у сустрэчным супрацьстаянні літаральна разарвала на дзве часткі моцную 7-ю аўстра-венгерскую армію, прасунуўшыся наперад на 50 км і ўзяўшы амаль 50 тысяч палонных. Лячыцкі штурмам узяўператвораны ў жалезабетонную крэпасць горад Чарнаўцы, які аўстрыйцы называлі «другім Вердэнам». Пасля гэтага, узламаўшы ўвесь паўднёвы фланг аўстрыйскага фронту і пераследуючы праціўніка па Букавіне, армія Лячыцкага выйшла на аператыўную прастору. Увосень 1916 года на працягу двух месяцаў на яе плячах трымаўся цэлы фронт, расцягнуты з-за разгрому аўстрыйцамі небаяздольнай румынскай арміі аж на 320 км.



**Здымак Платона Лячыцкага** ў французскім ілюстраваным тыднёвіку «Le Pays de France», які выходзіў у 1914–1917 гадах.

З таго часу захаваліся ўспаміны будучага ваеннага міністра Часовага ўрада Аляксандра Вярхоўскага, які ў 1916 годзе служыў у штабе 9-й арміі. Паводле яго, Платон Лячыцкі быў «маленькі, сухі дзядок, увесь белы, з вялікімі белымі вусамі». Ён адрозніваўся ад іншых расійскіх генералаў «вялікай сумленнасцю, ваенным чуццём і асцярожнасцю. Мала таго, ён па-свойму любіў салдат, вывучаў іх станоўчыя і адмоўныя рысы. Уся ягоная дзейнасць была падпарадкавана правілу: сем разоў адмерай і толькі потым адрэж. І трэба сказаць, што ў тых умовах, у якіх знаходзіліся войскі, пры тым відавочным нежаданні салдат ваяваць гэта была адзіная магчымая лінія. Ён з вялікай увагай сачыў за настроем байцоў і за тым, каб яны былі сытыя, апранутыя і абутыя... Ніколі не патрабаваў ад сваіх частак намаганняў, якія былі вышэйшыя за іх магчымасці».

> «Надзвычайным быў жалезны Лячыцкі, які даў нам Букавіну, вынішчыўшы аўстрыйцаў і прымусіўшы германскага праціўніка пашкадаваць пра вердэнскае пекла».
>
> *Антон Керсноўскі, расійскі ваенны гісторык*

Цікава, што ўлады Расійскай імперыі былі ў той час настолькі ўражаныя ваеннымі перамогамі і асабістымі якасцямі генерала Платона Лячыцкага, што нават узнагародзілі ягонага бацьку – звычайнага вясковага бацюшку. У 1916 годзе «ў якасці прызнання заслуг сына» яму ўручылі ордэн Святога Уладзіміра 4-й ступені.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі, калі пачалася «дэмакратызацыя» арміі, Платон Лячыцкі сышоў з камандавання. Ён быў залічаны ў распараджэнне ваеннага міністра Часовага ўрада, а 7 мая 1917 года выйшаў у адстаўку па хваробе «з мундзірам і пенсіяй».

**У жорнах «чырвонага тэрору»**

Пасля прыходу да ўлады бальшавікоў генерал застаўся ў Петраградзе. У 1920 годзе, як і ягоны былы камандзір Аляксей Брусілаў, ён прыняў прапанову бальшавікоў пайсці на службу ў Рабоча-сялянскую Чырвоную Армію ў якасці «вайсковага спецыяліста». Пэўны час ён займаў пасаду інспектара пяхоты і кавалерыі Петраградскай вайсковай акругі, але доўга папрацаваць на карысць новай улады не паспеў. Як і тысячы іншых былых царскіх афіцэраў, Лячыцкі трапіў у жорны «чырвонага тэрору». У студзені 1921-га ён быў арыштаваны, утрымліваўся ў Таганскай турме Масквы. Захварэўшы, трапіў у турэмны шпіталь, дзе неўзабаве, 18 лютага, і памёр. Месца пахавання застаецца нам невядомым. ◆



**Гісторыю менскай гімназісткі Зосі Шамардзіной апавядае пісьменніца і даследчыца літаратуры Ганна Севярынец.**



# Як каханка Маякоўскага стала ПЕРШАЙ ЛЭДЗІ БССР

**Неймаверна прыгожая, адчайна смелая, разняволеная ў думках і паводзінах, Зося сапраўды жыла напоўніцу. Але крыўдна, калі ўяўленне пра яе абмяжоўваецца толькі такімі штампавымі характарыстыкамі, як «фатальная жанчына», «першае каханне Маякоўскага», «інстытутка, якая збегла з футурыстамі»... Бо яна была чалавекам нашмат глыбейшым.**

1930 год. Масква. Уладзімір Маякоўскі, ужо смяротна стомлены і смяротна расчараваны, рыхтуе сваю апошнюю ў жыцці выставу «Дваццаць год працы». Ніякіх памагатых дзяржава свайму шчыраму трыбуну і палымянаму прамоўцу не дала — плакаты паэт прыбівае сваімі рукамі. Побач з ім на падлозе клеяць вялізныя аркушы паперы, прыладжваюць фотаздымкі, прыкідваюць подпісы толькі адміністратар выставы Павел Лавут ды Зося Шамардзіна, жонка былога старшыні СНК БССР Язэпа Адамовіча і разам з гэтым першая сардэчная сяброўка і каханка Маякоўскага. Калі выстава аглушальна правалілася, бо на яе не прыйшлі ані сябры-пісьменнікі, ані высокія госці пры пасадах, менавіта Зося арганізавала калектыўнае хадайніцтва перад кіраўніцтвам краіны, каб Маякоўскага ўзнагародзілі ордэнам за дваццаць год працы. Хадайніцтва не задаволілі, але сам факт!

Яшчэ эпізод. У 1926 годзе старшыня Галоўпалітасветы С.С.Шамардзіна адмяняе рашэнне цэнзара П.Л.Арэшнікава аб забароне купалаўскіх «Тутэйшых». Доказы гэтага экстраардынарнага па тым часе ўчынку адшукаў у архівах гісторык Аляксандр Гужалоўскі. Той кароткі час, які «Тутэйшыя» ўсё ж жылі на сцэне БДТ-1, быў адваяваны ў эпохі Зосяй Шамардзіной.

Яшчэ дэталь, гэтым разам з пачатку 1920-х. Яе згадвае ва ўспамінах сама Зося: ▸

«У Саўнаркаме па патрабаванні Дзяржплана і Наркамфіна адмовілі даць сродкі на школы местачковай моладзі. І, мусіць, было надта дзіўна і смешна, калі дакладчык Наркамасветы, старшыня Галоўпалітасветы (гэта значыць, я), раптам заплакаў. Адамовіч ажно разгубіўся, але ўсё ж не пайшоў супроць планавых і фінансавых органаў. Добра, што ўмяшаўся Якуб Колас і заступіўся за Наркамасветы».

Яшчэ ўчынак. 1964 год. Шамардзіна, не так даўно рэабілітаваная пасля дзесяці гадоў лагера і сямі сібірскага пасялення, піша ліст да паэта-акадэміка Пятра Глебкі (адказу якога, на жаль, не захавалася). Не, яна нічога не просіць для сябе. Яна просіць, каб Глебка паспрыяў аднаўленню і захаванню памяці пра першых беларускіх нацыянал-бальшавікоў Язэпа Адамовіча, Аляксандра Чарвякова і Мікалая Галадзеда, што загінулі падчас рэпрэсій. Клопат Зосі — вялікі нават па сённяшнім часе: яна хацела б усталяваць мемарыяльныя дошкі ў гонар тых, хто пачынаў ствараць рэспубліку. Няма каму яе падтрымаць — і дошкі, канешне ж, не ўсталявалі. Але яна змагалася.

А цяпер можна і па парадку.

### Пацалавала паэта на сустрэчы з чытачамі

Соф'я Шамардзіна нарадзілася ў Нясвіжы ў 1894 годзе. Бацька яе, акцызны чыноўнік (сёння мы б сказалі: супрацоўнік падатковай інспекцыі) Сяргей Іванавіч Шамардзін, праз колькі год пасля нараджэння дачкі перабраўся ў Менск, дзе ў хуткім часе Зося распачала вучобу ў гімназіі. Дакладна невядома, якім чынам бацькі Зосі пазнаёміліся з маладым, але і тады ўжо знакамітым пецярбургскім літаратарам Карнеем Чукоўскім. Магчыма, праз супольнага знаёмага, менскага хірурга Цэмеха Шабада, да якога Чукоўскі завітваў у Менск. Як бы там ні было, але менавіта Чукоўскі ў 1913 годзе павёз 18-гадовую Зосю ў Пецярбург: дапамагчы з паступленнем на Бястужаўскія жаночыя курсы і пазнаёміць са сталічнымі паэтамі. «Адны бацькі папрасілі завезці іх дачку ў Пецярбург», — так пазней распачне расповед пра Зосю сам Чукоўскі.

З некаторымі сталічнымі літаратарамі, тым не менш, менская гімназістка была ўжо крыху знаёмая, а яны былі крыху знаёмыя з ёй. Хуліганка Шамардзіна ў пачатку гэтага лёсавызначальнага для яе года падчас выступу Фёдара Салагуба ў менскім Гасцінным двары прабралася за кулісы, падбегла да паэта і пацалавала яго. Выбрык гэты невымоўна здзівіў Салагуба — і ўразіў прысутнага там жа Ігара Севяраніна. Сустрэўшы Зосю ў Пецярбурзе, паэт Севяранін згадае і выбрык, і дзяўчыну, і сваё ўражанне — і закахаецца ў прыгожую курсістку. Але да таго часу яна ўжо — каханка Маякоўскага.

### Чукоўскі, Севяранін...

Імклівы і драматычны раман Маякоўскага і Сонкі Шамардзіной (пяшчотнае «Сонка» прыдумана для яе паэтам) шматкроць апісаны

**Соф'я Сяргееўна Шамардзіна** (1894–1980)
— беларуская мемуарыстка, дзяржаўны і грамадскі дзеяч. Прататып галоўнай гераіні паэмы Маякоўскага «Воблака ў штанах», адна з персанажаў трагедыі «Уладзімір Маякоўскі». Член РКП(б) з 1919, супрацоўніца Наркамасветы, Наркамюстыцыі, аддзела па рабоце сярод жанчын пры ЦК КП(б)Б. З 1923 — жонка наркама вайсковых і ўнутраных спраў, потым — старшыні СНК БССР Язэпа Адамовіча. З 1925 — старшыня Галоўпалітасветы БССР. У 1932 разам з мужам пераязджае ў Маскву. У 1937, пасля самазабойства Адамовіча, рэпрэсаваная — 10 гадоў лагера «за контррэвалюцыйную дзейнасць». У 1949 арыштаваная паўторна, асуджана да вечнага пасялення ў Ігарцы (Краснаярскі край). У 1955 — рэабілітаваная.




Выйшаў у свет новы альманах **«Kreva Incognita»**, прысвечаны гісторыі і культурнай спадчыне мястэчка Крэва і яго ваколіцаў. Яго ўкладальнікі імкнуцца кіравацца метадамі мікрагісторыі, спрабуючы паказаць, як на лакальным узроўні адбіваліся агульнанацыянальныя працэсы.
У альманаху змешчаны як навуковыя, так і краязнаўчыя артыкулы, а таксама публікуюцца матэрыялы розных экспедыцый. Сярод аўтараў першага выпуску — гісторык Алег Дзярновіч, архітэктары Андрэй Шулаеў і Валерый Кожар, камп'ютарны графік Ахрэм Белабровік, краязнавец Аляксандр Камінскі, юрыстка і даследчыца могілак Вольга Сямашка. Адпаведна, і надрукаваныя матэрыялы вылучаюцца разнастайнасцю і шматаспектнасцю. Тут знайшлося месца і гісторыі рэгіёна, і рэканструкцыі мясцовых помнікаў архітэктуры, і праблемам мясцовай тапанімікі ды этнаграфіі.
Асаблівую цікавасць уяўляе падрыхтаваны Вольгай Сямашка матэрыял пра фотаздымкі канца XIX – пачатку XX стагоддзяў з калекцыі краязнаўцаў братоў Касцюкоў. Жыхары Крэва і ваколіц прысутнічаюць на здымках, зробленых у той час у атэлье Смаргоні, Вільні, Варшавы, Чанстаховы, Тулы, Нью-Ёрка.
Альманах «Kreva Incognita» заяўлены як штогоднік. Ужо распачалася праца над другім выпускам, які мае з'явіцца да канца года.
Першы выпуск можна набыць у мінскіх кнігарнях «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72) і «Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75), а таксама ў гандлёвым цэнтры «Купалаўскі» (павільён 41–42)



З КНІГІ І. КУРКОВА «МІНСК НЕЗНАЁМЫ»

Цяпер тут, на вуліцы Валадарскага, знаходзіцца Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Максіма Горкага, а спачатку гэта была сінагога. Яе закрылі пасля рэвалюцыі і ў 1926-м перарабілі на кінатэатр «Культура» (на фота). **Менавіта ў ім выступаў Маякоўскі.** Курыравала мерапрыемства Соф'я Шамардзіна: як жонка старшыні СНК БССР, яна адказвала ў краіне за ўсю культуру.

ў літаратуры. Шчыра і прастадушна распавядае пра яго сама Зося ў нататках «Маё футурыстычнае юнацтва». Падрабязна і метадычна раскручваюць спружыну гэтай гісторыі біёграфы расійскага генія. Падобна на тое, што гэта і сапраўды

**Чукоўскі, даведаўшыся, што ягоная падапечная цяжарная, усклікнуў: «Як! Вы збіраецеся нарадзіць ад сіфілітыка?!»**

было першае сур'ёзнае каханне маладога паэта. У кожным разе, менавіта Зосін вобраз стане асноўным «складнікам» вобразу Марыі ў ягонай першай вялікай лірычнай паэме «Воблака ў штанах». У трагедыі «Уладзімір Маякоўскі» Зося зноў згадваецца, але ўжо — сястрой: «У меня есть Сонечка, сестра!»

Ва ўспамінах сучаснікаў Маякоўскага раз-пораз мільгае непрыгожая гісторыя з плёткай, якую нібыта пусціў спакутаваны нечаканай рэўнасцю Чукоўскі. Даведаўшыся, што ягоная падапечная цяжарная, ён усклікнуў: «Як! Вы збіраецеся нарадзіць ад сіфілітыка?!» Плётка пайшла гуляць па горадзе, нібыта падхопленая Максімам Горкім... Здаецца, менавіта з гэтага непрыемнага клубка Зося і выблыталася ўжо не каханкай Маякоўскага, а «сястрой», пазбавіўшыся і ад непажаданага дзіцяці.

На некаторы час яна прымае палкія заляцанні Ігара Севяраніна. Соф'і Шамардзіной прысвечана ягоная паэма «Званы сабора пачуццяў» — але і гэтая паэтычная гісторыя хутка стамляе. Зося шукае сябе: перастае ўжываць мяса, едзе сястрой міласэрнасці на фронт Першай сусветнай, у 1917 нараджае ўсё ж дзіця (імя бацькі яна нікому не называе), але ў гэтым жа годзе сын яе памірае...

### Надзейная сяброўка мужу і каханкам

У 1917 годзе Шамардзіна вяртаецца ў Менск — у самы вір рэвалюцыйных падзей. Некаторы час яна працуе ў штабе гарадской міліцыі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фрунзэ, потым едзе ў Сібір. Там, у Цюмені, калі горад знаходзіўся на асадным становішчы, у разгар Грамадзянскай вайны неўтаймаваная Зося ўступае ў РКП(б).

У 1921-м, неўзабаве пасля заканчэння польска-савецкай вайны, Шамардзіна зноў вяртаецца на радзіму. Актыўная, заўважная, разняволеная, яна знаходзіцца ў самай гушчы падзеяў, на чале нованароджанага жаночага руху. На адным з партыйных мерапрыемстваў Зося знаёміцца з наркамам вайсковых і ўнутраных спраў БССР Язэпам Адамовічам.

### Раман з наркамам

Гэты раман разгортваецца таксама надзвычай хутка. «Аднойчы я захварэла і некалькі дзён не была ў Язэпа Аляксандравіча. А ў нядзелю, зімовай раніцай, на двор узязджаюць ваенкамаўскія сані. Гэта Адамовіч вырашыў, што ўжо час "перабудоўваць жыццё", і даручыў сваёй сястры Гэлі прывезці мяне», — успамінала Зося. І далей: «Розніца ў нашым культурна-адукацыйным узроўні не перашкаджала нам, хутчэй, гэтая акалічнасць зблізіла нас: я рада ▶



была памагчы ў яго самаадукацыі, ён заўсёды падстаўляў сваё моцнае плячо і падаваў руку ў вырашэнні арганізацыйных і палітычных пытанняў у маёй рабоце — і ў пракуратуры, і ў Наркамасвеце».

Яна была надзейнай сяброўкай мужу — што б там ні было. Але адначасова заставалася і надзейнай сяброўкай сваім былым каханкам — што б з імі ні здаралася. Неаднойчы Язэп Адамовіч, пакуль быў пры ўладзе, дапамагаў сувязямі і рэкамендацыямі Уладзіміру Маякоўскаму. Падчас паэтычных візітаў у Менск Маякоўскі заўсёды абедаў у Адамовічаў. «Як мне называць цябе, на “ты” ці на “вы”?» — спытаўся ён першы раз, нечакана сумеўшыся. «Цябе б крыху прыадзець!» — жорстка кінуў другі раз, пабачыўшы Зосю ў строі «а-ля Крупская». «Дзіўна. Раней ты хацеў раздзець мяне, а цяпер хочаш адзець», — адказала яму першая лэдзі БССР, старшыня Галоўпалітасветы Соф’я Сяргееўна Шамардзіна.

**«Раней ты хацеў раздзець мяне, а цяпер хочаш адзець»**

Ёсць меркаванне, выказанае Аляксандрам Гужалоўскім, нібыта мімалётныя, але цёплыя адносіны звязвалі Зосю з вядомым камуністычным дзеячам Карлам Радэкам: яна пазнаёміла Радэка і з Адамовічам.

### «Мне самой хочацца пагрэцца ў цеплыні ўспамінаў»

У 1930 годзе, праз тры месяцы пасля правалу выставы «Дваццаць год працы», застрэліцца Маякоўскі. У 1937-м, у атмасферы рэпрэсій, у купэ цягніка застрэліцца Язэп



**Уладзімір Маякоўскі.** 1911 год.

Адамовіч. «Працуй, Сонечка, на карысць партыі за сябе і за мяне», — напіша ён у перадсмяротнай запісцы. Праз некалькі месяцаў за «контррэвалюцыйную дзейнасць» будзе арыштаваная, аднак, і Сонечка. Дзесяць гадоў лагера, а потым, пасля двух нясмелых гадоў на волі, — новы арышт і вечнае пасяленне ў Ігарцы, на дзікай Поўначы. І толькі ў 1955-м — канчатковае вызваленне і рэабілітацыя.

Соф’я Шамардзіна памерла ў 1980 годзе пад Масквой, у пансіянаце для старых бальшавікоў, куды яе ўладкавала іншая каханка Маякоўскага, Ліля Брык. Памерла, пакінуўшы пасля сябе ўспаміны пра Маякоўскага і Адамовіча, некалькі дзясяткаў вершаў, некалькі палкіх лістоў да каханкаў і вясёлых цыдулак да сяброак. Кажуць, і напрыканцы жыцця яна была надзвычай прыгожай, надзвычай светлай і надзвычай аптымістычнай. «Мне самой надта хочацца пагрэцца ў цеплыні дарагіх успамінаў», — прызнавалася яна з выбачэннямі: маўляў, шмат успамінаю пра сябе, замест таго, каб успамінаць пра гераічную эпоху.

Увогуле, тыя бурапенныя часы ўспамінаюць з рознымі пачуццямі. Зося ўспамінала з цеплынёй. ◆

Уладзімір Маякоўскі.
**Воблака ў штанах** (1914–1915)

Мария! Мария! Мария!
Пусти, Мария!
Я не могу на улицах!
Не хочешь?
Ждешь,
как щеки провалятся ямкою
попробованный всеми,
пресный,
я приду
и беззубо прошамкаю,
что сегодня я
«удивительно честный».
Мария,
видишь —
я уже начал сутулиться...

Мария!
Как в зажиревшее ухо втиснуть им тихое слово?
Птица
побирается песней,
поет,
голодна и звонка,
а я человек, Мария,
простой,
выхарканный чахоточной ночью в грязную руку Пресни.
Мария, хочешь такого?
Пусти, Мария!
Судорогой пальцев зажму я железное горло звонка!

Мария!

Звереют улиц выгоны.
На шее ссадиной пальцы давки.

Открой!

Больно!

Видишь — натыканы
в глаза из дамских шляп булавки!

Пустила.

Детка!
Не бойся,
что у меня на шее воловьей
потноживотые женщины мокрой горою сидят,—
это сквозь жизнь я тащу
миллионы огромных чистых любовей
и миллион миллионов маленьких грязных любят.
Не бойся,
что снова,
в измены ненастье,
прильну я к тысячам хорошеньких лиц,—
«любящие Маяковского!»—
да ведь это ж династия
на сердце сумасшедшего восшедших цариц.
Мария, ближе!
В раздетом бесстыдстве,
в боящейся дрожи ли,
но дай твоих губ неисцветшую прелесть:
я с сердцем ни разу до мая не дожили,
а в прожитой жизни
лишь сотый апрель есть.
Мария!

Поэт сонеты поет Тиане,
а я —
весь из мяса,
человек весь —
тело твое просто прошу,
как просят христиане —
«хлеб наш насущный
даждь нам днесь».

Мария — дай!

# Нечаканае супадзенне



## Соф’я Шамардзіна судзіла групу польскіх разведчыкаў на чале з будучым пісьменнікам Сяргеем Пясецкім

**Піша гісторык Ніна Стужынская.**

28 чэрвеня 1924 года ў Вышэйшым судзе БССР у Мінску пачаўся шпіёнскі працэс. Разглядалася справа польскіх агентаў з арганізацыі Сяргея Пясецкага.

Архівы захавалі імя суддзі — Раман Кудзельскі ўзначаліць Вярхоўны суд БССР у 1930-я.

Але большую цікавасць выклікае асоба пракурора. Дзяржаўным абвінаваўцам на працэсе выступала кіраўніца жаночага аддзела ЦК кампартыі, жонка народнага камісара вайсковых і ўнутраных спраў, вядомага сваёй жорсткасцю «жалезнага» Язэпа Адамовіча, Соф'я Шамардзіна.

Аляксандр Гужалоўскі на старонках кнігі «Сэксуальная рэвалюцыя ў БССР. 1919–1929 гг.» прэзентуе гэтую асобу як сэкс-сімвал абальшавічанага Мінска, чырвоную свецкую львіцу, разбуральніцу сямейных устояў, паслядоўніцу Аляксандры Калантай.

Сустрэцца з Пясецкім, які меў падобную славу на польскім баку мяжы, ёй не давялося. У апошні момант спрытны агент польскай выведкі, арганізатар шпёнскай сеткі, нейкім цудам, што адзначаецца і ў судовай справе, выслізнуў з рук ГПУ. Здолеў уцячы і нехта Сяргееў (псеўданім) — мяркуючы па справе, фігура таксама важная. А вось шарагоўцы папаліся.

### Чым займаліся разведчыкі групы Пясецкага

У польскага Генеральнага штаба былі спадзяванні на стварэнне агентурнай сеткі па лініі Мінск–Бабруйск–Слуцк. Пры паспяховым развіцці справы таксама планавалася далучыць у сетку і Жлобін.

Большасць агентуры з групы Пясецкага канцэнтравалася ў Бабруйску. Асноўныя фігуранты справы жылі ў раёне вуліц Інваліднай (зараз Энгельса), Жукоўскай, Лагернай Слабодкі (Сялянская), знакамітай Скрыпачкі, побач з якой знаходзіўся аэрадром. З прыходам Чырвонай Арміі ў Бабруйск у ліпені 1920-га былы польскі аэрадром выкарыстоўваўся авіяцыяй 16-й арміі Заходняга фронту. У студзені 1922-га супраць антысавецкіх узброеных акцый у Бабруйск падцягнулі 2-гі атрад дывізіёна паветраных караблёў «Ілля Мурамец», які прыцягваў увагу агентаў.

Пясецкі быў завербаваны на працу разведчыка ў верасні 1922-га пад мянушкай Белы. Наваспечаны агент атрымаў зброю – рэвальвер сістэмы «наган». Першы пераход Белага праз мяжу адбыўся 9 верасня 1922 года ў раёне Стоўбцаў. 17 верасня Пясецкі вярнуўся. «Заданне выканаў», — сведчыць запіс ягонага куратара, паручніка Ратынскага. Агент прынёс па адным асобніку газет «Правда» і «Известия». Па тых часах газеты былі вельмі каштоўнай крыніцай інфармацыі. Набывалі іх на гарадскіх рынках.

Наступным заданнем было высветліць, якія дывізіі і аддзелы бяруць удзел у манеўрах, а таксама вызначыць тэрыторыю манеўраў пад Бабруйскам. У Ракаве, улюбёным сваім мястэчку, Пясецкі перайшоў на савецкі бок. Ды хутка вярнуўся: заданне было правалена — Пясецкага затрымалі, але пасля адпусцілі. Найхутчэй, памежнікі не звярнулі ўвагу на асобу затрыманага, у той час праз мяжу хадзілі ледзь не натоўпамі.

Улетку 1923-га група Пясецкага дэманструе паспяховыя вынікі. Але ў пачатку восені, як пазначае Ратынскі, агент перадае ўжо «сціплыя матэрыялы» і тлумачыць гэта дэканспірацыяй.

### «Збіралі звесткі аб перамяшчэнні савецкіх войск…»

Іх арыштавалі 19 студзеня 1924 года.

У выніку правалу групы ў мінскім ГПУ (сёння гэта будынак па вуліцы Энгельса, 18) апынуліся Георгій ▸

Петрашкевіч, Антон Шукала (Шукайла), яго жонка Вольга, Канстанцін Масюк, Пятро і Лізавета Шустоўскія (брат і сястра) ды Казіміра Раскалава. Такія імёны засталіся ў судовых дакументах.

Усіх арыштаваных прывезлі ў турму (на той момант Цэнтральны папраўчы дом) 17 сакавіка 1924 года пасля сур'ёзнай апрацоўкі ў падвалах ГПУ. Петрашкевіч і Шукала «прызналіся, што яны агенты Інфармацыйнага бюро №2 Польскага Генеральнага штаба (разведка. — **НГ**), праз пасярэдніцтва нязлоўленага шпіёна Пясецкага... збіралі звесткі аб перамяшчэнні савецкіх войск...»

Георгію Петрашкевічу не было і васямнаццаці гадоў. Пракурор Шамардзіна не пашкадавала прыгожага юнака з Баранавіч і патрабавала для яго найвышэйшай меры пакарання. Суд змяніў кару на 10 год пазбаўлення волі «без канфіскацыі маёмасці з прычыны адсутнасці апошняй».

Хлопец пазбег расстрэлу толькі з прычыны маладых гадоў. Тады ўдзел юнакоў у справах дарослых, такіх як узброеныя акцыі (згадаем слуцкіх гімназістаў-паўстанцаў, мінскіх семінарыстаў-зеленадубцаў), дыверсіі, тэрор, шпіянаж — справа звычайная. У час ваеннага і паваеннага ліхалецця сталелі вельмі рана.

Нельга не заўважыць, што Петрашкевіч быў арыштаваны першым з групы, у верасні 1923-га. Мусіць, яго затрыманне і было той нітачкай, якая дала магчымасць чэкістам разбурыць шпіёнскае гняздо. Хаця па законах жанру шараговы сябра арганізацыі не павінен быў ведаць іншых яе членаў, а толькі кантактную асобу (старшага) з сеткі, якім быў для яго Сяргееў.


WIKIMEDIA COMMONS

## Сяргей Пясецкі

Польска-беларускі пісьменннік, нарадзіўся ў 1901 у Ляхавічах. У 1920-я займаўся шпіянажам і кантрабандай на савецка-польскім памежжы, у наваколлі Ракава. У 1926 за бандыцкі налёт асуджаны польскімі ўладамі да смяротнага пакарання, але потым прысуд замянілі на 15 гадоў турмы. У зняволенні пачаў пісаць, стаў славутым і здолеў раней вызваліцца з турмы. Пасля Другой сусветнай вайны эміграваў на Захад. Памёр у 1964 у Вялікабрытаніі. На беларускую мову перакладзеныя раманы «Каханак Вялікай Мядзведзіцы», «Запіскі афіцэра Чырвонай Арміі», «Пяты этап», «Жыццё разбгоенага чалавека», «Багам ночы роўныя», «Яблычак», «Гляну я ў аконца...». Некаторыя з іх яшчэ даступныя да набыцця ў кнігарнях.

Ад арышту і суда ў Мінску Пясецкага ўратаваў іншы арышт. У снежні 1923 года пры вяртанні на польскі бок яго затрымала польская паліцыя: нібыта ён са сваімі падзельнікамі абрабаваў кантрабандыстаў.

### Адзіны расстраляны

Трагічны лёс у Антона Шукалы. Прыгажуня-пракурор называла яго «інтэлігентны малады чалавек». Яна выставіла яму абвінавачанне ў тым, што, «быўшы на службе ў канцылярыі штаба дывізіённай школы №8 на пасадзе старшага перапісчыка, выкарыстоўваў сваё службовае становішча, перадаваў вядомыя яму звесткі, якія мелі характар дзяржаўнай таямніцы, за ўзнагароду агентам польскай выведкі».

## Уладзімір ці Казіміра?

Яшчэ адна арыштаваная вядомая па дакументах суда як Раскалава Казіміра. Але ў дакументах савецкага следства, як і ў дакументах польскай разведкі, — Расказаў Уладзімір! І можна было б меркаваць, што ў судовыя дакументы пракралася выпадковая памылка, аднак імя таямнічай Казіміры паўтараецца не раз. Значыць, справа ў іншым. Характэрна, што гэтая асоба далучаецца да групы напярэдадні яе правалу, а пасля затрымання знаходзіцца ў турме ўсяго месяц, а потым выходзіць на волю па рашэнні народнага следчага. Да суда Уладзімір-Казіміра недабыў. Усё гэта штурхае да высноў: відаць, гэта быў савецкі агент, чыё імя, прозвішча і нават пол змянілі дзеля захавання інкогніта.

Шукала распавёў суду сваю версію падзей: быццам ён увайшоў у давер да Пясецкага для перадачы лжывых звестак «і сам збіраўся раскрыць шпіёнскую сетку». На вартыя жалю спробы падсуднага захаваць сабе жыццё суд не звярнуў увагі.

У выніку чатырохгадзіннага разгляду справы 25-гадовы Шукала, родам з пасёлка Альбярцін (цяпер у межах горада Слоніма), член Камуністычнай партыі, адзіны з групы быў асуджаны да расстрэлу.

Лёс падсуднага абцяжарыла тое, што Пясецкі неаднаразова спыняўся ў доме Шукалы. Ён з сям'ёй жыў у Бабруйску, на тэрыторыі 8-га артылерыйскага дывізіёна, які месціўся, мабыць, у крэпасці.

Жонка Антона, 19-гадовая бабруйчанка Вольга, атрымала прысуд за выкананне абавязкаў кур'ера, перадачу пакетаў з інфармацыяй і «неданасіцельства». 30 чэрвеня Вольга мела апошняе спатканне з мужам. Просьба аб памілаванні не была задаволена. 22 ліпеня Шукала «выдадзены каменданту ГПУ Лукашэвічу», што азначала расстрэл у наступную ноч.

Следства прыйшло да высновы, што агенты з польскага боку карысталіся гасціннасцю падсудных Шустоўскіх, Масюка, Шукалы рэгулярна і жылі ў іх па некалькі месяцаў.



У будынку па Маркса, 3 у 1920-я гады размяшчаўся Вышэйшы суд БССР, **тут судзілі групу Пясецкага** (тады адрас быў Маркса, 5).

### З будняў пракурора

У афіцыйныя ўстановы ў 1920-я прыводзілі на прымусовыя работы вязняў мінскага канцлагера (ён быў арганізаваны ў цэнтры горада, у былым кляштары бернардынцаў і касцёле Святога Язэпа, цяпер там, адразу за Ратушай, архіў і гасцінічны комплекс «Манастырскі» па вуліцы Кірылы і Мяфодзія). Кіраўніцтву канцлагера моцна дасталося, калі нехта з вязняў у канцылярыі Жансавета **скраў сумачку** ў пракурора Соф'і Шамардзіной, жонкі наркама вайсковых і ўнутраных спраў, перад якім дрыжала лагернае начальства.

**Лёгка выскачылі?**

Іншыя фігуранты шпіёнскай справы — брат і сястра Шустоўскія — мелі жытло ў Бабруйску, па Жукаўскім завулку, дом №2. Пятро Шустоўскі, 23-гадовы халасты бландзін, як сведчыў прысуд, «прымаў у сябе агента польскай выведкі Пясецкага».

За гэта ён атрымаў два гады зняволення. Праз год вязень звярнуўся з хадайніцтвам аб датэрміновым вызваленні, у заяве патлумачыў, што «маці — глухая 58-гадовая старая».

У гэтай справе фігуруе толькі адзін мінскі адрас кватэры Канстанціна Масюка на ўчастку Грыгор'ева, дом 4, кватэра 1. Вуліца Грыгор'еўская была раней у Мінску — сёння гэта вуліца Фабрыцыуса. Найстарэйшы з групы затрыманых, 51-гадовы ахоўнік вакзала і Дома культуры Заходняй чыгункі, згодна з фармулёўкай прысуду, «здаваў кватэру шпіёну Сяргееву». Сюды ж заходзіў Петрашкевіч, магчыма, і сам Пясецкі.

Фігуранты працэсу, як засведчыла газета «Звязда» за 2 ліпеня 1924 года, за выключэннем Шукалы, атрымалі малыя тэрміны зняволення, і некаторыя ўжо праз год выйшлі на волю. А жанчынам з прычыны маладосці і кепскага стану здароўя ўвогуле далі ўмоўныя тэрміны. Як вядома, да пары: для герояў палітычных працэсаў гэта быў толькі першы этап небяспечнага ўзаемадзеяння з уладай. Галоўныя маштабныя рэпрэсіі былі наперадзе. У 1930-я следчыя НКВД зноў выцягнуць справы першай паловы 1920-х, каб пазбавіць жыцця іх фігурантаў. ◆

Ён меў адносіны з арыстакраткамі са ўсёй Еўропы, але жонку знайшоў на радзіме



# Рука і сэрца князя Багуслава Радзівіла

Багуслаў Радзівіл. Гравюра Ерыміяса Фалька паводле малюнка Даніэля Шульца, 1654 год.

**Палітычны дзеяч, смелы ваяр, таленавіты палкаводзец, адзін з самых заможных магнатаў ВКЛ, перакананы пратэстант, дзёрзкі дуэлянт… Але яшчэ галантны кавалер, свецкі леў, інтрыган і верны муж. Пра гэты бок жыцця адной з самых яркіх постацяў гісторыі Беларусі піша Кірыл Карлюк.**

### Еўрапейскае падарожжа

Багуслаў Радзівіл нарадзіўся ў 1620 годзе ў сям'і віленскага кашталяна Януша Радзівіла і брандэнбургскай прынцэсы Лізаветы Сафіі Гагенцолерн. Рана страціўшы бацьку, атрымаў за ім вялікую спадчыну, якая ўключала, сярод іншага, цэлае Слуцкае княства.

Сваё ранняе дзяцінства Багуслаў правёў з маці ў бацькоўскім маёнтку ў Германіі. Менавіта нямецкая стала для яго першай роднай мовай. Вярнуўшыся ў ВКЛ у 1628 годзе, ён пад апекай свайго дзядзькі, гетмана Крыштофа Радзівіла, атрымаў добрую адукацыю ў кальвінісцкіх гімназіях Вільні і Кейдан. Адна з такіх гімназій, заснаваная бацькам Багуслава, дзейнічала і ў Слуцку.

З 1637 па 1648 год Багуслаў Радзівіл працягнуў адукацыю падчас традыцыйнага для тагачасных арыстакратаў *grand tour* па Заходняй Еўропе. Падарожнічаў па Нідэрландах, Францыі і Англіі. Князь слухаў лекцыі ў знакамітых галандскіх універсітэтах Гронінгена, Франекера і Утрэхта, браў урокі ў прыватных «рыцарскіх акадэміях» Парыжа. Як сапраўдны галантны кавалер, навучаўся танцам, верхавой яздзе і фехтаванню. Неаднойчы браў удзел у ваенных выправах галандскіх і французскіх войскаў супраць іспанцаў. Як пазней сам пісаў,

**У афіцыйных паперах знакаміты французскі «кароль-сонца» Людовік XIV звяртаўся да Багуслава Радзівіла «наш найдаражэйшы і найулюбёнейшы кузен»**

рабілася ўсё гэта, каб потым «гэтую службу практыкаваць на радзіме, з карысцю для Рэчы Паспалітай».

### Свецкі леў

Успадкаваны ад продкаў тытул князя Святой Рымскай імперыі адкрываў Багуславу Радзівілу шырокія магчымасці за мяжой. Яго цёпла прымалі пры еўрапейскіх дварах, і ён шчыльна кантактаваў з прадстаўнікамі еўрапейскай арыстакратыі. Так, у афіцыйных паперах знакаміты французскі «кароль-сонца» Людовік XIV звяртаўся да яго не іначай, як «наш найдаражэйшы і найулюбёнейшы кузен».

Не абыходзілася і без дуэляў. Нездарма Багуслаў у сяброўскім альбоме аднаго галандскага дыпламата ўласнай рукой пакінуў цытату з «Іліяды»: «Мае на нарадзе сілу язык, а ў бітве — правіца». Радзівіл паспяхова біўся на шпагах з французскімі прынцамі, а аднойчы ў паядынку з баронам дэ Грутам — конна на пісталетах.

За адну з такіх сутычак князь нават трапіў у славутую турму Бастылія, бо дуэлі ў Францыі былі забароненыя. Хадзілі пагалоскі, што прычынай паядынку з графам дэ Рыё (паядынак так і не адбыўся) была парыжанка «спрэчнай рэпутацыі» і не шляхецкага паходжання... Радзівіл, як сапраўдны свецкі леў, быў героем многіх амурных гісторый.

Яшчэ адзін з такіх двубояў князя быў звязаны з каранаванай пані. Аднойчы пры стале Лізаветы Сцюарт, чэшскай каралевы ў выгнанні, Багуслаў паспрачаўся за месца з Анры-Шарлем, прынцам дэ Тальмонам. Жанчына, як магла, улагодзіла канфлікт. Але неўзабаве ў Гаазе распаўсюдзіліся чуткі, якія абражалі гонар Радзівіла ў вачах чэшскай каралевы. У адказ Багуслаў выклікаў прынца Тальмона на двубой, у якім параніў француза. Людзі Радзівіла аказалі прынцу першую дапамогу, і калі Тальмон акрыяў, то прымірыўся з князем.

### Герцагіня дэ Шэўрэз: вялікая палітыка і інтрыгі

Але не толькі веды, вайсковы досвед і дуэлі вабілі маладога князя. Паходжанне, палітычная вага сям'і і прыватныя амбіцыі падштурхнулі Багуслава Радзівіла да ўдзелу ў вялікай палітыцы. Першы раз князь заняўся ёй, калі яму толькі мінула 20 гадоў. Нягледзячы на свой удзел у ваенных кампаніях супраць іспанцаў, з зімы 1641 года Багуслаў Радзівіл пачаў перыядычна бавіць час у Брусэлі і Антверпене ў Паўднёвых Нідэрландах, якія належалі іспанскай галіне Габсбургаў. Сапраўдныя прычыны гэтых візітаў застаюцца таямніцай і дагэтуль.

Магчыма, часткова гэта можна было б патлумачыць цікавасцю да мастацтва, буйнымі цэнтрамі якога былі згаданыя гарады. Прынамсі, у еўрапейскіх падарожжах князя доўгі час суправаджаў Лукас Ворстэрман, фламандскі мастак з кола Рубенса і ван Дэйка. Прыватная ж калекцыя твораў мастацтва Багуслава Радзівіла налічвала сотні адзінак.

Аднак асноўная прычына вандровак Радзівіла, відаць, была іншая. Відавочна, ён меў цесныя адносіны са знакамітай Марыяй дэ Раган, герцагіняй дэ Шэўрэз. ▶



**Марыя Генрыета Сцюарт.** Партрэт пэндзля Барталамеуса ван дэр Гельста, 1652 год. Princess Royal — старэйшая дачка англійскага караля Карла I, якая рана стала ўдавой па сваім першым мужу штатгальтару Вільгельме II Аранскім. Шлюб з ёй Багуслава Радзівіла мог значна падвысіць аўтарытэт яго сям'і.



**Партрэт маладой герцагіні дэ Шэўрэз у вобразе Дыяны-паляўнічай.**
Карціна Клода Дзюруэ, каля 1627 года. Постаць герцагіні вядомая не ў апошнюю чаргу праз «Трох мушкецёраў» Аляксандра Дзюма.



**Беатрыс дэ Кюзанс.** Гравюра Пітэра дэ Ёдэ паводле карціны Антоніса ван Дэйка, сярэдзіна XVII стагоддзя. Прыгажосцю гэтай жанчыны захапляліся герцагі і каралі. Сярод яе шматлікіх паклоннікаў быў і Багуслаў Радзівіл.

▶ Французская арыстакратка і выгнанніца апынулася ў Фландрыі з-за цэлага шлейфу інтрыг і няласкі французскага двара ды асабіста кардынала Рышэльё. Зрэшты, выгнанне не зменшыла яе прагі да бясконцых інтрыг.

Пра яе даверлівыя адносіны з Багуславам Радзівілам дакументальна вядома прынамсі са снежня 1645 года. Менавіта тады князь, які суправаджаў з Парыжа Людвіку Марыю Ганзага, нарачоную караля Рэчы Паспалітай Уладзіслава IV, выканаў падчас прыпынку ў Брусэлі надзвычай далікатную місію. Ад імя Людвікі Марыі ён зрабіў візіт ветлівасці да герцагіні дэ Шэўрэз, непасрэдныя кантакты з якой маглі б раззлаваць французскі двор.

Відаць, гэтыя кантакты не спыніліся і пасля, бо Радзівіл некалькі разоў наведваўся ў Брусэль і бавіў там па некалькі месяцаў аж да свайго вяртання на радзіму. Даследчыкі лічаць, што князь мог быць неяк заангажаваны ў таемныя інтрыгі Амаліі фон Сольмс-Браўнфельс, жонкі галандскага штатгальтара Фрэдэрыка Генрыка Аранскага, і герцагіні дэ Шэўрэз. Абедзве бралі актыўны ўдзел у палітыцы. У планах было разарваць антыіспанскі хаўрус Францыі і Нідэрландаў ды падштурхнуць французскіх гугенотаў да ўзброенага паўстання пры падтрымцы іспанцаў і галандцаў. Але непасрэдныя кантакты паміж жанчынамі былі немагчымыя са зразумелых прычын. Менавіта таму Багуслаў Радзівіл, што карыстаўся вялікай прыязнасцю і даверам абедзвюх, мог выступіць пасярэднікам паміж імі.

Ці звязвала князя з герцагіняй дэ Шэўрэз нешта, большае за палітыку, невядома. Дваццацігадовая розніца ва ўзросце наўрад ці магла такому паспрыяць. Зрэшты, ужо з 1646 года Брусэль вабіў Радзівіла з іншай прычыны — ягонае сэрца ўжо заняла новая прыгажуня.

## Суцешнік і сябар мадам дэ Кюзанс

Беатрыс дэ Кюзанс лічылася адной з найпрыгажэйшых жанчын свайго часу. Яе жыццё — гісторыя, адначасова поўная бляску і трагізму, вартая сцэнару захапляльнага гістарычнага серыяла. У 1634 годзе яна стала палюбоўніцай герцага Карла IV Латарынгскага. Каханне было палкім. Каб пазбегнуць скандалу, яе маці выдала дзяўчыну за прынца дэ Кантэкруа, але той памёр усяго праз два гады. Вызваліўшыся, Беатрыс пабралася шлюбам з герцагам Карлам, які ў гэты час знаходзіўся на іспанскай службе. Без сумневаў яна рушыла за ім у ваенныя выправы. Аднак Каталіцкая царква не прызнала гэтага шлюбу і нават на пэўны

час адлучыла герцага ад царквы. Рашэнне пра гэта было адменена толькі ў 1645 годзе пры ўмове, што пара расстанецца...

У 1646-м у Антверпене Беатрыс затрымалі іспанскія ўлады. За жанчыну заступіўся асабіста Багуслаў Радзівіл, які ўдзельнічаў у перамовах наконт яе вызвалення. З таго часу самотная Беатрыс жыла ў Брусэлі, дзе трымала ўласны арыстакратычны салон, сталым наведвальнікам якога стаў князь Багуслаў. Як пісаў пра Радзівіла і ягоныя адносіны з мадам дэ Кюзанс адзін з сучаснікаў: «Князь той быў прыгожы і зграбны, вельмі пачцівы і галантны... Пастаянна суправаджаў Беатрыс і стаў адначасова яе суцешнікам і сябрам». Цікавая дэталь: Беатрыс была старэйшая за Багуслава на шэсць гадоў. Зрэшты, як і многія іншыя ўплывовыя жанчыны, з якімі быў звязаны Радзівіл.

Супернікаў у князя тут было шмат, нават сярод каралеўскіх асобаў. Адным з тых, хто захапляўся прыгажосцю і розумам Беатрыс, быў прынц Уэльскі, будучы англійскі кароль Карл II Сцюарт.



**Панарама Брусэля.** Фрагмент гравюры Абрагама Стантворта, 1640 год. У 1640-х гадах Багуслаў Радзівіл быў частым госцем у Брусэлі. Тут ён завязаў кантакты з уплывовым прыдворным іспанскага намесніка эрцгерцага Леапольда Вільгельма Габсбурга — Эрнэстам Ваіслаўскім, сям'я якога паходзіла з Рэчы Паспалітай. Эрнэст Ваіслаўскі і ягоны бацька Якуб займалі пасады сакольнікаў іспанскага караля. На пярэднім плане акурат выяўлена сцэна сакалінага палявання кардынала-інфанта Фердынанда Аўстрыйскага, тагачаснага намесніка Паўднёвых Нідэрландаў.

### Нявеста для князя: у пошуках прынцэсы

Багацце і тытул рабілі Багуслава Радзівіла зайздроснай партыяй. На працягу многіх гадоў ён і ягоныя сваякі складалі матрыманіяльныя планы, аб'ектам якіх былі замежныя арыстакраткі пратэстанцкага веравызнання.

Адзін з першых такіх праектаў склаўся намаганнямі парыжскага двара ў 1644–1645 гадах. За князя сваталі Маргарыту дэ Раган, спадчынніцу гугеноцкай галіны гэтай славутай сям'і, што выводзіла радавод ад даўніх брэтонскіх герцагаў. Кандыдатаў на яе руку з французскіх прынцаў крыві і нямецкіх князёў была цэлая чарга. Аднак замест гучных тытулаў дзяўчына абрала таго, каго пакахала, — Анры Шабо, французскага двараніна нашмат больш сціплага паходжання.



**Зімовая Каралева Лізавета Сцюарт.** Гравюра Людвіга фон Зігена паводле карціны Герыта ван Хантхорста, 1643 год. Жонка пфальцкага курфюрста Фрыдрыха V, лідара нямецкіх пратэстанцкіх князёў, абранне якога каралём Чэхіі прывяло да крывавай Трыццацігадовай вайны. Паколькі ў хуткім часе сілы яе мужа пацярпелі паразу ад Габсбургаў, Лізавета і яе двор былі вымушаныя пераехаць у Гаагу пад абарону галандцаў. Пасля гэтых падзей атрымала мянушку Зімовая Каралева. У Галандыі Багуслаў Радзівіл карыстаўся яе вялікай прыхільнасцю.

У 1647 годзе кардынал (каталік, вядома) Джуліа Мазарыні, які марыў звязаць лёс Радзівіла з Францыяй, прапаноўваў яму руку «багатай спадчынніцы і добрай гугеноткі» Шарлоты дэ ля Форс, дачкі вядомага французскага маршала Жака-Нампара дэ Камона. Пагалоскі пра шлюб хадзілі ўжо нават пры каралеўскім двары Рэчы Паспалітай. Аднак хуткі ад'езд на радзіму ў 1648 годзе, дзе Радзівіл апынуўся ў самай віхуры падзей, звязаных з казацкім паўстаннем ды войнамі з Расіяй і Швецыяй, сарваў гэтыя планы.

З той жа прычыны не адбыўся і шлюб з Марыяй Генрыетай Сцюарт, дачкой караля Англіі і Шатландыі Карла I. Сама дзяўчына, праўда, прыязна паставілася да заляцанняў літоўскага князя. Як пісаў прадстаўнік яе двара на перамовах, Радзівіл быў выдатным кандыдатам: «малады шчодры прынц пратэстанцкага вызнання».

Шлюб з прадстаўніцай пануючага еўрапейскага дома мог бы ўзвесці Багуслава Радзівіла на самую вяршыню іерархіі еўрапейскай арыстакратыі. Гэта таксама азначала дынастычны саюз з пратэстанцкімі манаршымі дынастыямі Сцюартаў, ▶

Аранскіх і Гагенцолернаў. І хто ведае, можа, аднойчы гэта значна павялічыла б ягоныя шанцы быць абраным на пасад Рэчы Паспалітай...

І трэба сказаць, што сваякі і хаўруснікі Багуслава рабілі падобныя прапановы. Так, шведскі кароль Карл Х Густаў, з якім звязалі лёс біржанскія Радзівілы падчас крывавых падзей сярэдзіны XVII стагоддзя, сватаў за Багуслава сваю сястру Элеанору Кацярыну Пфальц-Цвайбрукенскую. А пазней яшчэ і сястру сваёй жонкі, Ганну Дароту Гальштэйн-Готарпскую.

Сваяк Багуслава, брандэнбургскі курфюрст Фрыдрых Вільгельм Гагенцолерн, які прызначыў яго прускім генерал-губернатарам у 1657 годзе, сватаў за Радзівіла родную сястру сваёй жонкі. Гаворка ішла пра руку Марыі Аранскай, дачкі галандскага штагальтара Фрэдэрыка Вільгельма і Амаліі фон Сольмс-Браўнфельс (пра яе згадвалі ўжо раней). У пасаг Марыя павінна была атрымаць акупаванае брандэнбургскімі войскамі графства Рэгенштайн у Нямеччыне. Гэта магло б даць Багуславу Радзівілу падставу стаць паўнавартасным князем Святой Рымскай імперыі з месцам у рэйхстагу — вялікая мара, якую меў яшчэ ягоны бацька...

Зрэшты, былі і дзясяткі іншых прапаноў, асабліва ад нямецкіх пратэстанцкіх дынастый. Аднак каханне адшукалася там, дзе ніхто яго не чакаў.

**«Усім сэрцам каханая Ганнуся»**

Пасля смерці гетмана Януша Радзівіла, ініцыятара Кейданскай уніі са Швецыяй і стрыечнага брата Багуслава, той стаў адным з апекуноў адзінай Янушавай дачкі — Ганны Марыі. Нечакана для сябе ў 1660-х гадах Багуслаў закахаўся ў сваячку. Наколькі гэта былі шчырыя пачуцці, мы можам толькі здагадвацца. У князя, натуральна, былі і карыслівыя разлікі — захаваць буйныя маёнткі князёўны ва ўласнай дынастыі. Аднак гісторыя іх кахання ўсё ж падаецца шчырай.

На шляху закаханых было нямала перашкод. Перадусім гэта фармальна каталіцкае веравызнанне Ганны Марыі, а таксама блізкае сваяцтва. Нягледзячы на пратэстанцтва яе бацькі, дзяўчынка паводле жадання

## Нечакана для сябе ў 1660-х гадах Багуслаў закахаўся ў сваячку. І паспяхова

сваёй маці Кацярыны Патоцкай была ахрышчаная ў каталіцтва. Для шлюбу патрабаваўся папскі дазвол, атрымаць які пераканананаму кальвіністу Багуславу было няпроста. Тым больш што і шматлікія польскія каталіцкія магнаты ды еўрапейскія прынцы марылі пабрацца шлюбам з багатай князёўнай. Меў тут свае інтарэсы і каралеўскі двор Рэчы Паспалітай, вакол якога пляліся шматлікія палітычныя інтрыгі.

Пра перыпетыі і іншыя цікавыя старонкі гэтай рамантычнай гісторыі нам вядома ад двух галоўных яе ўдзельнікаў — з прыватнай карэспандэнцыі Багуслава і Ганны Марыі. Лірычныя, пяшчотныя,



**Ганна Марыя Радзівіл.** Партрэт пэндзля Каспара Нетшэра, каля 1665 года. «Усім сэрцам каханая Ганнуся» — самае вялікае каханне, а неўзабаве і жонка Багуслава Радзівіла.

часам дзёрзкія і саркастычныя лісты князя гавораць нам пра сапраўдныя пачуцці: «Найсвятлейшая князёўна, мая ўсім сэрцам каханая Ганусся!.. Сардэчна сумую без Вашамосці, і здаецца, што на адлегласці маё каханне не толькі не ёсць прыдуманым, але штораз умацоўваецца. Цяпер і хвіліны ані ўночы, ані ўдзень не маю, каб не думаць аб Вашамосці...»

Урэшце закаханыя дамагліся папскага дазволу і пабраліся шлюбам 24 лістапада 1665 года на сціплай цырымоніі ў Лібаве (сучасная Ліепая ў Латвіі). Але шчасце было нядоўгім. Маладая часта хварэла. Праз два гады падчас родаў 27-гадовая Ганна Марыя памерла, пакінуўшы самотнага князя разам з іх адзінай дачкой Людвікай Каралінай, якой наканавана было стаць спадчынніцай велізарных уладанняў бацькоў. Неўзабаве, у 1669 годзе, ад сардэчнага прыступу памёр і сам Багуслаў Радзівіл. Меў тады 49 гадоў.



Малгажата Браўнэк і Лешак Тэляшынскі **ў ролі Воленькі Білевіч і Багуслава Радзівіла** з кінастужкі Ежы Гофмана «Патоп» (1974).

## Каханне Багуслава Радзівіла ў мастацтве

Асоба князя Багуслава, як і ягонага стрыечнага брата Януша, вядомая публіцы перадусім дзякуючы класічнаму раману польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча «Патоп», дзе абодва выступаюць у якасці галоўных антыгерояў. Як пісаў аўтар, «гэта вялікі ваяр і рыцар, але зусім не паляк...» Такі вобраз адно ўмацаваўся шыкоўнай экранізацыяй рэжысёра Ежы Гофмана. Багуслаў паказаны ў цалкам выдуманай гісторыі ягонага палкага жадання да Воленькі Білевіч, якую прываблівае сваім шармам і падманам. У рамане і стужцы нават згадваюцца некаторыя рэальныя прыгоды князя, у тым ліку і французскія арыстакраткі, якія разглядаліся ў якасці яго патэнцыйных нявест. Аднак пра гэты бок яго сапраўднага жыцця даведацца можна няшмат.

Справядлівасць у гэтым сэнсе ўзнаўляе выдатны раман «Багуслаў Радзівіл: нямецкі прынц з Вялікага Княства Літоўскага» цудоўнай украінскай пісьменніцы Ірыны Данеўскай, пераклад якога на беларускую мову толькі-толькі выйшаў. У сваёй працы над раманам, якая доўжылася пяць гадоў, аўтарка выкарыстоўвала шматлікія навуковыя публікацыі прафесійных гісторыкаў і першакрыніцы. Гэта дазволіла ёй максімальна далікатна спалучыць узноўленую да дробязяў біяграфію героя, праўдзівы партрэт эпохі, з духам жывых авантурных прыгод і рамантычных гісторый. А ў цэнтры рамана — Багуслаў Радзівіл і ягоныя пачуцці. ◆







**Шлюбны медаль Багуслава Радзівіла і Ганны Марыі.** Ёган Гён, каля 1665 года.

# Прагулялі дзяржаву:

## як Радзівіл траціў на феерверкі больш пораху, чым на ваенныя практыкаванні



Міхал Казімір Радзівіл Рыбанька.

**У XVIII стагоддзі магнаты Вялікага Княства трымалі ў сябе гарматы не столькі для абароны, колькі для таго, каб гучна сустракаць гасцей і весяліцца на імянінах. Піша кандыдат гістарычных навук Мікола Волкаў.**

Дзіва, але ўжо 300–400 гадоў таму салюты былі для нашых продкаў звыклай справай. Тады, як і цяпер, салют вянчаў свята, быў знакам усеагульнай весялосці, як пісаў у дзённіку адзін з Радзівілаў, Міхал Казімір Рыбанька. Далёкі ад мараў аб ваеннай славе, гетман Рыбанька імкнуўся ўсяляк падкрэсліць свой статус галоўнага вайсковага ўрадніка ў Вялікім Княстве. І тут былі ў нагодзе розныя ўрачыстасці.

Нараджэнні і хрышчэнні сыноў, дні нараджэння і імяніны галавы роду, яго дзяцей і жонкі, шлюбы і іх гадавіны, а таксама пахаванні — усё гэта адзначалі салютам. У дні нараджэння гарматы салютавалі непасрэдна ў гадзіну нараджэння і часта білі роўна 100 разоў — як пажаданне ста гадоў жыцця. Напрыклад, у гонар дня нараджэння самога Рыбанькі (13 чэрвеня) гарматы салютавалі 100 разоў роўна апоўначы, калі падчас банкету ўздымаўся тост за здароўе магната.

Гарматныя салюты суправаджалі імяніны сваякоў: Рыбанька ладзіў свята ў гонар цешчы Тэафіліі Вішнявецкай, свата Міхала Казіміра Вацлава Ржавускага. Салюты гучалі і ў гонар палітычных саюзнікаў, прыкладам караля Аўгуста III. Адданасць нясвіжскага ардыната таксама праяўлялася ў рэгулярным святкаванні дня элекцыі (выбараў) і каранацыі Аўгуста III.

Ударамі з гармат суправаджаліся ўрачыстыя працэсіі на Вялікдзень, які Рыбанька часцей за ўсё сустракаў менавіта ў Нясвіжы. Гарматы салютавалі ў час асвячэння храмаў і капліц. 26 жніўня 1754-га гучным біццём з гармат суправаджалася асвячэнне першага каменя, закладзенага ў фундамент новай капліцы ў Нясвіжскім замку.

Салютамі з гармат таксама сустракалі найбольш важных гасцей, якія наведвалі Нясвіж. У чэрвені 1755 года ў Нясвіж прыехаў малодшы брат Рыбанькі Геранім Фларыян з маладой жонкай, 24-гадовай Анэляй Мянчынскай (для 40-гадовага Радзівіла гэта быў ужо трэці шлюб, з дзвюма жонкамі ён к таму часу развёўся). Сцэнарый урачыстай сустрэчы брата склаў сам Рыбанька і апісаў у сваім дзённіку: «Чацвер. Гарматы павінны стаяць на гарадскіх валах, адны ад Слуцкай брамы ажно да кляштара бенедыктынак,

**Вялікі гетман** — так называлі кіраўніка ўзброеных сіл Вялікага Княства Літоўскага.



**Стрэл з гарматы.**
Гравюра Жака Кало. 1635 год.

**Равелін** — частка абарончых умацаванняў крэпасці, прызначаная для прыкрыцця крапасных сцен ад агню праціўніка.

другія — ад віленскай брамы да бернардзінаў. Горад з цэхамі павінен спаткаць майго брата з маёй братавай на Новым месце [раён Нясвіжа], а магістрат з кагалам — сустрэць з прамовай пад Слуцкай брамай. Як стане брат у Новым месце, павінны даць залп з шасці гармат, як будзе ў Слуцкую браму заязджаць — другі раз з шасці гармат даць агню. Адтуль паедуць у касцёл айцоў езуітаў на *Te Deum Laudamus* [хрысціянскі гімн]. Падчас *Te Deum Laudamus* па знаку, дадзеным трубачамі, дадуць агню 36 разоў. Па заканчэнні *Te Deum Laudamus* будзем ехаць у замак, і, як ужо будзем на сярэдзіне грэблі, павінны з равеліна даць агню 6 разоў з гармат. Заехаўшы ў замкавую браму, яшчэ 6 разоў таксама з равеліна дадуць.

Пятніца. Пасля абеду хрысціны князёўны Веранікі [дачкі Рыбанькі]. Па заканчэнні хрысцін з усіх гармат, пачаўшы ад замкавага равеліна, дадуць па разу агню... Пасля вячэры — баль. А 12-й гадзіне князёўна [другая жонка Рыбанькі Ганна Людвіка з Мыцельскіх] будзе піць за здароўе князя гетмана [Рыбанькі], і дадуць з усіх гармат агню бесперапынна 100 разоў.

Субота. Раніцай паедзем у касцёл на *Te Deum Laudamus*. Падчас *Te Deum Laudamus* з гармат дадуць агню 36 разоў...»

Не будзе перабольшаннем зазначыць, што на салюты і феерверкі ў Радзівіла пайшло ў некалькі разоў больш пораху, чым на ваенныя практыкаванні. На пахаванні самога Рыбанькі выкарысталі, прынамсі, 15 бочак пораху. Гучныя залпы стварালі шмат нязручнасцей мяшчанам. Падчас аднаго з першых вядомых нам салютаў у Нясвіжы ў 1617 годзе, калі Радзівілы прымалі каралевіча Уладзіслава Вазу, ад залпу з цяжкіх гармат «ледзьве вокны ў дамах цэлымі засталіся». Не дзіўна, што ў 1739 годзе Радзівілу давялося «з-за гармат» адправіць на пэўны час сваю малую дачку ў Гарадзею.◆

ФОТА МІКОЛЫ ВОЛКАВА



**Выявы гармат і ваенных трафеяў** у аздабленні Нясвіжскага замка часоў Рыбанькі.

*Барацьба за зацвярджэнне Статута 1588*

# Авантура, якая захавала самастойнасць Вялікага Княства

**28 студзеня 1588 года новаабраны кароль польскі і вялікі князь літоўскі падпісаў Статут ВКЛ. Але гэтага не адбылося б, каб напярэдадні велікакняжацкая дэлегацыя не рызыкнула ўсім. Як рабілася realpolitik на нашых землях, піша кандыдат гістарычных навук Уладзімір Падалінскі.**

1 сакавіка 1566 года ў Вялікім Княстве Літоўскім на змену Статуту 1529 года прыйшоў новы. Але амаль адразу прыйшлося ўносіць у яго карэктывы. Маштабныя рэформы дзяржаўнага ладу сярэдзіны 1560-х гадоў, Інфлянцкая вайна, стварэнне Рэчы Паспалітай імкліва змянялі тагачаснае жыццё.

Улетку 1569-га на Люблінскім сойме пад ціскам польскай шляхты была створана адмысловая камісія па рэдагаванні Статута. Зразумела, каронны бок імкнуўся да ўніфікацыі права ВКЛ і Польшчы. А для велікакняжацкай шляхты Статут быў гарантам палітычнай адасобленасці княства.

Рэдагаванне і распрацоўка новых статутных нормаў адбываліся ў асобных камісіях, на сойміках і з’ездах. У канцылярыі афармляліся

**«Не чужой, а ўласнай мовай законы пісаныя маем...»**

**Статут** — звод агульнадзяржаўных заканадаўчых актаў, асноўны закон дзяржавы. У Сярэднявеччы статутам таксама называлі дакумент, які вызначаў прававы статус саслоўяў, гарадоў або карпарацый.

**Кадыфікацыйны акт** — акт сістэмнай перапрацоўкі і звядзення да адзінства дзяржаўнага заканадаўства. У выніку кадыфікацыі ў адпаведнасці з патрэбамі жыцця ўводзяцца новыя юрыдычныя нормы і адмяняюцца састарэлыя, ліквідуюцца прабелы або супярэчнасці ў заканадаўстве. Кадыфікацыйны акт мае выключна афіцыйны характар і дастаткова складаную структуру.

**Сойм, вальны сойм** — у ВКЛ і Рэчы Паспалітай агульнадзяржаўны саслоўна-прадстаўнічы орган улады. На сойме абіралі караля і вялікага князя, прымалі заканадаўчыя акты і ўхвалялі падаткі, вырашалі пытанні вайны і міру ды знешняй палітыкі, разглядалі найважнейшыя судовыя справы.

**Каралеўскі замак на Вавелі ў Кракаве**. Сучасны выгляд.

ўсе папраўкі, а артыкулы зводзіліся ў адзін кодэкс. Асабліва актывізавалася праца над Статутам у 1579 годзе, пасля таго як канцылярыю ВКЛ узначаліў віленскі кашталян Астафей Валовіч. Ён асабіста браў удзел у распрацоўцы дакумента.

Правак назбіралася так многа, што ў выніку замест моцна адрэдагаванага Другога Статута ў 1582 годзе стварылі новы. Пры гэтым уплыў польскага боку быў зведзены да нуля.

### Палякі не хацелі, нашы не маглі

У Варшаве 4 кастрычніка 1582 года распачаліся пасяджэнні вальнага (гэта значыць, усеагульнага) сойма Рэчы Паспалітай. Менавіта на ім прадстаўнікі Вялікага Княства запрапанавалі зацвердзіць новы Статут цалкам і без абмеркавання з палякамі. Аднак на пасяджэннях ніжняй палаты сойма (пасольскай ізбы), якімі, дарэчы, кіраваў вялікі пісар Леў Сапега, польскія паслы запатрабавалі падрабязнага разгляду ўсіх зменаў. Яны небеспадстаўна баяліся, што новы Статут яшчэ больш умацуе самастойнасць Вялікага Княства ў Рэчы Паспалітай. Палякі не маглі не ведаць, што, паводле новай рэдакцыі Статута, усе пасады ў Княстве павінны надавацца не «чужаземцам і загранічнікам, ані суседам таго паньства», а толькі мясцовым «родзічам старажытным і ўраджэнцам». Гэта закрывала шлях каароннай шляхце да пасад у ВКЛ і было адназначным парушэннем умоў Люблінскай уніі 1569 года.


WIKIMEDIA COMMONS

**Астафей Валовіч**, у 1579–1587 гадах віленскі кашталян і канцлер ВКЛ.

**Новы Статут гарантаваў, што ўсе пасады ў Княстве будуць надавацца толькі мясцовым. Гэта моцна не падабалася польскай шляхце**

Натуральна, сенатары і паслы ВКЛ не пагадзіліся на падрабязны разгляд Статута. Справу адклалі. Праз два гады ў тэкст дакумента ўнеслі праўкі і зноў паспрабавалі зацвердзіць адным махам: «прынеслі свой Статут, аб якім прасілі, каб быў зацверджаны». Аднак і на гэты раз польскія паслы настойвалі на падрабязным абмеркаванні артыкулаў, а Стэфан Баторый, падобна, не хацеў зацвярджаць іх без згоды паміж шляхтай.

На сойме 1585 года Статут ізноў не быў прыняты.

Такім чынам, стала складвацца патавая сітуацыя. Велікакняжацкая шляхта мела на руках падрыхтаваны асноўны закон і імкнулася, каб яго зацвердзілі без узгаднення з палякамі. А каронная шляхта не хацела згаджацца на зацвярджэнне новага Статута ВКЛ без абмеркавання. І невядома, як бы склалася будучыня не толькі гэтага дакумента, а і ўсяго Вялікага Княства, калі б не палітычны крызіс 1587 года.


WIKIMEDIA COMMONS

**Тытульны аркуш Статута ВКЛ 1588 года.** Выдадзены ў віленскай друкарні Мамонічаў.

### Выбары, якія давялі да грамадзянскай вайны

Кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый памёр у Горадні 12 снежня 1586 года. Пасля гэтага вышэйшая ўлада перайшла ў рукі шляхты. Пачатак сойма для выбараў новага кіраўніка прызначылі на 30 чэрвеня 1587 года. ►

### Якія рэформы змянілі жыццё ВКЛ у 1560-я

У Вялікім Княстве быў уведзены новы адміністрацыйна-тэрытарыяльны падзел на паветы і ваяводствы, у паветах былі ўтвораны выбарныя шляхецкія суды, сталі працаваць павятовыя соймікі. Уся шляхта, незалежна ад свайго статусу, магла карыстацца шырокімі палітычнымі правамі. Найвышэйшым органам дзяржаўнай улады стаў вальны сойм, а паветы — цэнтрамі палітычнага, судовага, адміністрацыйнага і ваеннага жыцця.





**Стэфан Баторый**, кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1576–1586 гады).




**Эрцгерцаг Максімільян** з дынастыі Габсбургаў (1558–1618).

Галоўнымі кандыдатамі былі сын шведскага караля Жыгімонт, брат імператара Святой Рымскай імперыі эрцгерцаг Максімільян і расійскі цар Фёдар, сын Івана Жахлівага.

Сойм, аднак, праблемы не вырашыў. Ён доўжыўся два месяцы і завяршыўся расколам. Шляхта абрала адразу двух каралёў — шведскага каралевіча Жыгімонта Вазу і эрцгерцага Максімільяна Габсбурга. Так у Рэчы Паспалітай пачалася грамадзянская вайна.

У пачатку кастрычніка Максімільян са сваім войскам уступіў на польскія землі і рушыў на Кракаў. Праўда, узяць горад ён не здолеў. Пайшоў на Польшчу і Жыгімонт.

Дэлегацыя ВКЛ афіцыйна не прызнала ніводнага з кандыдатаў, хоць паступова раздзялілася на дзве партыі. Аднак і адны, і другія адназначна настойвалі на зацвярджэнні Статута будучым вялікім князем.

### Угаворы Жыгімонта

Жыгімонт Ваза агітаваў сярод шляхты, яго прадстаўнікі сустракаліся са шляхецкімі лідарамі з розных рэгіёнаў Рэчы Паспалітай. Шэраг яго ваенных перамог і, нарэшце, паходжанне (маці Жыгімонта Вазы Кацярына была дачкой Жыгімонта Старога і сястрой Жыгімонта Аўгуста) абумовілі пераход на ягоны бок большай колькасці шляхты Рэчы Паспалітай. Каранацыйны сойм прызначылі на 10 снежня 1587 года. У ВКЛ прыхільнікі шведскага каралевіча гуртаваліся вакол віленскага кашталяна і канцлера Астафея Валовіча. Валовіч накіроўваўся на каранацыю асабіста, але ў лістападзе 1587 памёр. Можна толькі здагадвацца, як развіваліся б падзеі, калі б велікакняжацкую дэлегацыю ў Кракаве ўзначаліў чалавек, які так шмат зрабіў для падрыхтоўкі новых законаў ВКЛ...

Каранацыя Жыгімонта Вазы адбылася 27 снежня 1587-га года. А ў канцы снежня з Берасця ў Кракаў выехала афіцыйная дэлегацыя Вялікага Княства Літоўскага на чале з троцкім ваяводам Янам Глябовічам і падканцлерам Львом Сапегам. Абодва, дарэчы, былі паслядоўнымі прыхільнікамі шведскай кандыдатуры. Узамен на сваю падтрымку шляхта патрабавала доўгатэрміновага міру з Расіяй, далучэння ўсіх Інфлянтаў, гэта значыць цяперашняй Латвіі, да ВКЛ, а таксама зацвярджэння Статута.

Прадстаўнікі Вялікага Княства прыбылі ў Кракаў 8 студзеня 1588 года. У той час дарога з Берасця да Кракава, пры сярэдняй хуткасці ў 35–40 км на дзень, займала прыкладна 11–14 дзён. Зразумела, на хуткасць падарожжа значна ўплывалі ўмовы надвор'я, якасць дарог і пераправаў, месцы начлегу, наяўнасць харчавання для людзей і коней. Калі дапусціць, што дэлегацыя ВКЛ вырушыла з Берасця 24 або 25 снежня 1587 года, то да Кракава яна даехала якраз праз два тыдні. 11 студзеня шляхта прывітала Жыгімонта Вазу, а 14-га распачала перамовы з каралём і польскім бокам.

### The winner takes it all

Дасягнуць сваіх умоў велікакняжацкай дэлегацыі было цяжка. Мір з Масквой супярэчыў

інтарэсам Жыгімонтавага бацькі Юхана III, які не хацеў заставацца без падтрымкі ў барацьбе з Расіяй. Польскія сенатары і земскія паслы настойвалі на ператварэнні Інфлянтаў у сумеснае ўладанне Кароны і Вялікага Княства. Тым больш не жадалі яны прыняцця новага Статута ВКЛ, бо бачылі ў ягоных артыкулах парушэнне ўмоў Люблінскай уніі.

Праз два тыдні бясплённых перамоў прадстаўнікі ВКЛ наважыліся на рызыкоўны крок. Яны прыгразілі, што не прызнаюць каранацыі Жыгімонта Вазы і пакінуць Кракаў, калі кароль не прыме іхніх умоў.

Разлік быў зразумелы. Жыгімонт усё яшчэ быў у хісткім становішчы: яго ўжо каранавалі як караля Польшчы, але вялікім князем літоўскім афіцыйна яшчэ не прызналі. Эрцгерцаг Максімільян тым часам не спыняў вайну за ўладу ў Рэчы Паспалітай. І пераход шляхты ВКЛ на бок Габсбурга мог стаць катастрофай для Вазы і ягоных польскіх прыхільнікаў.

Праўда, калі б Максімільян прайграў, такі дэманстратыўны ад'езд з Кракава даўся б у знакі палітычнай эліце Вялікага Княства. Дастаткова ўзгадаць, чым абярнуўся падобны дэмарш на Люблінскім сойме 1569 года. Тады дэлегацыя ВКЛ, не згодная з умовамі уніі, у ноч на 1 сакавіка пакінула горад, не папярэдзіўшы пра гэта караля і вялікага князя. У выніку Вялікае Княства Літоўскае страціла Падляшша і Украіну, якія Жыгімонт перадаў Польшчы, ды вымушана было прыняць усе ўмовы.

Але на гэты раз удача літвінам усміхнулася. Новы манарх ды палякі вымушаныя былі пайсці на саступкі. Позна ўвечары, а 22-й гадзіне, 27 студзеня 1588 года Жыгімонт Ваза прысягнуў на захаванне правоў і вольнасцяў ВКЛ, а таксама паабяцаў зацвердзіць Статут і мір з Расіяй. Адразу пасля гэтага Ян Глябовіч ад імя Вялікага Княства прызнаў Жыгімонта Вазу каралём польскім і вялікім князем літоўскім. А Леў Сапега афіцыйна абвясціў Жыгімонта вялікім князем. Прысутныя ў Кракаве радныя паны — найвышэйшыя ўрадоўцы — прынеслі новаму манарху прысягу. Тое ж, укленчыўшы, зрабілі і прадстаўнікі шляхты.

Праўда, на кампраміс прыйшлося пайсці і дэлегацыі Вялікага Княства: пытанне аб прыналежнасці Інфлянтаў было адкладзена да наступнага вальнага сойма.

### Усё вырашылі гадзіны

Дэмарш велікакняжацкай дэлегацыі быў, як аказалася, вельмі своечасовым. У крытычных умовах польскім паслам і сенатарам прыйшлося згадзіцца на зацвярджэнне новага Статута ВКЛ. І ўжо праз некалькі гадзін яны аб гэтым горка пашкадавалі. Бо літаральна адразу ж пасля прысягі ў Кракаў прыйшлі весткі аб перамозе польскага войска над войскамі Максімільяна. Эрцгерцага нават узялі ў палон! Вырашальная бітва пад Бычынай адбылася яшчэ 24 студзеня, але звесткі пра яе дайшлі да Кракава ажно праз тры дні!

**Жыгімонт Ваза прысягнуў на захаванне правоў і вольнасцяў ВКЛ. Адразу пасля гэтага Леў Сапега афіцыйна абвясціў Жыгімонта вялікім князем**

Навіна адразу выявіла сапраўдную пазіцыю польскіх сенатараў і паслоў. Некаторыя з іх так і заяўлялі, што не дапусцілі б зацвярджэння Статута, калі б даведаліся аб паражэнні Максімільяна раней. Палякі нават падазравалі, што пры гетмане Яне Замойскім знаходзіўся агент велікакняскай дэлегацыі, які апярэдзіў ганца з афіцыйным паведамленнем. «І таму прыціснулі караля, каб менавіта ў той дзень прынёс тую прысягу».

Так Вялікае Княства Літоўскае атрымала свой новы асноўны закон, які моцна паўплываў на фарміраванне менталітэту беларусаў і нават перажыў дзяржаву, у якой быў створаны. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі Статут дзейнічаў на тэрыторыі Віцебскай і Магілёўскай губерняў да 1831 года, а ў Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губернях — да 1840-га. І нават у той час ён быў сімвалам незалежнасці нашай зямлі. Улады скасавалі яго ў адказ на антырасійскае паўстанне 1830–1831 гадоў. ◆

Шырока распаўсюджанае меркаванне, што Леў Сапега быў адным з галоўных стваральнікаў Статута ВКЛ 1588 года, — міф, створаны яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя. Няма ніякіх сведчанняў, што Сапега браў асабісты ўдзел у распрацоўцы статутных нормаў. Аднак яго вялікая заслуга — фінансаванне выдання Трэцяга Статута і бліскучая прадмова ў выглядзе зваротаў да Жыгімонта Вазы і саслоўяў Вялікага Княства Літоўскага.




**Леў Сапега**, у 1585–1589 гадах падканцлер ВКЛ.



**Уязная вежа замка Любарта.** Аўтобус Мінск-Львоў, адзіны прамы транспарт са сталіцы Беларусі ў Луцк, прыбывае а 4-й ранку.

# Валынь: зусім іншы край на мяжы з Беларуссю

**Пра Валынь расказвае гісторык з Луцка Аляксандр Котыс.**

Пераязджаеш мяжу — і адразу рэзкі кантраст з Беларуссю: тут усё па-ўкраінску, на нацыянальнай мове. Другі кантраст — тут усё істотна дзешавей, чым у Беларусі.

Але Валынь таксама — гэта іншыя пейзажы, інакшая архітэктура. Тут ёсць нізка раскошных, вельмі чыстых азёр, ёсць архітэктурная спадчына Рэчы Паспалітай, а яшчэ каларытныя, поўныя жыцця цэрквы і манастыры — валыняне вельмі рэлігійныя.

Галоўная разынка Луцка — замак Любарта. Літоўскі князь з роду Гедымінавічаў, які ў перыпетыях гісторыі атрымаў Луцкае княства і кіраваў тут доўгія гады, запомніўся луччанам менавіта таму, што пачаў перабудоўваць драўляны замак у мураваны...

А каб прыслухацца да гэтай цэглы, трэба абавязкова прайсціся сцежкай пад сцяной замка. Там не ходзяць турысты — і тым лепшай будзе магчымасць дакрануцца да гісторыі ў адзіноце. І знайсці некалькі сотняў суразмоўцаў. *August*, *Karol*, Нестар, *Paulina*, Вольга, *Jakub*, *Rudolf*, *Ludwik*, Андрэй... Векавыя аўтографы на сценах замка маюць не толькі імёны, але і даты. Можна знайсці запісы самае ранняе ад 1602 года. Такім чынам, 400 гадоў розныя людзі

**Свая Свіцязь, замак і кавярні Луцка, спадчына Радзівілаў у Алыцы і Пачаеўская лаўра**

## Базар у Луцку

нічым не адрозніваецца ад іншых звыклых кірмашоў, акрамя таго, што знаходзіцца пад самым замкам Любарта!




Фрагмент замкавай сцяны **са старымі аўтографамі.**

прыходзілі да ўмацавання, каб захаваць сваё імя. Такі своеасаблівы культурны вандалізм. Сярод сотняў надпісаў ёсць і ўнікальная цаглінка. На ёй пакінула аўтограф сястра пісьменніцы Лесі Украінкі. Там так і напісана: «Ольга Косач 1891».

Як ні дзіўна, луччане замак Любарта шануюць не столькі за Любарта, а перадусім за Вітаўта. Вялікі князь літоўскі эканамічна і палітычна ўмацаваў валынскія землі, а ў 1429 годзе склікаў у Луцк еўрапейскіх манархаў, каб параіцца аб стварэнні новага каралеўства — Літоўскага. Пазней Ян Длугаш напіша, што ў горад з'ехалася 15 000 гасцей. Сярод іх — будучы імператар Святой Рымскай імперыі, кароль рымскі, чэшскі, венгерскі Жыгімонт I Люксембург з жонкай Барбарай, дацкі і шведскі кароль Эрык Памеранскі, вышэйшае кіраўніцтва Лівонскага і Тэўтонскага ордэнаў, пасланцы Папы Рымскага, Візантыйскай імперыі, цэлага шэрагу рускіх княстваў і, вядома, Ягайла.

700 бочак мёду, віна, мальвазіі і іншых напояў, 700 валоў, 1400 бараноў, сотні ласёў, дзікоў, а таксама іншыя стравы, якія спажываюцца штодня, не дапамаглі Вітаўту каранавацца. Мары пра самастойнае каралеўства сышлі разам з ім у нябыт. Слава пра тую падзею мае значэнне да гэтага часу. Луцк — украінскі горад, які з-за падзей з'езда і фігуры самога Вітаўта (які шмат часу тут жыў) найлепш увасабляе перыяд ВКЛ у гісторыі Украіны. «Карона Вітаўта» — назва рэстарана каля ўвахода ў замак — яшчэ адно сведчанне.

Замак у Луцку можа пахваліцца тым, што ва Уладычай вежы знаходзіцца адзіны ва Украіне музей званоў. Тут сабрана невялікая калекцыя з амаль 100 прадметаў, найстарэйшыя — сярэдзіны XVII стагоддзя. Адзін са званоў нават памятае часы Багдана Хмяльніцкага.



### Самы доўгі дом у свеце

Легендарным для Луцка, а цяпер і яго ганаровым жыхаром з'яўляецца скульптар Мікалай Галавань, які стварыў самабытны архітэктурны ансамбль на беразе ракі Стыр. Свой двор ён пачаў будаваць у 1980 годзе разам з сынамі. За амаль 40 гадоў стварыў шмат скульптур, якімі ўпрыгожыў двор і сядзібу. «Хімеры» — так часам завуць яго творы, але сам скульптар крыўдзіцца. «Якія ж гэта хімеры, гэта ўсё фігуры з рэальнага свету», — пярэчыў ён не раз.

Сюды завітвае кожная экскурсія, дом Галаваня з'яўляецца ў любым турыстычным буклеце. У 1990-я скульптар выкарыстоўваў у якасці матэрыялу помнікі з ліквідаваных каталіцкіх могілак. Гэта зрабіла яму неадназначную славу. ▶



**Замак у Луцку.**
Напалеон Орда, 1870-я.
Уверсе — **«Вітаўт Вялікі на кангрэсе ў Луцку».** Ёнас Мацкявічус, 1934.

### Кавярні Луцка

«Залаты дукат» знаходзіцца ў доме, які падземным ходам злучаны з суседнім банкам. У тых скляпеннях і зробленая зала. Да падбору розных гатункаў кавы тут ставяцца ўважліва. Параяць яе на любы густ і абсмажаць проста пры вас. Піражныя тут пякуць па архіўных рэцэптах. Нумар першы — разалінкі, названыя па імені вядомага луцкага кандытара міжваеннага часу Цэзара Разаліні. Рэцэпт — пад сакрэтам.

▶ Хоць перад тым гісторыя ўжо паздзекавалася з тых помнікаў, параскідаўшы іх, як раней яўрэйскія надмагіллі-мацэвы, па балотах і тратуарах.

У 1970-х у Луцку пабудавалі дом, які прэтэндуе называцца самым доўгім у свеце. Ён расцягнуўся ўздоўж двух праспектаў — Саборнасці і Моладзі. Складаецца з 40 рознавысокіх будынкаў, мае 120 пад'ездаў. Яго агульная даўжыня — амаль 2 км. Акрамя таго, ён мае цікавую структуру ў плане, бо складаецца з незавершаных шасцікутнікаў. Такі праект быў наватарскім, у Луцку яго ўвасобілі ўпершыню ў СССР. Працавалі над праектам мясцовыя архітэктары — Васіль Малавіца і Расціслаў Мецяльніцкі. Гэта сапраўдная славутасць эпохі 1970-х з яе размахам.

ФОТА АЛЯКСАНДРА КОТЫСА



Скульптуры **на доме Галаваня.**

Такі падыход быў уласцівы для позняй стадыі савецкага мадэрнізму. А вось сам стыль мадэрнізм у Луцку склаўся ў канцы 1920-х, калі горад быў у складзе Польшчы. Тут працаваў цэлы шэраг архітэктараў, выпускнікоў Львоўскай і Варшаўскай палітэхнікі. Яны прынеслі ў горад свежыя ідэі папулярнага тады руху *Bauhaus* і ўвесь горад забудавалі функцыяналісцкімі дамамі. Многія будынкі дажылі да нашага часу і цяпер складаюць важкую частку архітэктурнай спадчыны горада. Банкі, кінатэатры, шматкватэрныя дамы, жылыя катэджы ўвасабляюць розныя кірункі еўрапейскага мадэрнізму. Аматарам гэтага кірунку будзе што паглядзець у Луцку.

Тут захавалася каля 200 мадэрнісцкіх будынкаў: прыблізна 130 даваенных, польскага часу, і 70 пасляваенных, савецкіх.

### Па трылінцы — да Радзівілаў

Эпоха мадэрнізму і геаметрычных фігур дала яшчэ адну разыначку — трылінку. Шасцікутную (радзей квадратную) каменна-бетонную плітку для брукавання дарог прыдумаў польскі інжынер Уладзіслаў Трылінскі. У 1930-х ён атрымаў патэнт і стаў прадаваць дазвол на выраб такіх плітак. У Луцку да гэтага часу можна пабачыць трылінку на цэнтральных вуліцах. Яна зарэкамендавала сябе вельмі добра. Зразумела, што скарыстацца навінкай захацеў і апошні ардынат Алыкі Януш Францішак Радзівіл. Маляўнічая дарога, якая ў наш час вядзе ад трасы Луцк – Роўна ў Алыку, уся выслана трылінкай. Сёння гэтая дарога паабапал зарасла дрэвамі, якія ўтварылі жывы тунэль. Асабліва рамантычна тут ехаць

**Унікум савецкай архітэктуры: у Луцку знаходзіцца самы доўгі дом у свеце — 120 пад'ездаў, 2 кіламетры ўдоўжкі**




**Самы доўгі дом** у свеце.

### Што прывезці

У цёплы час года на цэнтральнай пешаходнай вуліцы Луцка, якая носіць імя Лесі Украінкі, ладзяць «Мастацкую вуліцу», дзе народныя майстры прадаюць свой тавар. Гэта кераміка, а таксама вырабы з дрэва. Ёсць у Луцку і адна антыкварная крама.

ФОТА АЛЯКСАНДРА КОТЫСА



**Маляўнічая дарога ў радзівілаўскую Алыку ўся выслана трылінкай**

надвячоркам, калі апошнія прамяні сонца прабіваюцца паміж галін.

Алыка — нешта асаблівае на турыстычнай карце Валыні. Гарадок з асаблівым статусам, які нават у часы Расійскай імперыі доўга захоўваў свае даўнія традыцыі самакіравання, належаў знакамітаму роду Радзівілаў. Невялікае мястэчка знаходзілася пад іх пратэктаратам, тут быў свой рынак з ратушай, некалькі касцёлаў і цэркваў, сінагога, замак. Гэта яшчэ адно месца, якое цесна звязвае Валынь з гісторыяй Рэчы Паспалітай.

Алыцкі палац, як і нямала магнацкіх рэзідэнцый на Валыні, быў пабудаваны на месцы магутных старых замкавых фартыфікацый. У XVIII стагоддзі яму дадалі модных тады познебарочных рыс. Усё найлепшае, уласцівае высакародным рэзідэнцыям, было ў Алыцы, і нават больш. Калекцыя жывапісу (яна склала аснову збору Луцкага мастацкага музея), дарагі срэбны посуд, вытанчаная мэбля, пышныя інтэр'еры. Паляўнічая, партрэтная, кітайская, бальная, каляровая залы, мармуровыя каміны, насценныя гербы з алебастру, калекцыя кафлі і фарфору, насценныя роспісы, бібліятэка і архіў — у апісанні палацавых прывабаў можна згубіцца.

Старшыня Дырэкторыі Украінскай Народнай Рэспублікі Уладзімір Вінніčэнка амаль 100 гадоў таму сказаў, што гісторыю Украіны немагчыма чытаць без брому. Можна дадаць: а гісторыю XX стагоддзя — без анестэзіі. У часы Другой сусветнай салдаты для абагрэву памяшкання выкарыстоўвалі бібліятэчныя фонды. У 1950-х гадах у разбураным і падпаленым алыцкім палацы размясцілі псіхіятрычную бальніцу. Тут яна дзейнічае і ў наш час...

Побач з замкам стаіць шыкоўны калегіяльны касцёл XVII стагоддзя (у 1683-м пры касцёле адкрылі калегіум — навучальную ўстанову, філіял Замойскай акадэміі). Яму выпала лепшая доля. Хоць і быў у свой час моцна разрабаваны, цяпер ён атрымаў мільённыя польскія інвестыцыі на рэстаўрацыю. Аднаўленчыя работы выходзяць на фінальныя стадыі.

Алыка не адна такая на Валыні. Захаваліся палацы ў Самчыках, Антанінах, Вялікіх Мяжырычах, Млынаве, Лукаве,

**У Луцку захаваліся**

абаронча сінагога XVI стагоддзя, неагатычная лютэранская кірха, што працуе дагэтуль. Можна дакрануцца да муроў армянскай царквы XV стагоддзя — у савецкі час, праўда, яна была пераўтворана ў жылы дом — і прайсціся па вуліцы Караімскай. Каля замка стаіць барочны езуіцкі касцёл XVII стагоддзя — па выхадных некалькі разоў на дзень у падвалы касцёла водзяць экскурсіі. Найстаражытнейшая праваслаўная царква Іаана Багаслова XII стагоддзя знаходзіцца ў замку, у яе можна трапіць па спецыяльным білеце. Ад царквы захаваліся сцены, рэшткі магутных калон, некалькі каменных надгробкаў (тут хавалі сярэднявечных князёў і знатных рыцараў), а таксама неймаверныя яркія фрэскі, якія не страцілі колеру з часоў Вітаўта.

ФОТА АЛЯКСАНДРА КОТЫСА



**Калегіяльны касцёл** XVII стагоддзя ў Алыцы.


ФОТА АЛЯКСАНДРА КОТЫСА

Унутраны двор **Алыцкага палаца.**

а галоўнае — Вішняўцы — яны пацешаць заядлых падарожнікаў. Маляўнічыя руіны можна пабачыць у Навамаліне, Заславе, Карцы. Польскі гісторык Раман Афтаназы падлічыў, што ўсяго на тэрыторыі Валыні было прыкладна 170 розных палацаў.

Землі Валыні — вельмі ўрадлівыя, таму яна была багатай ад часоў Сярэднявечча.

### Мандарын або лімон

За некалькі кіламетраў ад сталіцы Валыні ёсць сяло Крупа. Яно б і надалей заставалася невядомым, калі б не адзін факт, які навекі ўпісаў сяло ў сусветную гісторыю навукі. На адным з узгоркаў размешчаны аб'ект, які ўваходзіць у пералік сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Калі падысці бліжэй, на таблічцы можна прачытаць надпіс «Геадэзічная дуга Струвэ».

Што гэта такое і для чаго? Карані пытання сыходзяць ажно ў XV стагоддзе, калі мараплаўцы, спрабуючы адкрыць новыя кантыненты, не маглі вырашыць праблем арыентавання на моры. Перашкодаю была праблема даўгот. Гэта адна з каардынат, якая разам з шыратой дазваляе вызначыць дакладнае месцазнаходжанне на карце. Сёння ў нашым уяўленні гэта элементаршчына, а доўгія гады матэматыкі і астраномы еўрапейскіх краін выводзілі розныя метады вырашэння праблемы даўгот. У XVIII стагоддзі гэта перарасло ў спрэчку паміж англічанамі і французамі пра форму Зямлі. Англічане (ньютаніянцы, прыхільнікі тэорыі Ісаака Ньютана) сцвярджалі, што Зямля сплясканая на полюсах, а французы (картэзіянцы, паслядоўнікі тэорыі Дэкарта) казалі, што Зямля выцягнутая да полюсаў.

Жыццялюб з мастацкім светапоглядам Вальтэр неяк напісаў, што гэта спрэчка паміж мандарынам і лімонам (якія нагадваюць сплясканы і выцягнуты да полюсаў шар).



**Крупаўскія вышыні.** На заднім плане — Луцк.

### Пачаеўская лаўра

На Валыні існуе некалькі важных для праваслаўя святынь.
Першая — Зімненскі манастыр недалёка ад Уладзіміра-Валынскага. Манастыр заклаў Уладзімір Вялікі ў 993 годзе. Царкоўны комплекс акружаны замкавымі сценамі, падобнымі да замка Любарта.
Другая — познебарочная царква ў вёсцы Паддубцы за 12 км ад Луцка. Будавалася вядомым архітэктарам-езуітам Паўлам Гіжыцкім. Спачатку была грэка-каталіцкая, а ў XIX стагоддзі стала праваслаўнай. Царква вельмі добра бачная справа ад трасы Луцк — Роўна.
Трэцяя — Пачаеўская лаўра. На адной з цэркваў захоўваецца арыгінальная мазаіка Мікалая Рэрыха, а выбітная архітэктурная жамчужына — Успенскі сабор канца XVIII стагоддзя аўтарства сілезскага архітэктара Якуба Гофмана. Цяпер лаўра належыць Рускай праваслаўнай царкве. Пасля ўтварэння адзінай аўтакефальнай Украінскай праваслаўнай царквы яна, напэўна, пяройдзе да яе.

Самы грандыёзны эксперымент, які вырашыў і шраг спадарожных пытанняў, правёў у пачатку XIX стагоддзя астраном з Дэрпцкага ўніверсітэта (цяпер Тарту ў Эстоніі) Фрыдрых Вільгельм Струвэ. У 1820–1830-х гадах ён разам з калегамі зрабіў серыю вопытаў, каб дакладна вымераць зямны мерыдыян і вырашыць пытанне паміж «мандарынам і лімонам». Кожнае вымярэнне адбывалася ў пэўным пункце і складалася з геадэзічнай і астранамічнай частак. Пачынаючы ад Баранцава мора да Чорнага праз усю Еўропу даследчыкі праклалі больш за 250 трыянгуляцыйных пунктаў. На тэрыторыі сучаснай Беларусі такіх пунктаў было 31, на тэрыторыі Украіны — 63. Адзін з іх у Крупе ля Луцка. Там усталявалі сімвалічны знак.

Дуга Струвэ і падобныя эксперыменты паказалі праўдзівасць тэарэтычных разлікаў Ньютана. Хоць са з'яўленнем звышдакладных спосабаў вымярэння ў XX стагоддзі навукоўцы пераканаліся, што Зямля мае ўнікальную форму, якую назвалі геоідам. А гэта візуальна нешта сярэдняе паміж мандарынам і лімонам. Шах і мат табе, Вальтэр!



**Тунэль каханні ў Клевані.** Аўтар невядомы, крыніцу ўсталяваць немагчыма — у інтэрнэце ўсюды.



ФОТА АЛЯКСАНДРА КОТЫСА

### Тунэль кахання

Толькі некалькі гадоў таму сюды сталі з'язджацца турысты. Што ні дзень, то больш. На трасе з Луцка ў Роўна размясціўся яшчэ адзін мілы гістарычны гарадок Клевань, уласнасць аднаго з былых валынскіх шляхетных родаў. Непадалёк ужо знакаміты «тунэль кахання».

Гэта вузкакалейная чыгунка, якая праходзіць паміж кустоў, што буйна разрасліся вакол яе. І выгляд гэтага месца настолькі чароўны, што кожны вяртаецца адсюль у захапленні і з цэлай кучай фота і сэлфі. І сапраўды, гэта больш падобна да казкі, да маляўнічага твора фантазіі. Тры разы на суткі па тунэлі кахання праязджае цягнік — фантастыка!

Бі-бі-сі тут здымала сюжэт, японцы — рэкламу, а кітайцы пайшлі яшчэ далей. У 2017 годзе ў горадзе Хэфэй на ўсходзе краіны адкрылі свой падобны тунэль і запрасілі на ўрачыстасць украінцаў.

### Луцк – Млынаў – Дубна – Крамянец – Пачаеў

адзін з самых цікавых маршрутаў з Луцка на поўдзень. Калі хочацца даехаць да Львова, то гэты маршрут варта працягнуць так: Пачаеў – Падгорыца – Алэська – Львоў. На гэтым шляху — жывапісныя пейзажы Крамянеччыны, гістарычныя палацы і старажытныя замкі, духоўныя святыні. У кожным пункце варта спыніцца, асабліва ў Крамянцы, гэтых «Валынскіх Афінах», дзе нарадзіўся польскі пісьменнік Юліюш Славацкі і дзе з гары Боны (названай у гонар славутай каралевы) адкрываецца фантастычны від на горад і езуіцкі калегіум. Гара ў Крамянцы такая крутая, што ён стаў адзіным горадам Русі, які не ўдалося ўзяць Батыю.

### Вялізныя крыштальна чыстыя азёры

Пончыкі! Вось чым славіцца Шацк, гарадок сярод Шацкіх азёр, галоўнае з якіх называецца Свіцязь (не блытаць з беларускай Свіцяззю пад Навагрудкам). Пончыкі з макам, вішнямі, чарніцамі, абрыкосамі, слівамі, яблыкамі. Пасыпаныя пудрай і непасыпаныя. Абсмажаныя ў алеі і без алею. Пончыкі дражджавыя і з іншага цеста. Круглыя, авальныя, дызайнерскія. Да малака, да чаю, да кавы, усухую. ▶

▶ Калі турыст не еў пончыкаў на Шацкіх азёрах, ён там не быў. А прыгажосць мясцовай прыроды, баравое паветра — добры дадатак.
Група азёр з вельмі чыстай вадой адносіцца да Шацкага нацыянальнага прыроднага парку. За савецкім часам тут існавалі шыкоўныя курортныя базы і санаторыі, некаторыя яшчэ засталіся, напрыклад на возеры Пясочным. Пункт №1 Шацкіх


ФОТА АЛЯКСАНДРА КОТЫСА

Вечар **на Свіцязі.**



## Шацкія азёры — гэта не толькі вада, гэта пончыкі, пончыкі, пончыкі

азёр — Свіцязь, размешчаная за 17 км ад беларускай мяжы.
Прырода тут цудоўная, а цывілізацыя не паспела сюды прыйсці масава. Да прыкладу, яшчэ можна знайсці дзікія пляжы.
Самае глыбокае возера ва Украіне (58 м) мае цікавую асаблівасць — ля берагавой лініі неглыбока. Таму вада там летам праграваецца вельмі добра, камфортная для дзяцей. Цікавая рыба, якая тут водзіцца, — вугор.
А яшчэ на Палессі захаваліся амаль дзікія месцы, якія за мінулае стагоддзе ніяк не змяніліся. Аддзеленыя ад астатняга свету, яны захавалі старажытны традыцыйны ўклад. Напрыклад, сяло Сваловічы, дзе амаль ніхто не жыве, на самай мяжы з Беларуссю. Нядаўна туды сталі арганізоўваць фотатуры. Выглядае ўсё быццам музей пад адкрытым небам — чыстая аўтэнтыка.
Падарожжа з Беларусі на Валынь найлепш пачаць ад самай мяжы — Шацкіх азёр і Сваловічаў. Рухаючыся далей на поўдзень, падарожнік праедзе тым жа маршрутам, якім 200 гадоў таму ехаў польскі пісьменнік Юзаф Крашэўскі. Яго «Успаміны з Палесся, Валыні і Літвы», выдадзеныя ў 1840 годзе ў Парыжы, часам нагадваюць апісанне сённяшніх валынскіх сцежак. Сустракаючы ўвесь час цікавыя мясцовыя тыпы, падарожнік у канцы дабіраецца да Луцка, Роўна, Алыкі, Крамянца, Вішняўца, дзе гарады расцвітаюць гісторыяй. ◆


ФОТААЛЬБОМ «ВАЛЫНЬ», 1971.

**Лоўля вугроў** на Свіцязі ў 1970-я.

### Музей Лесі Украінкі

**ў Калодзяжным** працуе з серады на нядзелю. Ён абыгрывае аўтэнтычны асяродак канца XIX стагоддзя і паказвае, у якіх умовах тварыла класік украінскай літаратуры (ва Украіне яе шануюць нароўні з Тарасам Шаўчэнкам і Іванам Франко). Многія прадметы побыту, асабістыя рэчы можна знайсці ў дзвюх хатках музея. Трэці дамок прызначаны для літаратурнага натхнення. Ён прысвечаны самой творчасці Лесі Украінкі. З аўтэнтыкі захаваўся флігель — «Белы дамок», у якім жылі і займаліся трое старэйшых дзяцей сям'і Косачаў: Міхайла, Вольга і Леся. Але Міхайла і Вольга вучыліся і прыязджалі толькі на канікулы, таму ў сям'і за будыначкам замацавалася назва «Лесін белы». На даху дамка — спецыяльнае месца для сонечных ваннаў, тут Леся лячыла свае сухоты, абсыпаючы хворыя косткі гарачым пяском.

# Славутая беларуская кава і хто яе піў




**Традыцыя спажывання кавы на Беларусі налічвае амаль тры стагоддзі. Хто адкрыў у нас першую кавярню і як віленскім студэнтам забаранялі піць каву (а тыя ўсё адно пілі), піша доктар гісторыі Алесь Белы.**




Сярод мноства ініцыятыў **Антонія Тызенгаўза** было і стварэнне кафенгаўза — прататыпа сучасных кавярняў.

**Горадня — сталіца беларускай кавы**

Сярод мноства ініцыятыў падскарбія ВКЛ Антонія Тызенгаўза па развіцці Гарадзенскай эканоміі было і стварэнне першага з вядомых на тэрыторыі нашай краіны кафенгаўза — прататыпа сучасных кавярняў. Першы кафенгаўз, як высветліла нядаўна гісторык Наталля Сліж, узнік у пачатку 1770-х. Ён стаяў акурат на тым месцы, дзе цяпер месціцца галоўны корпус Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

Варта было б некалі ўрачыста адзначыць 250-годдзе айчыннай кававай традыцыі: мемарыяльнай табліцай, адкрыццём кавярні — прадаўжальніцы традыцыі і шэрагам іншых мерапрыемстваў, якія б зацвердзілі статус Горадні як кававай сталіцы Беларусі, якой для Украіны, напрыклад, з'яўляецца Львоў. Бо падстаў для гэтага і ў гісторыі, і ў сучаснасці шмат. У апошнія гады ў горадзе над Нёманам з'явілася многа добрых кавярняў, некаторыя з якіх можна назваць піянерскімі ў маштабах краіны. У аб'ёме і разнастайнасці спосабаў спажывання кавы Горадня таксама агульнабеларускі лідар. Бракуе толькі сур'ёзных салідарных высілкаў, якія могуць з цягам часу даць з гэтага гораду сур'ёзныя турыстычныя дывідэнды.

Пра часы, калі паўстаў тызенгаўзаўскі кафенгаўз, добра напісаў мемуарыст XVIII стагоддзя, ксёндз Енджэй Кітовіч у «Апісанні звычаяў у часы панавання Аўгуста III»: «Кава ад людзей заможных перайшла нарэшце да ўсяго грамадства; паўсталі ў гарадах кафенгаўзы; шаўцы, краўцы, гандляры, гандляркі, насільшчыкі і апошняя навалач звярнуліся да кавы. У той час яна ўжо не была дарагой: за шэсць медных грошаў можна было атрымаць філіжанку кавы з малаком і цукрам. Але ж такая была і кава: адна частка кавы дзеля водару, чатыры часткі пражанай пшаніцы, трохі цукровай пудры, лыжка ▸

Вось гэты **сціплы гліняны кубак з надпісам «Божа, дай»** належаў асабіста Касцюшку.

**«Кава стала кепскай звычкай, як гарэлка альбо тытунь. Могуць жыць без хлеба, але не без кавы»**




Першы кафенгаўз стаяў акурат на тым месцы, дзе цяпер месціцца **галоўны корпус Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта**.

**Вось якую каву маглі падаваць у гарадзенскім кафенгаўзе:**

*Інгрэдыенты*: 4 лыжачкі кавы, дробка кардамону, дробка карыцы, два кавалачкі шакаладу, 20 мл каньяку, 20 мл малака, узбітыя вяршкі.

Змеленую каву трэба змяшаць з кардамонам і карыцай і зварыць. На дно дзвюх філіжанак пакласці па кавалачку шакаладу і заліць гарачай кавай. Калі шакалад размякчыцца, уліць у кожную філіжанку па 10 мл каньяку і столькі ж малака. На каву пакласці вяршкі.

▶ малака, разбаўленага вадой, — смакавала гэта, аднак, прасцякам, не знаёмым са смакам чыстай кавы, добра прыгатаванай. Ды нават і ў небагатых альбо скупых дамах рабілі сабе такую каву, дамешваючы да яе палову пшаніцы ці пражанага гароху. Бо абавязкова хацелася кавы, дом без кавы ўжо ўспрымаўся як прасцяцкі ці сквапны. Кава ўжо стала для людзей кепскай звычкай, як гарэлка альбо тытунь, і хто ў яе ўцягнуўся, болей без яе абысціся не могуць. Могуць жыць без хлеба, але не без кавы».

## Дом без кавы ўспрымаўся як прасцяцкі ці сквапны

У многіх еўрапейскіх гарадах прынята ганарыцца даўнасцю сваёй кававай традыцыі. Прыгадайце хаця б Вену і Львоў. Месца, дзе ў 1652 годзе паўстаў першы лондanскі *Coffee House*, які называўся *Pasqua Rosee's Head* — «Галава Рыза-пашы», цяпер адзначана мемарыяльнай шыльдай, хоць самой установы няма ўжо некалькі стагоддзяў. Першы кафенгаўз у Варшаве паўстаў ці то ў 1724-м, ці то ў 1758-м — яго адчыніў нейкі Маергофер за Жалезнай брамай Саксонскага саду.

З іншага боку, пра пачатак віленскай традыцыі публічных кавярняў вядома вельмі мала. Магчыма, гэта праз няўважлівасць даследчыкаў або праз недахоп крыніц. Звычайна першай называюць цукерню Казіміра Штраля (*Kazimierz Sztrall*) на Замкавай, 26, адчыненую ў 1852 годзе. У кавярні, вядомай пазней як «Белы Штраль», падавалі забеленую каву і падпражаную грэчку. Працавала гэтая ўстанова вельмі доўга, да Другой сусветнай вайны, а магчыма, што нават і нейкі час пасля. Цяпер тут месціцца музей падпісантаў дэкларацыі незалежнасці Літвы (*Signatarų namai*). Бо менавіта ў гэтым доме 16 лютага 1918 года і была адноўленая літоўская дзяржаўнасць. Так што гарадзенцам варта задумацца, які каштоўны рэсурс годнасці і патрыятызму, а магчыма, што і эканамічнага дабрабыту, яны так легкадумна марнуюць.



Так выглядалі **нямецкія кафенгаўзы** прыкладна ў часы Тызенгаўза.

### Філіжанка з партрэтам Касцюшкі

Тадэвуш Касцюшка, правадыр вызвольнага паўстання 1794 года, алкаголь спажываў даволі памяркоўна, затое быў заўзятым



**Філіжанкі з партрэтамі правадыроў змагання за Рэч Паспалітую** мусілі быць у кожным патрыятычным доме. Як вось гэтая філіжанка з партрэтам Касцюшкі, выпушчаная ў Францыі каля 1850 года.



Бенджамін Уэст. **Касцюшка-выгнаннік у Англіі.** 1797 год.

каваманам. Калі паўстанне, а за ім і напалеонаўскія войны даўно адшумелі, калі начальнік паўстання даўно спачыў у далёкай Швейцарыі, у дамах патрыётаў падзеленай Рэчы Паспалітай працягвалі пра гэта памятаць. І калі вялікія партрэты Касцюшкі ўлады маглі палічыць занадта дзёрзкай дэкларацыяй, то мець у доме нейкую драбніцу з партрэтам Касцюшкі лічылі за ганаровы абавязак. Партабак, сподак, але найчасцей — філіжанку да кавы.

Чаму менавіта філіжанку? Бо кава часта выступала своеасаблівым паролем для патрыётаў, культурным сімвалам, які аб'ядноўваў прыхільнікаў рэформаў. Гэта добра бачна на прыкладзе самога Касцюшкі. Да кавы ён прызвычаіўся падчас сваёй службы ў амерыканскім войску ў час вайны за незалежнасць, і з тых часоў яна зрабілася для яго своеасаблівым сімвалам свабоды. У 1794 годзе, перад самым паўстаннем, Касцюшка быў адным з аўтараў ідэі адкрыцця ў Варшаве «Дома Кавы, альбо Казіно» для афіцэраў і цывільных асоб. Кароль Станіслаў Аўгуст, які ўвесь час вагаўся, падтрымліваць яму патрыётаў ці заставацца лаяльным да імператрыцы Кацярыны II, бо шанцаў на перамогу ўсё роўна няма, выказаў занепакоенасць, што «з той кавы хочуць патроху стварыць аналаг клуба якабінцаў, а ў ім аднавіць найшкоднейшыя намеры».

А калі ў канцы жыцця Касцюшка пасяліўся ў Швейцарыі, ягоны сняданак — вельмі ранні, які ён сам сабе гатаваў, — складаўся са скібы белага хлеба і вялікага кубка кавы. На працягу дня Касцюшка піў каву некалькі разоў, сам любіў яе малоць і пражыць, ведаў шмат спосабаў яе прыгатавання.

Філіжанкі ды кубкі для кавы з партрэтам Тадэвуша Касцюшкі сёння выпускаюць і ў Польшчы, і ў Амерыцы. А чаму ў сённяшняй Беларусі ніхто не выпускае такіх? Вось і на 200-я ўгодкі смерці пана Тадэвуша ніхто да такога не дадумаўся. А шкада. Так шмат пустых спрэчак пра ягоную асобу, ▶

**Філіжанка** — кубачак для кавы. Паходзіць ад лацінскага слова *filiginеca* — «кубачак». Слова прыйшло на нашы землі ў XVIII стагоддзі разам з кавай і ўкаранілася ў беларускай, украінскай і польскай мовах.

## Кава па-паўстанцку

У моцную каву (з разліку 0,5 сталовай лыжкі молатай кавы на філіжанку) падчас гатавання ўкінуць па шчопці чорнага, духмянага і чырвонага перцаў. Калі кава пачне падыходзіць, асобна ўзяць палову сталовай лыжкі цукру, заліць хлебнай самагонкай, падпаліць. Патрымаць так некалькі секундаў і згасіць у каве. Зняць з агню гатовую каву і зверху пасыпаць тоўчаным кменам. Адразу разліць па кубках.



**Вырабы мануфактуры-«фарфурні»** ва ўкраінскім горадзе Корац на Валыні, сярэдзіна XIX стагоддзя.

так шмат экзальтаваных ды рэзкіх выказванняў. А зрабілі б лепш такую простую рэч, каб ушанаваць памяць нашага славутага земляка, героя двух кантынентаў. Апроч помніка, гэта быў бы важкі аргумент у спрэчках, ці лічыць нам гэтага героя сваім.

### «Каб кава мокай пахла, як бурштын ірдзела»

Самы, відаць, славуты наш каваман — рамантычны паэт Адам Міцкевіч, які любіў каву палымяна і прысвяціў ёй, у паэме «Пан Тадэвуш», цэлую оду:

Мужчын і дам асобнай частавалі ежай:
Разносіць посуд пачалі для кавы свежай,
Дык на падносах, хораша размаляваных,
Дыміўся рад пахучых чайнікаў бляшаных,
Стаялі пазалочаныя філіжанкі,
А побач — дробныя гарнушкі
для смятанкі.
Няма такой, як наша, кавы ў іншым краі,
Бо ў Польшчы, дзе жывуць
старыя абычаі,
Жанчына ў доме адмысловая бывае,
Кавяркай званая. Яна і здабывае
У горадзе або ў віціннікаў зярняты
і варыць так, як кажа вопыт ёй багаты,
Каб кава мокай пахла, як бурштын
ірдзела,
Чарнела, як вуголь, і вязкасць мёду мела.
Вядома, чым для кавы добрая смятанка,
На вёсцы ёсць яна. Кавярка,
устаўшы ранкам,
Паставіць чайнікі, у малочную ступае
і лёгка свежы белы цвет збанкоў згартае
У дробненькі прыгожы посуд
філігранны —
Для кожнай філіжанкі свой вяршок
смятанны.

*Пераклад Пятра Бітэля*

**Смятанка** — сінонім слова «вяршкі».

**Мока** — гатунак кавы віду арабіка, назва пайшла ад партовага горада Моха (Муха) у Емене, дзе ў XV–XVII стагоддзях прадавалася найлепшая ў тым свеце кава.

**Віці́ннік** — тут: той, хто прадае тавары з карабля-віціны.

У гэтым урыўку спрасаваныя «кававыя ўражанні» Міцкевіча за ўсё папярэдняе жыццё і зашыфраваныя адсылкі да некалькіх важных перыядаў. Па-першае, выразна чытаецца трохі змененая цытата знакамітага французскага дыпламата Шарля Марыса дэ Талейрана, канец жыцця і кар'еры якога Міцкевіч заспеў у Францыі: «Кава павінна быць гарачай як пекла, чорнай як д'ябал, чыстай як анёл, салодкай як каханне». Менавіта ў Францыі ў 1832–1834 гадах эмігрант Міцкевіч і напісаў гэтую эпічную паэму, якая стала агульнапрызнанай энцыклапедыяй жыцця беларуска-літоўскай шляхты.



**Кавярка.** Кадр з сучаснай экранізацыі «Пана Тадэвуша» (рэжысёр Анджэй Вайда).

Міцкевіч піў вельмі шмат кавы, і калі пісаў «Пана Тадэвуша», і пазней, калі паэма павольна, аркуш за аркушам, друкавалася ў парыжскай друкарні, выпрабоўваючы цярпенне нашага земляка. Парачка верных сяброў не пакідала яго, дапамагаючы ў карэктуры і побытавых справах. У прыватнасці, Стэфан Зан нязменна варыў раніцамі і на працягу дня духмяную каву, падтрымліваючы паэта «ў тонусе». Захавалася да нашых дзён нават машынка для заваркі кавы, якая адыграла такую важную ролю ў гісторыі з'яўлення паэтычнага шэдэўра.

Па-другое, трапяткое і ўдзячнае апісанне прафесіі «кавяркі», важнай службовай пасады ў тагачасных багатых дамах. За клопатам самаадданай кавяркі пані Цястоўскай Міцкевіч назіраў у маёнтку Смелеў пад Познанню, які належаў сям'і Завадскіх і дзе ён гасцяваў у жніўні 1831-га. Вельмі шкада,

## Няма такой, як наша, кавы ў іншым краі



**Машынка для кавы Міцкевіча**, якой ён карыстаўся ў Парыжы, калі пісаў «Пана Тадэвуша».



**Адам Міцкевіч у 1834 годзе**, падчас выхаду ў свет першага парыжскага выдання паэмы «Пан Тадэвуш».

што мы страцілі гэтае духмянае слова — «кавярка», карыстаючыся навамодным італьянскім «барыста». У часы Міцкевіча гэтую ролю выконвалі выключна жанчыны, а сёння мы маглі б называць мужчыну на такой пасадзе «кавяром».

Па-трэцяе, добра бачныя ў кававай одзе Міцкевіча сляды яго наваградскага дзяцінства і юнацтва. Віці́ны — так называліся невялікія рачныя судны, з якіх «кавярка» закупляе кававае зерне, — гэта векавечныя рэаліі роднага Нёмана, а не Велікапольшчы. Захаваліся сведчанні, што ўжо ў залатым юнацтве Міцкевіч быў закончаным каваманам. Вось лаканічныя ўспаміны Тамаша Зана пра іншы жнівень, 1820 года, з Туганавічаў, дзе толькі разгаралася рамантычнае каханне Міцкевіча да Марылі Верашчакі: «Сапраўды райскае жыццё: грушы, кава, яблыкі, віно, выдатныя абеды, гарбата, коні, Марыля». А яшчэ праз 2 гады,

## Грушы, кава, яблыкі, віно, выдатныя абеды, гарбата, коні, Марыля

у Коўне, даведзены да крайняй ступені нервовага знясілення праз замужжа Марылі і ў прадчуванні блізкіх непрыемнасцяў з-за справы філаматаў, Міцкевіч цэлымі днямі нічога не есць і падтрымлівае свае сілы толькі кавай і тытунём.

«Няма такой, як наша, кавы ў іншым краі», — гэта Міцкевіч пра ўсю былую Рэч Паспалітую, перадусім жа пра сваю ўлюбёную Літву: Вільню і Коўна, Наваградак, Туганавічы і Завоссе (у часы Міцкевіча Літвою называлі ўсе землі былога Вялікага Княства).

А калі б Міцкевіч не заахвоціўся да кавы ў бацькоўскім доме, то ён бы дакладна зрабіў гэта ў гады вучобы ў Віленскім універсітэце. Строга кажучы, студэнтам было забаронена наведваць кавярні, але ці мала што забаронена студэнтам! Вось як апісвае атмасферу ў віленскіх кавярнях іншы знакаміты літаратар таго часу (заўважым, дзеянне адбываецца на 30 гадоў раней за агульнапрынятую дату заснавання першай вядомай віленскай кавярні):



Як правіла, **каву пражылі ў такіх чыгунных жароўнях,** хоць у сапраўдных знаўцаў больш цанілася зерне, пражанае ў керамічных рынках, бо яно не мела металічнага прысмаку.

> «Кавярні, якія любіла моладзь, былі розныя. У адных гулялі ў шахматы, у другіх чыталі часопісы ды разважалі пра літаратуру, а ў іншых фартэпіяніст ратаваў часам Рэнера. Паэт Крыштаповіч дэкламаваў свае паэмы. Насамрэч, студэнтам забаранялася наведваць кавярні, але былі гадзіны і схаваныя пакойчыкі, у якіх студэнты частаваліся цыкорыевым нектарам, не баючыся адведзінаў бэдэля. Гаспадыні кавярань, заўжды ласкавыя да моладзі, прымалі яе з усмешкаю. Ніхто не піў столькі кавы, як студэнты, бо часта кава замяняла ім абед».
>
> *Юзаф Ігнацый Крашэўскі «Вобразы жыцця і падарожжаў»* ◆

**Бэ́дэль** — наглядчык, які сачыў за студэнцкай дысцыплінай, у тым ліку за сценамі ўніверсітэта, аналаг сённяшніх адказных за выхаваўчую работу.



**Кафэ «Тартані»** — папулярнае месца сустрэчы пісьменнікаў, мастакоў, палітыкаў у Парыжы часоў Міцкевіча. Літаграфія Эжэна Шарля Франсуа Герара, 1856 год.



# Героі беларускай гісторыі
## *расказваюць пра сябе*

Імя: **Вітаўт**

Статус: **князь-ваяр**

Рысы характару: **амбітнасць, ваяўнічасць**

Суперздольнасць: **неймаверная фізічная сіла**

Сімвал: **коннік з мячом**



**Я Вітаўт, сябры, а ёсць у мяне брацік Ягайла.** Нас заўжды ўспамінаюць разам. Чаму? Такія ўжо мы з ім яркія людзі!

**У нас з Ягайлам усякае было, што казаць.** Калісьці нават у замку мяне трымаў, у Крэве. Баяўся, я ў яго ўладу адбяру. А можа, проста не хацеў расставацца? Прыйшлося ўцякаць. Ад уласнага брата!

**Ну нічога, памірыліся потым.** Ягайла Польшчай кіруе, а я — Вялікім Княствам. Хоць былі яшчэ сякія-такія непаразуменні, канечне. Вось на Грунвальдскай бітве: я ў бой, а ён маліцца. Але перамаглі крыжакоў, і гэта галоўнае.

**Мы з Ягайлам любім сустракацца.** Якія б ні былі ў яго каралеўскія справы, а на Каляды абавязкова ў Вільні бывае — і святкуем разам.

**За пару дзён, як ганец прыскача, раскажа мне, што Ягайла ўжо за Горадняй, выязджаю яму насустрач.** Люблю сустракаць гасцей па дарозе. І госцю прыемна, і сам праветрыўся ды людзям паказаўся (вялікі князь, як-ніяк, хай пабачаць ужывую — не толькі ж з пячаткі на падданых глядзець).

**Дзіцячая цацка-вятрак** часоў Вітаўта.

**Мы з Ягайлам, як былі малыя, усё гулялі разам.** А цяпер наша з ім любімая забава — ловы. Паляванне. Гэта ў ваш час яно без патрэбы, а ў нас калі не ўпалюеш — не паясі. Ягайла, бедненькі, тыдзень некалі ў Белавежскай пушчы паляваў, каб на сваім вяселлі ўсіх накарміць. Да таго ж, у наш час не было ружжаў, хадзілі ў лес з дзідай і лукам. Ці ты мядзведзя — ці ён цябе. Небяспека пужае і вабіць — вось чаму і я, і ўсе мае сябры так любяць ловы. Нават і пані нашыя, бывае, нічога не кажучы, вырушаюць у лес са світай — і да вечара гойсаюць за зайцам ці ласём. Мы пасля сварымся на іх, канечне.

**Як прыязджае Ягайла, мы з ім папалюем як след — і за стол.** Смажаныя куры, салёныя грыбочкі, упаляваная дзічынка, агурочкі, капустка квашаная, печаная рэпа... А рыбы! Карасі, асятры, селядзец з цыбулькай... Вось расказваю вам, а ў самога слінкі цякуць.

**А больш за ўсё я люблю белы хлеб.** Не часта ў нас паясі пшанічнага хлеба, той яшчэ далікатэс. Таму калі кухар пячэ — расцягваю задавальненне як магу, ем па кавалачку ўвесь дзень.

**Як наядаемся, дык трэба ў скокі — растрэсці.** Нам з Ягайлам жываты нарошчваць ні да чаго — як-ніяк рыцары. Калі вайны няма (было пару такіх гадоў за ўсё маё жыццё), трэніруемся на турнірах. Вось гэта спорт! Яны ў нас на любы густ: хочаш конна біся, хочаш пешкі, можаш адзін, можаш з сябрамі. Хочаш меч бяры, хочаш дзіду. Вядома ж, на турніры ніхто нікога не забівае, мячы тупыя — галоўнае проста перамагчы: аглушыць ці з каня скінуць... Пераможца атрымлівае прыемны прыз: даспехі, зброю ці вясёлага каня...



**Пячатка Вітаўта.**





ФОТАІЛЮСТРАЦЫІ З АЛЬБОМА «THE HISTORY AND COLLECTIONS OF THE PALACE OF THE GRAND DUKES OF LITHUANIA»

І ў часы вялікіх князёў умелі жартаваць! **Зайцы ўпалявалі паляўнічага і сабаку.** Кафля з печы ў Палацы вялікіх князёў у Вільні.

**Ягайла мне не родны, а стрыечны.** Гэта нашы таты родныя браты: мой тата — Кейстут, Ягайлаў — Альгерд. Імёны ў нас ва ўсіх, як бачыце, тыя яшчэ. У ваш час ужо, напэўна, так не называюць? Гэта імёны язычніцкія, бо ўсе мы, нашы бацькі і дзяды ад нараджэння язычнікі. Дзядулю майго, Гедыміна, нават пахавалі з любімым канём, каб і на тым свеце мог на ім гойсаць.

**Мы з братам пахрысціліся.** Праўда, ужо дарослымі. Усе суседзі ў нас хрысціяне, і трэба, каб яны ўспрымалі нас як роўных. Пасля хрышчэння ў мяне з'явілася яшчэ адно імя, мабыць, больш звыклае для вас — Аляксандр.

**Што яшчэ пра маю сям'ю...** Мая дачка, Сафійка, замужам за маскоўскім князем. Падабаецца мне гэты хлопец, Васіль. Спакойны, таварыскі — з ім і пагаварыць можна, і ў шахматы сыграць. Мы, бывае, сустракаемся ў Смаленску — напаўдарогі між Вільняй і Масквою. Часта Вялікдзень адзначаем разам. Як дзеткі пайшлі, то Сафія з Васілём і іх з сабой бяруць. А тыя ўжо як любяць да мяне прыязджаць!

**Па-першае, любяць мае падарункі.** А я люблю іх дарыць! І сябры, і тым больш дзеці ды ўнукі ад мяне заўжды нешта маюць: новы шлем, футраную шапку, абшыты золатам каптан, набор гліняных коннікаў...

**Па-другое, са мной весела!** Тыдні пралятаюць незаўважна. Стукаемся пісанкамі, пад'ядаем, што я ўпаляваў. Або ляжам з унукамі на мядзведжым футры перад камінам і песні спяваем. От навучыў іх нашай «Багародзіцы», якую пад Грунвальдам спявалі: Багародзіца, Дзявіца, Богам славёна, Марыя... Слугі нам чытаюць жыції святых, а мы з унукамі потым адно аднаму пераказваем, хто што запомніў. Я ў хрысціянстве нядаўна, мне ўсё ў навіну, а яны малыя, ды столькі ўжо павывучвалі!.. Вучу іх трошкі беларускай і літоўскай мове, бо ў сваёй Маскве адно рускую чуюць.

**З гадамі стаў я цаніць сяброўства.** Неяк выйшла, што сяброў у мяне многа — і на захадзе, і на ўсходзе.

**Адзін Тэўтонскі ордэн чаго варты!** Гэта ж як мы біліся, як мы змагаліся некалі! А заключылі мір, сустрэліся за сталом перамоў — дык нармальныя, аказваецца, рыцары! І пагаварыць ёсць пра што, і пажартаваць. З гадамі надта я пасябраваў з іх магістрам. Цяпер як засумую ці прыхварэю, пішу яму ліст. Косці, маўляў, ныюць, зубы выпадаюць (бывае такі настрой, што хочацца паскардзіцца). А ён мне ў адказ найлепшага доктара з іх двара пасылае. І запіска: «Гэта мой найлепшы знаўца атрут... ой, лекаў. Жартую, дружа. Папраўляйся».

**Мне так прыемна!** Адправіў яму ўзамен свайго найлепшага блазна са спісам жартаў, якія абавязкова павінен расказаць. Аддзячыў паслугай за паслугу.

**Сябрую і з татарамі з Залатой Арды.** Некалі я ад іх ледзьве ўцёк! Тануў нават, паранены татарскай стралой. А цяпер некаторыя з іх жывуць у маёй дзяржаве, працуюць на мяне. Цяпер і піруем, і ваюем разам.

**Я гаспадар Літвы, але не кароль.** А многія мае сябры — ужо каралі. Збіраюся каранавацца і я. Не ўсе, канечне, гэтаму рады. Нехта вось даслаў запіску ў малюнках, што выкрадзе маю карону і пераплавіць на гузікі. Але зайздроснікаў ва ўсе часы хапае, ці не так? Калі на кожнага будзеш звяртаць увагу, нічога не даб'ешся.

**Я вось на зайздроснікаў не зважаў,** рабіў як сам ведаю — і нечага ж дасягнуў у жыцці. У ваш час мне нават помнікі ставяць і тралейбус у гонар мяне назвалі (дарэчы, што гэта такое?), і нават у школе вы праходзіце, які я быў слаўны, — чытаеце «Пахвалу Вітаўту». Я сам чытаў — аўтар невядомы, але надта ўжо ліслівы. Ці мо і праўда думае, што ўсё ў нас тут так высакародна... Ды не, жыццё тут звычайнае, і сітуацыі бываюць усякія, гэтак жа, як і ў вашым XXI стагоддзі.

**Калі пабачыце мне чарговы помнік, успомніце не толькі мае слаўныя перамогі, але і штосьці чалавечае.** От, напрыклад, як я са слугой у шахматы гуляў. Таемна! На грошы! Жонка нічога не ведае, таму цссс!..



**Шахматы часоў Вітаўта.** З раскопак на месцы віленскага Палаца вялікіх князёў.

Мастачка — Кацярына Першына.
Запісалі Паўліна Скурко, Дар'я Астрагалова

# Алмазы Сяргея Пясецкага

1926 год. Новая Вілейка пад Вільняй. Кантрабандысту Сяргею Пясецкаму робяць прапанову, ад якой ён не можа адмовіцца...

















































Сюжэт і малюнкі: Алесь Кіркевіч
Дызайн: Воля Новік

# ФРАНЦЫСК


ВІЛЬНЯ. 1520. РЭЗІДЭНЦЫЯ БІСКУПА ЯНА З КНЯЗЁЎ ЛІТОЎСКІХ.
Сядай, разбірайся. У правым кутку тое, што трэба перакласці, у левым – пошта, напішы адказы, а вось гэта ў першую чаргу – тэзісы заўтрашняй прамовы, дапрацуй. І дакументацыю на новы касцёл правер. Мяне не турбаваць, я на імшы.


Ты ў мяне скора пра свае кніжачкі забудзешся.




ПРАЙШОЎ ТЫДЗЕНЬ.
Ну, як поспехі?
Ваша правялебнасць, можа, яшчэ нейкая праца ёсць?


Калі на сёння ўсё, я ў шынку буду, на Нямецкай. Спатрэблюся – пашліце па мяне… паслушніцу. Толькі маладую і прыгожую.


У шынок? Ты піць пачаў? Глядзі мне!
Неа, дзелавая сустрэча.


І ўзяў жа самую тоўстую кнігу. Але трэба ўразіць інвестараў.
Гэх, спазняюся. Скарочім шлях.

# МАРГАРЫТА

*Сюжэт: Андрэй Скурко*
*Малюнак: Антаніна Пашкевіч*


























## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Правільная кніга» (вул. Куйбышава, 13, каля рынку)
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

**Падпісны індэкс 00469**

# Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж»

- Экскурсійнае абслугоўванне па гісторыка-архітэктурных помніках Нясвіжа, па пастаянных экспазіцыях Палацавага ансамбля, Ратушы
- Прадастаўленне аўдыягідаў
- **New!** Начная экскурсія-анімацыя
- Арэнда залаў для правядзення канферэнцый, семінараў, пасяджэнняў і іншых мерапрыемстваў
- Тэатралізаваныя цырымоніі віншавання маладых
- Фотасесіі, фота ў княжацкіх строях
- Правядзенне квэстаў, канцэртаў, экскурсій-анімацый, спектакляў (па замове)
- Арэнда катэджа
- Крамы сувеніраў і эксклюзіўных падарункаў



НЯСВІЖ
НАЦЫЯНАЛЬНЫ
ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ
МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК

**Інфармацыйна-касавы цэнтр:**
тэл. +375 1770 20602,
+375 29 5518051, +37529 1903249,
e-mail: excursions@niasvizh.by

З больш падрабязнай інфармацыяй можна азнаёміцца на афіцыйным сайце **www.niasvizh.by** і на старонках музея-запаведніка ў сацыяльных сетках.

ДЗЯРЖАЎНАЯ ЎСТАНОВА
«НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ МУЗЕЙ-ЗАПАВЕДНІК "НЯСВІЖ"»
УНП 600207920

## НА КАЛЯДЫ — ДА РАДЗІВІЛАЎ!